# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (75) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2016 г.



***Уладзімір Урбановіч*** (2.08.1921 г., в. Пудзіна, Лідскі павет - 2.02.1999 г., в. Валеўка, Наваградскі раён), педагог, краязнавец, кіраўнік музея Валеўскай СШ, аўтар кніг па краязнаўстве.

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 75 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2016 г.

## У НУМАРЫ:

















**На першай старонцы выкладкі альтанка “Хмель да 140-годдзя Лідскага піўзавода” па вуліцы Савецкай у Лідзе.** *Здымак С. Судніка.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**7 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 3171.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.09.2016 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.12.2016 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 12300 руб.**
**індывід. 6 мес. - 24600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792





# Ад мінулага ў сёння і ад сёння ў заўтра вядзе нас друкаванае слова

## *Першы фестываль лідскай кнігі і друку*

Фестываль лідскай прэсы і кнігі "Ад мінулага ў сёння і ад сёння ў заўтра вядзе нас друкаванае слова" пры вялікім зборы народу правяла Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы пры падтрымцы Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" 15 верасня на ганку бібліятэкі. Ганак тут беларускі, змяшчае мо дзве сотні чалавек.

У рамках фестывалю на тарцавой сцяне бібліятэкі размешчаны банер з пазнакай "500 год ад пачатку беларускага кнігадрукавання". Па факту гэта першы банер у горадзе да будучага ўсебеларускага юбілею. Распрацавала банер супрацоўніца бібліятэкі Дар'я Марцінкевіч. Назва на фасадзе будынка ўтрымоўвае толькі словы "Цэнтральная раённая бібліятэка", то цяпер ёсць і імя Купалы, і яго словы, і нават партрэт.

Сярэднявечная музыка гурта "Скудрынка" і фальклорна-сучасныя песні гурта "Талер" распачалі імпрэзу і стваралі фон усёй дзеі. Тым больш, што кніжная традыцыя на Лідчыне вельмі даўняя. У 1576 г. Ян Карцан родам з-пад Ліды ў друкарні Яна Кішкі друкуе сачыненне С. Буднага «Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры» і працу Цыцэрона «Аб павіннасцях», перакладзеную на польскую мову С. Кашуцкім. У 1598 годзе лідскі староста Ян Абрамовіч выдаў у Вільні евангелістычны "Катэхізіс", які змяшчаў 300 рэлігійных песень. І не так важна, якую з
















***Банер да 500-годдзя беларускага кнігадруку***

гэтых датаў хто возьме за пачатак лідскага друку, галоўнае, што той пачатак быў і быў не ў 1917 годзе.

Удзел у фестывалі бралі “Лідская газета”, “Прынёманскія весткі”, выдавецкі дом ТБМ з “Нашым словам”, “Лідскім летапісцам” і альманахам “Ад лідскіх муроў”, Лідская друкарня, кнігарня “Кніжны свет”, “Саюздрук”. Былі арганізаваны кніжныя выставы "Летапіс друку Беларусі", "Лідскія перыядычныя выданні", "Лідчына літаратурная", выстава-продаж сувенірнай і паліграфічнай прадукцыі.



Адным з першых выступіў святар Свята-Георгіеўскага храма-помніка Уладзімір Камінскі, ён спыніўся на постаці Пятра Бітэля, які нарадзіўся ў Радуні, быў ахрышчаны ў Лідзе і варты таго, каб быць тут належна ўшанаваным. Выступалі прадстаўнікі дзяржаўнай “Лідскай газеты”, недзяржаўных “Прынёманскіх вестак”, “Кніжнага свету” і “Саюздруку”, рэдактар “Нашага слова”, “Лідскага летапісца” і альманаха “Ад лідскіх муроў” Ста-

ніслаў Суднік, маркетолаг Лідскай друкарні Ларыса Кавальчук. “Прынёманскія весткі” арганізавалі латарэю і разам з турфірмай “Адрас лета” разыгралі сярод сваіх чытачоў турыстычную паездку ў Санкт-Пецярбург.

З Менска спецыяльна на фестываль прыехаў шчыры сябар г. Ліды, паэт і даследчык літаратуры Міхась Скобла, які чытаў свае вершы.

Намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны бард Сяржук Чарняк выканаў песню пра “Наша слова”, напісаную ім спецыяльна пад фестываль на тэкст Сяргея Чыгрына са Слоніма.



***Наша слова***

*Каб ў хаце гучала родная мова,*
*І грэла нам душу і сэрца:*
*Чытайце заўсёды, сябры, "Наша слова",*
*Каб словам бацькоўскім сагрэцца.*

*Чужых нам ніколі не трэба замоваў,*
*Чужых не жадаем праклёнаў.*
*Чытайце заўсёды, сябры, "Наша слова" -*
*Жывіце прыгожа, натхнёна.*

*Хай ліўні смяюцца пад гром перуновы,*
*І ветры гуляюць на волі…*
*А мы не баімся, бо ёсць "Наша слова" -*
*І нас не спалохаць ніколі.*

*Ці сонечным ранкам, ці ў час вечаровы,*
*Мы з мовай задумы ўсе здзейснім.*
*Чытайце заўсёды, сябры, "Наша слова" -*
*Лячыцеся казкай і песняй.*

*Гасцей сустракаем заўжды адмыслова,*
*На стол саматканы засцелем абрус…*
*Чытайце заўсёды, сябры, "Наша слова" -*
*І жыць будзе тут Беларусь!*

Падчас фестывалю акцёры Лідскага народнага тэатра ігралі сцэны з “Паўлінкі”, “Кніжны свет” прадаваў кнігі, актывісты ТБМ раздавалі “Наша слова” і паштоўкі.

Пасля перапынку прайшла першая прэзентацыя новай кнігі слыннага беларускага пісьменніка, вядомага паэта і журналіста Міхася Скоблы. Зборнік "Саркафагі страху" стаўся 84-м выпускам Бібліятэкі СБП "Кнігарня пісьменніка".




"Саркафагі страху" Міхася Скоблы - творчая справаздача за апошнія дзесяць з лішкам гадоў літаратурнай працы, у тым ліку і як палеміста (на хвалях Беларускай службы "Радыё Свабода"), і як гісторыка літаратуры, укладальніка шэрагу кніг спадчыны беларускіх аўтараў. Як блогер, Міхась Скобла выбірае тэмы прыкметных праяваў абсурду ў сучаснай дзяржаўнай культурнай палітыцы - недабудаванасць нацыянальнага праекту і вечная асцярожнасць дзяржаўнай ідэалогіі, дваістасць стаўлення да беларускага ў беларускіх дэ-юрэ ўладаў, пастаяннае ігнараванне найвыдатнейшых постацей айчыннай культуры - усе гэтыя паказальныя рухі ўладных культуртрэгераў абавязкова трапляюць у поле зроку Міхася Скоблы.

Шмат старонак у кнізе аддадзена і памятным старонкам: успамінам пра нядаўна адышоўшых аўтараў Беларусі і Украіны: Змітра Сідаровіча, Івана Лепешава, Уладзіміра Дамашэвіча і інш. Знаходзіцца месца і нататкам на палях прачытаных кніг, водгукам на зборнікі вершаў і гістарычныя даследаванні, падарожным нарысам.

Немалая частка кнігі прысвечана Ларысе Геніюш, што і зразумела: якраз у апошняе дзесяцігоддзе Міхась Скобла стаўся найбольш вядомым даследчы-





кам зэльвенскай аўтаркі - падрыхтаваў да друку некалькі тамоў ейнай перапіскі, двухтамовік выбраных твораў і аднатамовік у "залатой" серыі "Беларускага кнізабору", кнігу ўспамінаў і персанальны выпуск біяграфічнага альманаха "Асоба і час" пра Ларысу Геніюш.

Напісаныя выдатным стылістам, эсэ Міхася Скоблы стануць добрым падручнікам беларускай мовы для тых маладых журналістаў, хто толькі пачынае пісаць і прадумваць свае першыя аналітычныя артыкулы.

Міхась Скобла падарыў бібліятэцы “Саркафагі страху”, а таксама кнігу Мікалая Улашчыка “Даць народу гісторыю. Успаміны, лісты”, якую ён укладаў разам з Аляксеем Каўкам, а таксама коратка пазнаёміў прысутных з постаццю Мікалая Улашчыка.

На апошнім этапе фестывалю ў чытальнай зале бібліятэкі была адкрыта партрэтная галерэя супрацоўнікаў даваеннай рэдакцыі газеты “Ziemia Lidzka” - Уладзіслава Абрамовіча, Міхала Шымялевіча, Аляксандра Снежкі, Антона Грымайла-Прыбыткі.

Выстаўлены рэпрадукцыі малюнкаў лідскага мастака Вадзіма Вераб’ёва, зробленых на аснове даўняй фатаграфіі ў польскай газеце. Фатаграфія была вельмі дрэннай якасці, і адзіным выйсцем было партрэты намаляваць.








Пра лідскіх даваенных краязнаўцаў і іхнія лёсы распавялі Станіслаў Суднік і Леанід Лаўрэш. Была падкрэслена іх краёвая пазіцыя, чаго варты хаця б той факт, што Міхал Шымялевіч быў чальцом Лідскай гарадской рады ад ТБШ, адзіным чальцом ад ТБШ у Лідзе.

Такім чынам першую спробу фестывалю лідскай кнігі і друку можна лічыць удалай, а таксама добрай рэпетыцыяй перад мерапрыемствамі наступнага 2017 года, года 500-годдзя пачатку беларускага кнігадрукавання.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# КРОНІКА ЛІДЫ




У пачатку ліпеня ў Лідскай друкарні выйшла кніга паэзіі лідскай паэткі **Таццяны Сямёнавай** "Позвала судьба в дорогу".




12 ліпеня СТАА **"Бел-Пласт-Інтэрнэшнл"** (дырэктар Анатоль Ленідавіч Вялікін) атрымала прэмію СНД за дасягненні ў галіне якасці прадукцыі і паслуг.



У сярэдзіне ліпеня ў выдавецтве ЮрСаПрынт (Гародня) выйшла кніга **Леніда Лаўрэша** "Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне".





22 ліпеня ў Лідзе на базе былога завода "Ізатрон" адкрыты цэх па вытворчасці антыбіётыкаў канцэрна **"Белмедпрэпараты"**.






У жніўні настаўніца рускай мовы і літаратуры СШ № 12 **Наталля Грэсь** стала пераможцам конкурсу маладых настаўнікаў Расейскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь на лепшы ўрок па літаратуры "Сіла слова".



У канцы жніўня каманда па мініфутболу **"Лідсельмаш"** стала ўладальнікам Суперкубка Беларусі.



9 верасня на аграсядзібе **"Гасціна"** ў Песках пад Лідай прайшоў Першы лідскі фэст патрыятычнай беларускай песні. Такім чынам лідзяне і госці фестывалю адзначылі Дзень беларускай вайсковай славы.




У пачатку верасня чальцом Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь абрана старшыня Лідскага раённага савета дэпутатаў **Інэса Генадзеўна Белуш**.

11 верасня адбыліся выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.
Па Лідскай выбарчай акрузе № 55 абраны **Навумовіч Андрэй Мікалаевіч**.
Па Дзятлаўскай выбарчай акрузе № 56 абраны **Міхневіч Валянцін Уладзіміравіч**.
Па Наваградскай выбарчай акрузе № 57 абраны **Папко Вольга Мікалаеўна.**






28 верасня Ордэн Маці атрымала лідзянка **Рэгіна Камінская**.



30 верасня ў Свята-Пакроўскай царкве вёскі Ганчары Лідскага раёна ўшанавалі памяць святара **Мікалая Усціновіча**, які шмат гадоў аддаў служэнню ў гэтым прыходзе. Часы яго служэння прыпалі на самы цяжкі перыяд у гісторыі мінулага стагоддзя - на Другую сусветную вайну і пасляваенныя ганенні вернікаў. У час вайны святар умела наладзіў кантакты як з акупацыйнымі ўладамі, так і з партызанамі, чым выратаваў шмат жыццяў сваіх прыхаджанаў. Пасля вайны па ілжывым даносе быў арыштаваны і сасланы на 25 гадоў. Пазней прысуд быў заменены на 7 гадоў лагеру. Пасля вяртання з Сібіры, айцец Мікалай працягнуў служыць вернікам Гарадзенскай вобласці.

У Свята-Пакроўскай царкве прайшла паніхіда па айцу Мікалаю Усціновічу з нагоды 100-й гадавіны з дня яго нараджэння. Архіепіскап Лідскі і Смаргонскі Парфірый асвяціў памятную шыльду на будынку царквы. Пасля чаго адбылася ліція на магіле протаіерэя ў Лідзе, памятная вечарына і літаратурныя чытанні. Закончыліся памятныя мерапрыемствы канцэртам хораў цэркваў Лідскага дабрачыння.



***В.І. Саітава***

# Да 80-годдзя газеты “Ziemia Lidzka”

Cena numeru 25 gr.

Rok I. LIDA, dnia 15 kwietnia 1936 r. Nr. 1.

**ZIEMIA LIDZKA**

Miesięcznik krajoznawczo-regjonalny

pod redakcją WLADYSLAWA ABRAMOWICZA

Redakcja i Administracja: Lida, Zamkowa 4/7. tel. 73. Warunki prenumeraty: rocznie 3 zł., półrocznie 1.50.

Rękopisy zwraca się po uprzedniem nadesłaniu znaczka pocztowego na porto.

Dlaczego „Ziemia Lidzka"?

KONKURS NA RYSUNEK TYTUŁOWY.

У невялікім горадзе Лідзе Наваградскага павета (у верасні 1938 г. у ім налічвалася 26 257 жыхароў) не існавала буйных навуковых, асветных ці культурных цэнтраў. Аднак там жылі людзі, якія ведалі і шанавалі гісторыю краю, продкаў, імкнуліся зберагчы кожную адметнасць мінулага і сучаснага ладу жыцця і здолелі раскрыць гэтыя каштоўнасці для многіх людзей. Патрыётам горада быў бургамістр Юзаф Задурскі, дапамога якога спрыяла здзяйсненню важных краязнаўчых праектаў. У Лідзе, як і ў многіх гарадах і мястэчках Заходняй Беларусі, актыўна і плённа працавала краязнаўчае таварыства. Гарадская бібліятэка, у якой налічвалася 10 000 тамоў, была адной з лепшых на заходнебеларускай зямлі. Сучаснікі адзначалі, што ў яе фондах былі найнавейшыя выданні сусветнай літаратуры, творы, вызначаныя высокімі ўзнагародамі: Нобелеўскімі прэміямі і інш. У фондзе мэтанакіравана быў выдзелены раздзел краязнаўчай літаратуры.

У 1936 г. быў арганізаваны выпуск выдатнага краязнаўчага часопіса "Лідская зямля" (Ziemia Lidzka"). Часопіс выходзіў штомесячна на польскай мове пад рэдакцыяй вядомага краязнаўца Ўладзіслава Абрамовіча. Глыбокая любоў да родных мясцін, талент гісторыка і выдатнага арганізатара дапамагалі яму сабраць кола адменных аўтараў, сярод якіх быў і сам рэдактар. Менавіта У. Абрамовічу належыць цудоўная кніжка "Strony Nowogrodzkie" ("Наваград-скія мясціны"), якая атрымала 3-ю прэмію на літаратурным конкурсе, праведзеным прафесіянальным саюзам польскіх пісьменнікаў у Вільні. У рэдакцыйна-выдавецкі камітэт уваходзілі Антоні Грымайла-Прыбытка, Аляксандр Снежка і Міхал Шымялевіч. Было выдадзена 35 нумароў, 6 з іх - здвоеныя. Першыя тры гады штомесячнік выдаваўся ў выглядзе 8-28 старонкавага часопіса фарматам 19х26 см, у апошні год - у выглядзе 30-60 старонкавых кніжачак фарматам 16х20 см. Рэдакцыя штомесячніка ў 1936-38 гг. размяшчалася ў Лідзе на вул. Замкавай, 4, у 1939 г. - на вул. імя Сувальскага палка, 3. Усе нумары часопіса былі надрукаваныя ў друкарні Ш. Зяльдовіча. Кошт часопіса 25-30 грошаў у першы год выдання, і па 50 грошаў у наступныя, кошт здвоеных нумароў 1 злоты. Падпісны кошт у 1937 г. складаў 4 злотыя, з верасня 1938 г. - 5 злотых. Гэта быў адзіны краязнаўчы часопіс, які выдаваўся на паўночна-ўсходніх землях Рэчы Паспалітай.

У часопісе былі апублікаваныя дзесяткі арыгінальных найцікавых артыкулаў па геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі Лідскай зямлі і прылеглых тэрыторый. Пра рэкі Нёман, Дзітва, Лебяда, Гаўя і Жыжма (М. Шымялевіч), пра рэльеф і глебы (А. Грымайла-Прыбытка); пра тарфяныя паклады (А. Нявесцін), пра грунты і выдатныя камяні-валуны (М. Шымялевіч), пра дарогі: "Гасцінец Лідскі" (А. Снежка), "Гасцінец польскі", "Старадаўняя пошта і тэлеграф" (М. Шымялевіч); па гісторыі сёлаў, мястэчкаў і культавых устаноў: пра Белагруду, Дворышча, Тракелі (М. Шымялевіч), пра Слабаду і Бароўку (У. Абрамовіч), пра Шаўры, Ярэмічы і Мірскі замак (А. Снежка), пра капліцу ў Цвермах (Г. Баярунец). Пра лёсы людзей, якія пакінулі добрую памяць на Лідскай зямлі - пра Юрыя Ільініча, Вандаліна Шукевіча, Станіслава Баніфацыя Юндзіла, пра Напалеона Чарноцкага, Даніэля Нарбута (А. Снежка), пра Марыю Шукевіч і капітана Мяніцкага (Ю. Дзічканец), пра Марыю Ласковіч (У. Абрамовіч), пра лідскіх піяраў (М. Шымялевіч). Пра этнаграфічныя асаблівасці, мясцовы ўклад жыцця і народныя звычаі: "Сваты", "Юрай", "Вяселле", "Народныя варожбы", "Барцякі і барцянская воласць" (М. Шымялевіч), "Вясельныя звычаі", "Насельніцтва паветаў Лідскага і Шчучынскага з пункту погляду антрапалогіі" (А. Грымайла-Прыбытка), "Сёмуха" (Ю. Роўба), "Народныя прымаўкі" і "Уборачныя песні" (Урбановіч). Былі апублікаваныя найцікавыя мемуары Мірона Б. Нарбута аб жыцці лідзян у сярэдзіне XIX стагоддзя. Значная ўвага была нададзена гісторыі лістападаўскага 1831 і студзеньскага 1863 г. паўстанняў, падзеям 1812 г. (А. Грымайла-Прыбытка), савецка-польскай вайне 1919-21 гг. Менавіта ў "Ziemi Lidzkaj" Уладзімір Галубовіч апублікаваў вядомы сярод археолагаў артыкул "Гарадзішчы і курганы Лідскай зямлі".

Асвятляліся эканамічныя пытанні, распавядалася аб прадпрыемствах, банках, гандлёвых тавары-

ствах. Друкаваліся матэрыялы аб піўных заводах, каўбасных прадпрыемствах, хімічным прадпрыемстве "Карона" (М. Лаўрыновіч), чыгунна-ліцейным заводзе "Поланд" (Жмігродскі). У артыкуле М. Шымялевіча "Горад Ліда ў 1938 годзе" прадстаўлена найпадрабязнейшая характарыстыка эканомікі, бюджэту горада і яго выкарыстання, адміністратыўнай сістэмы, этнічнага, сацыяльнага, прафесіянальнага і канфесіянальнага складу яго жыхароў.

Вялікая колькасць публікацый была прысвечана даследванню сувязяў Адама Міцкевіча з краем: сям'і паэта, яго дзяцінству, каханню да Марылі і яе лёсу, наведванню Наваградчыны сынам Вацлавам і многім іншым аспектам, а нумар 9 за 1938 г. цалкам прысвечаны гэтай тэме ў сувязі з правядзеннем свята "Міцкевічавых дзён", калі журналісты з усёй Польшы прынялі ўдзел у краязнаўчай экскурсіі па наваградскіх памятных мясцінах. Знаходзілі адлюстраванне і лёсы іншых людзей, якія пакінулі карысны ці памятны след на роднай зямлі.

Артыкулы ў "Лідскай зямлі" вызначаюцца навуковай грунтоўнасцю, адным з фактараў дасягнення якой было шырокае выкарыстанне даследчыкамі краю літаратуры, архіўных дакументаў і іншых крыніц. Многія артыкулы змяшчалі дзесяткі бібліяграфічных спасылак на польскія рускія, беларускія і выданні на іншых мовах, публікацыі навуковай, даведачнай, мемуарнай і іншай літаратуры незалежна ад часу і месца яе выпуска, на архіўныя друкаваныя і рукапісныя матэрыялы. Сярод крыніц нярэдка называліся бібліяграфічныя дапаможнікі.У артыкулах шырока выкарыстоўваліся архіўныя і рукапісныя матэрыялы, артыкулы ілюстраваліся фотаздымкамі памятных месцаў і герояў артыкулаў.

У разделе "Бібліяграфія" друкаваліся рэцэнзіі, рэкамендацыйныя анатацыі, водгукі, агляды новых кніг і перыядычных выданняў, якія прадстаўлялі навуковую і пазнавальную цікавасць для чытачоў "Лідскай зямлі". Рэдакцыя ўважліва сачыла за новай літаратурай пра Лідчыну і суседнія мясцовасці. Узровень ацэнак быў вельмі высокім і аб'ектыўным. Так, аўтар агляду "Запісак Беларускага навуковага таварыства" (Вільня, 1938) вельмі трапна звярнуў увагу на псеўдабеларускаю мову аўтараў некаторых артыкулаў зборніка і раіў ім звярнуцца да выдадзеных актаў Літоўскай метрыкі - "сапраўднай скарбніцы фанетыкі, марфалогіі і слоўніка беларускага". Вельмі добразычліва аўтар агляду выказаў спадзяванне, што карысная навуковая праца Беларускага навуковага таварыства будзе працягвацца.

У апошніх гадавых нумарах змяшчаліся паказальнікі зместу часопіса. Асобныя разделы яго ўтваралі пералік артыкулаў, матэрыялаў гадавой хронікі, прац, разгледжаных у біблічграфічным разделе, спіс ілюстрацый. Матэрыял у кожным разделе паказальніка адлюстроўваўся вычарпальна, гэта добра спрыяла больш хуткаму і поўнаму выяўленню неабходнай чытачу інфармацыі.

Бібліяграфічны характар меў таксама раздел "Кнігі, прысланыя ў рэдакцыю", дзе змяшчалася бібліяграфічнае апісанне твораў друку, якія маюць краязнаўчы змест.

Часопіс меў добрае паліграфічнае афармленне, вялікі фармат і змяшчаў каштоўныя і цікавыя ілюстрацыі. Гэта былі фотаздымкі герояў артыкулаў, памятных мясцін і прадметаў, ілюстрацыі з карцін і іншыя матэрыялы. Напрыклад, у 1938 г. у часопісе было надрукавана 57 артыкулаў і змешчана 34 ілюстрацыі. У трывожным 1939 г. фармат часопіса паменшыўся, здвоены нумар 7- 8 за ліпень - жнівень 1939 г. быў апошнім.

Часопіс "Лідская зямля" быў папулярным сярод мясцовага насельніцтва. Ён спрыяў абуджэнню пачуццяў любові да роднай зямлі, імкнення ведаць яе і зыскаў павагу і высокую ацэнку як лепшы краязнаўчы часопіс у Заходняй Беларусі і нават у Польшы. Заслуга часопіса была і ў згуртаванні мясцовай інтэлегенцыі і прыцягненні яе ўвагі да даследвання роднага краю. У Лідзе выходзілі кнігі і перыядычныя выданні, напрыклад, у 1938 г. выйшлі два нумары перыядычнага выдання "Лірнік вясковы", прысвечаныя паэзіі і народнай літаратуры, заснавана "Газета Лідска". Рэдакцыя часопіса выдала таксама шэраг кніг пра Лідчыну (Ю. Дзічканец "Самаабарона Лідскай зямлі", А. Снежка "Фарны касцёл у Міры" і іншыя). У № 6 за 1939 г. на 4-й старонцы вокладкі змешчана бібліяграфічная інфармацыя пра 6 выдадзеных на аснове часопіса краязнаўчых кніг. У 1938 г. моладзь другога класа дзяржаўнай гімназіі імя К. Хадкевіча пад кіраўніцтвам настаўніцы Юзэфы Кляйндэнст правяла з вялікім поспехам краязнаўчую вечарыну. Рыхтуючы мерапрыемства, вучні сабралі шмат матэрыялаў пра бытавыя звычаі і абрады сельскіх жыхароў, выкарысталі этнаграфічныя артыкулы М. Шымелевіча з часопіса "Лідская зямля". У інфармацыі пра вечарыну асабліва падкрэслівалася, як ўдала спявалі "артысты" беларускія песні. Не выпадкова 28 траўня 1939 г. у Лідзе ўрачыста адкрыўся музейны асяродак аддзела Польскага краязнаўчага таварыства, які разглядаўся як зачатак будучага музея Лідскай зямлі. Аб часопісе пісалі ў іншых выданнях, паведамлялі па радыё ў Вільні і Баранавічах. Значэнне "Лідскай зямлі" чуйна выразіў вядомы спецыяліст па краязнаўстве прафесар Віленскага ўніверсітэта М. Ліманоўскі, напісаўшы, што часопіс "спрабуе адваліць магільную пліту забыцця з Лідскай зямлі і на свет дзённы дастаць багацці гэтага краю".

Сёння азнаямленне з матэрыяламі "Лідскай зямлі" дае нямала хвалюючых уражанняў. Часопіс багаты найцікавейшай інфармацыяй для ўсіх, хто імкнецца паглыбіць свае веды пра Лідчыну і Наваградчыну. На жаль, у буйнейшых бібліятэках Менска няма поўнага камплекту гэтага выдатнага часопіса.

Поўны збор нумароў “Ziemi Lidzkaj” выстаўлены на сайце “Pawet.net”.

**Літаратура:**

*Саітава В.І. Краязнаўчая работа ў Лідзе 20-30-я гг. // Бібліятэчны свет. № 3-1999. С. 22-23.*

*Валеры Сліўкін. Гісторыя лідскага перыядычнага друку. Частка I (да 1990 г.). Лідскі летапісец, № 2 (54).*

# Лідскія юбіляры 2016 года

# Ян Карловіч

## *180 гадоў з дня нараджэння*

Ян Карловіч паходзіў са старой ліцвінскай шляхты гербу Астоя. Як бачна з "Дэкрэту вывадных кніг" Менскай губерні, заснавальнікам роду лічыўся Сымон Карловіч, які служыў у войску ВКЛ, у харугве палкоўніка Аскеркі і валодаў паловай маёнтка Русанаўшчына (другая назва Крывое Сяло) у былым Наваградскім ваяводстве. Ён пакінуў пасля сябе двух сыноў: Антона і Мацея.

У 1727 г. продкі Яна ўжо валодалі маёнткам Падзітва Лідскага павета. Сам Ян Карловіч знайшоў ў спісах студэнтаў Гельдэйбергскага ўніверсітэта свайго продка - таксама Яна Карловіча з Вільні (Johannes Karlowoczius Vilnensis Lithuanus), запісанага ў студэнты тэалогіі ў 1619 г. Гэты продак быў кальвіністам.

Дзед Яна, Людвік Карловіч, гаспадарыў у Падзітве і Братамеры Лідскага павета ў суседстве з вялічэзным маёнткам Гародна, які належаў Радзівілам, потым - Сапегам, а потым - Тышкевічам і Патоцкім. У паперах маёнтка Гародна захоўваліся лісты Людвіка Карловіча, напісаныя ў 1816 і 1818 гг. эканому маёнтка каноніку Сянкевічу і датычныя праблемаў размежавання маёмасці.

Аляксандр Карловіч, сын Людвіка і бацька Яна, нарадзіўся ў 1799 г. Першасную адукацыю атрымаў у Лідскім піярскім калегіюме, а потым у Віленскай гімназіі, якую закончыў у 1818 г. Быў добра знаёмы з Міцкевічам і Адынцом. Меў паэтычны талент, і на гэта, звярнулі ўвагу яго настаўнікі яшчэ ў піярскай школе. Напачатку друкаваўся ў "Дзённіку Віленскім", потым на працягу жыцця - у розных паэтычных зборніках і літаратурных часопісах.

Аляксандр Карловіч быў жанаты з Антанінай з Малахоўскіх. У 1828-1831 гг. займаў розныя выбарныя пасады ў Лідскім павеце. Памёр у 1862 г. У тастаманце пажадаў быць пахаваным на сялянскіх могілках пад вялікім каменем з надпісам "Аляксандр Карловіч" і крыжам, кутым з жалеза.

Ян Аляксандр Людвік Карловіч прыйшоў на свет 28 траўня 1836 г. у Субартовічах каля Мерачы[1] Троцкага павета. Субартовічы трымаў яго бацька, але пасля яго смерці ўдава ўступіла гэты маёнткам Л. Марачэўскаму.

Ян атрымаў добрае хатняе выхаванне і адукацыю. Пра раннюю цягу да літаратуры сведчыў перапісаны і падараваны ў 1845 г. на імяніны маці сшытак з выбранымі вершамі Антонія Гарэцкага і пераклад праз два гады з расійскай мовы апавядання "Павестка" А. Марлінскага.



Добры падрыхтаваны хатнім настаўнікам, Ян Карловіч у 1847 г. пaступае ў 3-ці клас Віленскай гімназіі. У гімназіі вучыўся добра, з класа ў клас пераходзіў з пахвальнымі лістамі, а закончыў гімназію ў 1852 г. з залатым медалём. Падчас вучобы ў гімназіі вызначыўся і вялікай зацікаўленасцю да музыкі - граў на віяланчэлі. Гімназіст браў урокі, шмат рэпеціраваў і нават удзельнічаў у канцэртах.

У 1853 г. малады Карловіч паступіў на гістарычна-філалагічны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта, які паспяхова закончыў праз 4 гады. Універсітэт даў грунтоўныя веды і прыахвоціў нашага земляка да навуковай працы ў галіне лінгвістыкі.

Пасля абароны навуковай працы па заканадаўстве Лікурга, Ян Карловіч атрымаў ступень кандыдата ўніверсітэта. Тут трэба заўважыць, што некаторыя аўтары памылкова суадносяць тагачасную ступень кандыдата ўніверсітэта з сучаснай навуковай ступенню кандыдата навук, якая засталася ў Беларусі ад Савецкага Саюза і суадносіцца з еўрапейскай навуко-

вай ступенню доктара філасофіі, медыцыны, юрыспрудэнцыі ці тэалогіі[2]. Кандыдат універсітэта - першая акадэмічная ступень. Яна прысвойвалася асобам, якія закончылі з выдатнымі адзнакамі курс універсітэта. Ступень кандыдата ўніверсітэта пры паступленні на дзяржаўную службу давала права на чын 10-га класа - калежскі сакратар, што адпавядала армейскаму званню штабс-капітана.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Ян Карловіч для вывучэння гісторыі едзе вучыцца ў Парыжскі ўніверсітэт. Тут, у Парыжы ён пачаў пісаць вершы.

У 1858/1859 навучальны год малады, прагны да навукі вучоны, вучыцца ў Гельдэйбергу, слухае лекцыі сусветна вядомых прафесараў. Пасля Гельдэйберга вывучае музыку ў Брусельскай кансерваторыі, удасканальвае ігру на віяланчэлі, вучыць гісторыю і тэорыю музыкі.

Летам 1860 г. малады вучоны ўжо ў Берліне, а ўвесну 1861 г. "Кур'ер Віленскі" паведаміў, што 17 сакавіка Ян Карловіч у якасці сольнага выканаўцы прыняў удзел у філарманічным канцэрце ў Вільні, які даваўся на карысць Сыракомлі. Газета паведаміла, што на канцэрце сабраліся "вяршкі" віленскага грамадства.

З 27 лютага па 31 кастрычніка 1862 г. Ян Карловіч чыста намінальна займаў пасаду калежскага сакратара ў Віленскім павятовым судзе.

Пры канцы 1862 г. паступае ў Берлінскі ўніверсітэт, але вучыцца толькі адзін семестр, бо смерць бацькі прымусіла яго вярнуцца дахаты. З-за цяжкай хваробы і гаспадарчых клопатаў у маёнтку ён 2,5 гады жыве на радзіме. Як раз у гэтыя тады Ян Карловіч закахаўся ў Ірэну Суліструоўскую з Вішнева.

Кіраваць маёнткам пачала ягоная маці. Ян дапамагаў ёй, але сваімі думкамі ён быў у навуцы, музыцы і паэзіі. Перакладае Гайне, піша на яго вершы музыку, сам складае сатырычныя вершыкі[3].

Перад паўстаннем 1863 г. абшарнікам Звяровічам быў запрошаны на пасаду настаўніка ў маёнтак Доцішкі Лідскага павета Францішак Багушэвіч. Доцішкі знаходзіліся недалёка ад Падзітвы, і менавіта тады будучы заснавальнік беларускай літаратуры новага часу пазнаёміўся з Янам Карловічам. З 1862 па 1865 гг. пра Яна Карловіча амаль што нічога не вядома. Паводле дырэктара музея Ф. Багушэвіча у Кушлянах Алеся Жамойціна, Карловіч быў адказным за друкаваную прадукцыю паўстання і трымаў адпаведны фонд для выдавецкай справы. Пасля задушэння паўстання менавіта Ян Карловіч быў адзіным з старых сяброў Францішка Багушэвіча, застаўшыхся на свабодзе. Ён і параіў Багушэвічу выехаць на Украіну і пазычыў грошай на дарогу. Ёсць інфармацыя, што грошы Багушэвічу прывозіла менавіта будучыя жонка Яна Карловіча Ірэна Суліструоўская. Так Ян Карловіч уратаваў для Беларусі Францішка Багушэвіча[4]. Потым старыя сябры перапісваліся да канца жыцця.

На пачатку 1865 г. праходзяць заручыны Яна Карловіча і Ірэны Суліструоўскай, і пасля гэтага ён адразу едзе ў Берлін, каб працягнуць адукацыю ва ўніверсітэце. Маладая пара вырашае пашлюбіцца праз два гады - пасля заканчэння адукацыі, але бацькі нявесты патрабуюць паскорыць справу, таму Ян Карловіч прыязджае на радзіму, і 8 верасня 1865 г. адбываецца шлюб. Маладая пара адразу з'язджае ў Берлін, дзе Ян працягвае адукацыю, наведваючы лекцыі лепшых прафесараў Еўропы. Маладая жонка з цікаўнасцю дапамагае мужу ў яго навуковай працы.

У выніку, у Берлінскім універсітэце Ян Карловіч атрымлівае навуковыя ступені доктара філасофіі і магістра вольных навук.

Жадаючы заняць кафедру гісторыі ў Варшаўскай галоўнай школе бярэцца за напісанне габілітацыйнай працы па гісторыі. Адначасова займаецца пошукамі ў галіне славянскай філалогіі.

Але заняць месца прафесара ў Галоўнай школе не атрымліваецца.

Толькі ў 1871 г. Ян Карловіч атрымлівае месца настаўніка класа музыкі ў Варшаўскай кансерваторыі. Аднак хвароба вачэй не дазволіла працаваць ў кансерваторыі, і ён цалкам пераключаецца на навуку.

Этнаграфія заўсёды цікавіла Карловіча, яшчэ ў 1871 н. ён напісаў этнаграфічную кніжку "Дапаможнік для збіральнікаў народных твораў"[5]. Таму паступова вучоны спецыялізуецца на тым, што ў тыя часы мела назву "рэшткі даўняй культуры", паступова малады вучоны становіцца вядомым спецыялістам. Адначасова, ён вывучае летувіскую мову і паглыблена цікавіцца лінгвістыкай. Апрацоўвае легенду пра "Вечнага яўрэя", шукаючы яе карані ў этнаграфіі.

Восенню 1873 г. разам з маці і жонкай перасяляецца ў Вішнева, дзе, не пакідаючы навуку, на грамадскіх пачатках займаецца паляпшэннем эканамічных умоў сваёй мясцовасці. Але хутка гаспадарчыя справы бярэ на сябе жонка, даючы магчымасць Яну Карловічу займацца навукай. Менавіта тут у яго з'яўляецца жаданне заняцца вялікім слоўнікам польскай мовы - гэта праца заняла ў яго дваццаць гадоў.

У Вішневе Карловіч жыве да 1882 г. - тут былі напісаны ці спланаваны амаль што ўсе яго галоўныя працы, у тым ліку два яго славутыя слоўнікі.

Трэба сказаць, што адносіны з суседнімі абшарнікамі не скላліся, яны не разумелі памкненняў высокаадукаванага чалавека. Можа таму ён з сям'ёй усё ж перасяляецца ва ўлюбёны Гельдэйберг.

У Гельдэйбергу Ян Карловіч шмат піша, перакладае і друкуецца.

У 1885 г. жыве ў Празе і Дрэздане - працуе ў бібліятэках, знаёміцца з навукоўцамі. У 1887 г. стала пасяляецца ў Варшаве, 12 лістапада гэтага года, Акадэмія Ведаў у Кракаве абірае яго сваім чальцом[6].

У Варшаве Карловіч стаў рэдактарам толькі што створанага часопіса "Вісла". 11 гадоў ён рэдагаваў часопіс, за гэты час у ім надрукавана шмат найцікавейшых этнаграфічных матэрыялаў, у тым ліку і фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, запісаныя ў розных рэгіёнах Беларусі. У тыя ж гады Карловіч задумвае адкрыць этнаграфічны музей, прымае удзел ва ўсіх найважнейшых еўрапейскіх этнаграфічных і моваведаўчых канферэнцыях таго часу.

Ян Карловіч запісваў беларускія народныя казкі, легенды, паданні, прыказкі і прымаўкі, выслоўі


PODANIA
I
BAJKI LUDOWE
ZEBRANE NA LITWIE
JANA KARŁOWICZA.
KRAKÓW.
1887.

і інш. У 1889 і 1891 гг. запісаў для М. Федароўскага ў Ваўкавыскім павеце больш за 500 мелодый беларускіх народных песень (больш за 300 апублікаваны ў працы Федароўскага "Люд беларускі", т. 5-6, 1958-1960). Яшчэ напярэдадні ён выдаў працу "Найноўшыя даследаванні паданняў і іх зборы" (1883), а ў кнізе "Народныя паданні і казкі, сабраныя ў Літве" (т. 1-2, 1887-1888) змясціў у перакладзе на польскую мову больш за 80 беларускіх легенд, паданняў і казак, якія запісаў у Свянцянскім, Лідскім і Навагрудскім паветах. Падрыхтаваў да друку (неапублікаваны, рукапіс захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, Вільня) зборнік з 400 бел. нар. абрадавых песень (вясновых, валачобных, жніўных, талочных, радзінных, лірычных і інш.), 50 мелодый, шмат казак, легенд, паданняў, прыказак і прымавак, выслоўяў. Быў сузаснавальнікам (1884) і галоўным рэдактарам "Prac Filologicznych" ("Філалагічных працаў"). Аўтар працаў "Польская хата" (1884), "Сістэматыка песень польскага народа" (1889-95).

Карловіч - аўтар фундаментальных лінгвістычных прац "Слоўнік польскай мовы" (т. 1-8, 1900-27, у суаўтарстве з А. Крыньскім і В. Нядзьведзкім), "Слоўнік польскіх гаворак" (т. 1-6, 1900-11, закончыў Ян Лось), "Слоўнік выразаў замежнага і малавядомага паходжання..." (А-К, 1894-97). Напісаў найважнейшыя філасофскія і музыказнаўчыя працы: "Дон Карлас, каралевіч іспанскі" (1867), "Нарыс жыцця і творчасці Станіслава Манюшкі" (1884-85), "Міфалогія і філасофія" (1899)[7].

Ян Карловіч напісаў уступ да кнігі "Беларускія паданні", сабраныя Уладзіславам Вярыгай і выдадзенай ва Львове ў 1889 г. У гэтым уступе (С. 3-13.), напісаным у Варшаве 31 снежня 1887 г., Ян Карловіч акрэсліў становішча беларускай мовы, адносіны яе да ўкраінскай і рускай моваў. У прадмове Карловіч навукова паказаў, што беларуская мова - гэта асобная мова.

Даследчык пералічвае 16 асаблівасцей беларускай мовы і ўказвае на 4 асаблівасці, якіх не маюць украінская і руская мовы, што, па яго меркаванні, кажа пра асобнасць і самастойнасць беларускай мовы, гэтыя асаблівасці: 1) аканне, 2) дзеканне і цэканне, 3) тое, што гук "р" ніколі не бывае мяккім, 4) падваенне "н", "л" і "ц" ў канчатках (напр. *гаданне, вяселле, піццё*). У гэтым тэксце Карловіч пазначыў уплыў іншых моў: стараславянскай, польскай, татарскай і, у апошні час, рускай. Коратка напісаў пра беларускую літаратуру.

Мовазнавец Караль Апель успамінаў, што Карловіч выказаў яму падзяку за працу "Аб беларускай мове" (1880 г.), у якой Апель разгледзеў асноўныя фанетыка-граматычныя рысы беларускай мовы. Карловіч напісаў, што праца прынесла яму вялікую радасць, бо ў ёй ён, хаця б часткова, пабачыў выкананне сваёй старой задумкі - напісанне граматыкі беларускай мовы, якую, "падобна, я ніколі не выканаю" [8].

Ян Карловіч памёр 14 чэрвеня 1903 г. ва ўзросце 67 гадоў.

Меў двух сыноў: Эдмунда (нарадзіўся 11 сакавіка 1871 г.) і Мечыслава (нарадзіўся 11 снежня 1876 г. у Варшаве), а таксама дачку Ванду, якая была замужам за Зыгмунтам Васілеўскім, яна толькі на 3 месяцы перажыла бацьку.

***Лаўрэш Леанід.***

**Заўвагі і спасылкі:**

[1] Субартовічы (па-летувіску: Subartonys), вёска ў Аранскім раёне Аліцкага павета Летувы, 5 км на поўнач ад Мерачы. Знаходзіцца ў Дзукійскім нацыянальным парку. З 1775 г. Субартовічы былі родавым гняздом Карловічаў. Субартовічы радзіма летувіскага літаратара Вінцаса Крэве-Міцкевіча

[2] Традыцыя, застаўшаяся ад сярэднявечных універсітэтаў, якія мелі 4 факультэты: права, медыцыны, філасофіі і тэалогіі. Таму і ступень доктара адпавядала гэтым 4 факультэтам. Так атрымалася што сучасныя не медыкі, не юрысты ці не тэолагі, напрыклад - фізікі з гісторыкамі атрымліваць адну ступень - "доктар філасофіі" скарочана Ph(d).

[3] Zycie i prace Jana Karlowicza (1836-1903). Warszawa, 1904. S. 1-10.

[4] Суднік Станіслаў. Францішак Багушэвіч у паўстанні 1863 года: легенды, здагадкі, факты // Лідскі летапісец № 1 (69) - 2015. С. 28., 31.

[5] Karlowicz Jan. Poradnik dla zbierajacych rzeczy ludowe. Sklad glowny w Ksiagarni M. Orgelbranda, 1871.

[6] Zycie i prace Jana Karlowicza (1836-1903). Warszawa, 1904. S. 11-19.

[7] Ліцьвінка Васіль. Ян Карловіч // Лідскі лета-пісец № 2 (34) - 2006. С. 9.

[8] Zycie i prace Jana Karlowicza (1836-1903). Warszawa, 1904. S. 132., 60.

# Забыты бюст у Лідскім музеі

## *Да 140-годдзя з дня нараджэння Алаізы Пашкевіч (Цёткі)*

Нядаўна, 15 ліпеня 2016 года, у літаратурным аддзеле (Доме Валянціна Таўлая) Лідскага гістарычна-мастацкага музея пад час падрыхтоўкі да адкрыцця выставы "Жыве мая ліра нанова", прысвечанай зямлячцы - пісьменніцы Цётцы (Алаізе Пашкевіч) з фондаў музея была дастаўлена гіпсавая скульптура Цёткі, аўтарам якой з'яўляецца Андрэй Заспіцкі. У музейныя запаснікі яна трапіла 4 лютага ў далёкім 1960 годзе, а перададзена з Дзяржаўнай мастацкай майстэрні БССР. Гэтая скульптура размяшчаецца ў калідоры літаратурнага дома-музея. Гэта вельмі ўражвае наведвальніка. Адразу з парога сустракае Цётка. Быццам на пэўны момант Валянцін Таўлай перадаў ёй свае паўнамоцтвы як жанчыне - гаспадыні дома. Застыўшы вобраз Цёткі, паварот яе рукі, і… скульптура быццам ажывае і раіць наведвальніку завітаць на выставу і адчуць дух таго часу.

Не пералічыць работ Андрэя Заспіцкага, усталяваных у Беларусі. Вартавыя на "варотах горада" каля менскага вакзала, скульптурныя кампазіцыі на Сувораўскім вучылішчы, помнікі Максіму Горкаму, Янку Купалу, Адаму Міцкевічу ў сталіцы, помнік маці-патрыётцы Купрыянавай у Жодзіне, шматлікія мемарыяльны дошкі, сярод якіх і прысвечаная мэтру - скульптару Заіру Азгуру… Лідзянам вядомы помнік Леніну, які цяпер размяшчаецца ў скверыку ля дзіцячай школы мастацтваў (былога Дома афіцэраў). Устаноўлены ён быў 31 снежня 1958 года. Аўтарам гэтай работы з'яўляецца таксама Андрэй Заспіцкі.

*Андрэй Заспіцкі нарадзіўся ў польскім горадзе Мазавец пад Варшавай 16 лютага 1924 года. 1931 год - першы клас школы-сямігодкі. У 1937 годзе Андрэй паступіў у гімназію. У родзе Заспіцкіх усе былі служкамі выяўленчага мастацтва: прадзед (на яго імя Андрэй Міхайлавіч забыўся) - скульптар, афармляў касцёлы выявамі святых, дзед Фелікс - жывапісец, скончыў пецярбургскую Акадэмію мастацтваў, бацька - мастак-літограф. У дзеда ў майстэрні стаяла велічэзная шафа памерам з цэлы пакой, на паліцах яе стаялі кнігі па мастацтве, рэпрадукцыі. Калекцыя зацікавіла ўнука Андрэя настолькі, што на сямейнай радзе было вырашана аддаць яго ў прыватную школу, дзе ксёндз выкладаў гісторыю мастацтваў.*

*Доўга гэтая вучоба не працягнулася. Ксёндз запатрабаваў даведку з гімназіі, што дзіцяці дазволена займацца. Установа неабходную паперу не дала, бо ў Андрэя было не ўсё добра з алгебрай: ён яе не проста не любіў - ненавідзеў. Ды забаронены плод салодкі, і гімназіст зачытваецца кнігамі па мастацтве ў хатняй бібліятэцы, а маляванне для яго - спадчыннае сямейнае захапленне. І дасягненні яго ў гэтай справе былі такімі, што дзед хваліў унука, а бацька, пасылаючы ў краму, дазваляў пакідаць рэшту, каб юны талент набыў сабе пэндзлі і фарбы.*

*У 1939 годзе гітлераўцы напалі на Польшчу, дом Заспіцкіх у Варшаве згарэў, і сям'я рушыла на Усход. Бежанцы апынуліся ў Беластоку. Талент бацькі быў запатрабаваны, і сям'ю запрасілі ў Менск. Міхаіл Заспіцкі працаваў у друкарні імя Сталіна, а сям'я жыла ў бараку непадалёк....*



Дзякуючы Вераніцы Канюце, мне, аўтару гэтага матэрыялу пашанцавала ператэлефанавацца з вядомым майстрам Андрэем Міхайлавічам Заспіцкім, які жыве і працуе ў Менску. Але ўпачатку размова ішла з яго другой жонкай Грыцэнка Людмілай Іванаўнай, якая чулліва адносіцца да творчай дзейнасці мужа. Яна прызналася, што прац Андрэя Міхайлавіча настолькі багата, што злічыць вельмі цяжка. А пра тое, што ў Лідзе захоўваюцца яго работы, то, безумоўна, таксама забылі. Пры магчымасці, паабяцала, што з мужам наведае наш горад. Прызналася, што запланавана персанальная выстава скульптара, на якую запросіць і лідзян, а менавіта, супрацоўнікаў Лідскага гістарычна-мастацкага музея, якія берагуць і збіраюць гісторыю. Пашчасціла мне пагутарыць і з самім майстрам. Ён мне прызнаўся, што ягоная праца дае яму жыццё і, нягледзячы на свой сталы ўзрост (16 лютага 2017 года яму споўніцца 93 гады), яго не пакідае натхненне, якое дапамагае дарыць людзям радасць, у творах разам з ім застаецца і часцінка яго душы. А аўтара гэтых радкоў запрасіў у сваю майстэрню і паабяцаў папоўніць фонд Лідскага гістарычна-мастацкага музея сваімі работамі.

***Алесь Хітрун.***

*(Вялікі матэрыял пра Андрэя Заспіцкага будзе надрукаваны ў адным з наступных нумароў.)*

# Лёсы родных Алаізы Пашкевіч

Паэтэса, грамадскі дзеяч і публіцыст Алаіза Пашкевіч (1876-1916) нарадзілася ў фальварку Пешчын у шляхецкай сям'і, але ранняе дзяцінства прайшло пад апекай бабулі Югасі ў суседняй вёсцы Тарэсін, у маёнтку Стары Двор.

Сям'я Пашкевічаў складалася з маці Ганны з Вызгаў, бацькі Стэфана Пашкевіча, старэйшай сястры Стэфаніі, сясцёр Зосі, Караліна і Алаізы, братоў Войцаха і Язэпа.

Пры канцы лістапада 1914 г. "Наша Ніва" піша пра беларусаў на вайне, у тым ліку і пра Язэпа Пашкевіча, афіцэра з Лідскага павета[1], роднага брата Алаізы Пашкевіч (Цёткі). А ў лютым 1915 г. газета на першай старонцы друкуе некралог "Памяці Юзюка Пашкевіча", напісаны Антонам Луцкевічам[2].

У 1915 г. Алаіза Пашкевіч прыкладае шмат намаганняў для арганізацыі беларускіх школаў і настаўніцкіх курсаў у Вільні, дапамагае ў стварэнні прытулкаў, як сястра міласэрнасці даглядае хворых у тыфозным бараку. У 1916 г. памёр яе бацька, і Алаіза паехала на яго пахаванне. У Лідскім павеце лютавала эпідэмія тыфу. А. Пашкевіч засталася, каб дапамагчы хворым, але сама заразілася і памерла. Пахаваная ў Старым Двары пад Лідай.

Муж паэтэсы, інжынер Стэпонас Кайрыс успамінаў пра сям'ю сваёй жонкі: *"Алаіза Пашкевічанка, ... нарадзілася і вырасла ў Старым Двары, Васілішскай воласці, Лідскага павета Віленшчыны, на бацькавай гаспадарцы блізу ў 100 гектараў. ... Ейныя два браты, Войцах і Язэп Пашкевічы, абодва афіцэры Маладзечанскага пяхотнага палка, нежанатыя, мелі супольнае памяшканне на Сніпішках. Братоў наведвалі прыездам з правінцыі старэйшая сястра Стэфанія і маладзейшая Караліна. Наймаладзейшая Цётчына сястра - Зофія - паказвалася тады ў Вільні рэдка. У братоў жыла і Алаіза. Паводле нацыянальнай сведамасці Цётчына сям'я была неадналітная, а адначасна і своеасабліва "тутэйшая". Хатняя мова была польская, польская таго асаблівага характару, які яна мела ў дробнай шляхты Летувы і Беларусі, і на які гэтак своеасабліва ўплывалі сінтаксіс, вымова і слоўнік мясцовых моваў. Цётчына маці была пад найбольшым уплывам польскай культуры. Старэйшая сястра Стэфанія была "па-панску" настаўленая і выразна аддавала першыню польскай мове. Прыхільнасць да польскай культуры выяўлялі брат Войцах і сёстры Караліна ды Зофія. Найбольш за ўсіх з беларускай вёскай і беларускай мовай зросся Цётчын бацька і ейны брат Язэп. Дзейнай падтрымкі сваёй беларускай нацыянальнай працы ад чальцоў сваёй сям'і Цётка не мела. Але і ейны ўдзел у беларускім руху не ўважаўся ў сям'і за нейкае няшчасце"* [3].



***Сям'я Пашкевічаў. Сядзяць: сястра Стэфанія, маці Ганна з Вызгаў, бацька Стэфан Пашкевіч, сястра Зося. Стаяць: Алаіза, браты Войцах і Юзік, сястра Караліна***

Перакладаючы і рыхтуючы да друку рукапіс "Высяленне ў Казахстан у 1940 г. значнай часткі жыхароў Лідскага павета" лепшага знаўцы гісторыі Ліды Міхала Шымялевіча, копію якога атрымаў з фонду Асалінскіх у Вроцлаве, я знайшоў кароткую інфармацыю пра лёс старэйшай сястры Цёткі Стэфаніі і брата Войцаха. Старэйшая сястра Цёткі ва ўзросце 80 гадоў была выслана ў Палудзенскі раён Казахстана.

У другой палове 1941 г., калі Сталін дамовіўся з лонданскім польскім урадам пра фармаванне на тэрыторыі Савецкага Саюза польскай арміі, для ссыльных у Казахстан пачаўся перыяд адноснай лібералізацыі. Ссыльны Міхал Шымялевіч, як чалавек з вышэйшай адукацыяй, быў прызначаны прадстаўніком польскай амбасады ў Палудзенскім раёне Казахстана - раёне, у якім жыла значаная частка ссыльных лідзян. Шымялевіч вёў адмысловыя спісы выселеных лідзян, і за гэта ў 1943 г. ва ўзросце 64 гадоў у дадатак да ссылкі гісторык атрымаў 10 гадоў пазбаўлення волі. У 1948 г. ён быў памілаваны і выехаў да сваёй сям'і ў Сопат, дзе ў 1950-я гг. аднавіў свой спіс у шмат сотняў чалавек і дэпанаваў у фондзе Асалінскіх.

Міхал Шымялевіч - сябар Таварыства беларус-

---

[1] Наша Ніва № 47, 27 лістапада 1914.

[2] Наша Ніва № 7, 21 лютага 1915.

[3] Кайрыс С. З маіх успамінаў пра Цётку // На суд гісторыі. Мн., 1994. С. 12. 15-16.

кай школы быў добра абазнаны ў беларускай культуры, і таму ён адразу заўважвае, што Стэфанія Сапоцька (1860 г.н.) - гэта старэйшая сястра Алаізы Пашкевіч: *"Стэфанія паходзіць з ваколіцы Пешчын Васілішскай гміны, з дому Пашкевіч. Была замужам за Сапоцькам ў фальварку Шымкаўшчынаса Сабакінскай гміны. Удава. Яе малодшая сястра Алаіза Пашкевіч, у замустве Кайрыс, зданая беларуская паэтка з псеўданімам "Цётка" з віленскіх "Нашай Долі" і "Нашай Нівы", якая памерла ў часы Першай сусветнай вайны"* [4]. Маючы больш за 80 гадоў, тым не менш Стэфанія Сапоцька ў ссылцы працавала вартаўнікам у калгасе. У 1946 г. выехала ў Польшчу.

Інфармацыю пра Войцаха Пашкевіча, Шымялевіч падае са слоў сястры, бо яго не было ў Казахтане: *"Войцах Пашкевіч, 1872 г.н., падпаручнік рускага войска, жыў у Катлове пад Вільняй, у Рудамінскай гміне. Арыштаваны ў 1939 г., загінуў"* [5].

***Дадатак***

**"Памяці Юзюка Пашкевіча**[6]

*Ешчэ адна ахвяра вайны - колькі іх усяго?!* ***"Юзюк Пашкевіч - падпаручнік ... палка - 10.02.1915 г. аддаў душу, баронячы Гродна"*** *...*

*Гэткі кароткі надпіс зроблены на магіле добра вядомага віленскім беларусам падпар. Пашкевіча, пахаванага да часу ў Гродні.*

*Нейк не пашанцавала яму ад самага пачатку вайны.*

*28 жніўня яго ранілі ў Прусіі: прастрэлены былі рука і нага, кантужана галава.*

*Лячыць павезлі ў родны горад - Вільню, дзе паў жыцця пражыў.*

*Не паспеў зусім паправіцца, вярнуць сілы - 18 лістапада ізноў паехаў на пазіцыі. 28 сьнежня пісаў аттуль:*

*"Як толькі прыехаў, то зара атрымаў роту і ўжо ею камандую трэці месяц. Людзі вельмі добрыя і любяць мяне, бо як пачулі, што мяне хочуць перавясці ў другую роту, то прасілі не пакідаць іх ... Яны знаюць, што за іх плечы не схаваюся, як будзе туга, і каждую мінуту могуць забіць ..."*

*Бытцам напрарочыў сабе ...*

*10-га лютага - ужо будучы пад Гроднам - загадалі Пашкевічу вясьці роту ў атаку. Пайшоў сам наперадзі.*

*Ішлі па голым полі. Разам затрашчэлі кулямёты, засыпалі ўсіх градам куль. Прастрэляны ў трох мейсцох - у грудзі і ў жывот, падпаручнік Пашкевіч упаў на зямлю першы. І ўжо не ўстаў.*

*Салдаты пахавалі яго недалёка ад таго мейсца, дзе ён душу аддаў. Тры дні на тым полі ішоў бой, тры дні лілася йшчэ кроў ...*

*Дайшла сумная вестка да Вільні. Тутака лечыцца брат нябошчыка - капітан Вацюк Пашкевіч, жыве сястра яго - міласэрдзя ў заразным бараку. Яны ў двох с прыяцелем забітага паехалі ў Гродно - шукаць цела.*



Язэп Пашкевіч, афіцэр, з Лідзк. пав., Віл. губ.

*Знайшлі скора: салдаты с сьлязьмі ў вачах вялі іх і выкапывалі з магілы забітага камандзіра, каторы паказаў, што папраўдзі ніколі за іх плечы не хаваўся, заўсёды быў пры іх, думаў аб іх.*

*А пад той час за чвэрць вярсты - бытцам страшэнная музыка - грымелі гарматы, разрываліся шрапнэлі.*

*Цела пакуль-што пахавалі ў Гродні - ля капліцы. Пасля павязуць у Лідскі павет, дзе Пашкевіч радзіўся, дзе йшчэ цяпер жывуць бацькі яго старэнькія.*

*А яго гэтак цягнула да сабе родна зямліца. Заўсёды думаў, што пасьля вайны пакіне службу і сядзе на родны загон - між сваім народам, каторы гэтак любіў. Юзюк Пашкевіч заўсёды быў шчырым беларусам, ад роднай мовы не адрэкаўся. Заўсёды гаварыў ёй, пісаў па беларуску.*

*Тут, у Вільні, бываў усюды, дзе зьбіраюцца беларусы. Між імі чуў сябе найлепей.*

*У роднай староне сьмерць яго спаткала. На сваей зямлі косьці зложыў.*

*Не судзіла яму доля прыждаць лепшых часоў, яснейшай будучыні Беларусі, у каторую шчыра верыў.*

*Хай жа будзе яму лёгкай гэта зямліца родная, мілаваная!"*

Вось такі лёс найбліжэйшых родных пісьменніцы. У некралогу імя брата Юзюка (Язэпа) Пашкевіча падаецца як *Вацюк* (адпавядае поўнаму *Вацлаў*), але гутарковыя імёны ўтвараліся ў нас вельмі спецыфічна, таму і *Войцаха* маглі зваць *Вацюком*.

***Леанід Лаўрэш.***

[4] Michal Szymielewicz. Wysiedlenie do Kazachstanu w r. 1940 znacznej czesci mieszkancow powiatu Lidzkiego // Fundacja-Zaklad narodowy im. Ossolinskich. Katalog Rekopisow akcesyjnych Akc. 26/56. S. 80.

[5] Там жа.

[6] Наша Ніва №7, 21 лютага 1915.

# Педагог, нацыяналіст, дэлегат

## *95 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Урбановіча*

Ён быў адным з самых вядомых у Беларусі краязнаўцаў, педагогаў, вандроўнікаў, калекцыянераў, музейшчыкаў, апантана ўлюбёным у свой родны край чалавекам. А яшчэ - шчырым беларусам, дэлегатам Устаноўчага з'езду ТБМ у Менску.

2 жніўня 1921 года ў вёсцы Пудзіна на Лідчыне ў сялянскай сям'і нарадзіўся хлопчык. Яго назвалі Ўладзімірам, а прозвішча ён меў Урбановіч. У 1932 годзе ён скончыў пяць класаў і працаваў на гаспадарцы, займаўся самаадукацыяй. У 1938 годзе экстэрнам здаў экзамен за сямігодку і ў 1939 годзе паступіў у Жыровіцкую польскую сельскагаспадарчую гімназію Слонімскага павета.

Пры "саветах" Уладзімір зноў здаваў экзамены за 7 класаў і паступіў у Менскі палітэхнікум. Падчас акупацыі скончыў настаўніцкія курсы ў Наваградку, пасля якіх працаваў настаўнікам у пачатковых класах у Лідзе і ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. Пасля вайны завочна скончыў Лідскую педагагічную вучэльню і літаратурны факультэт Гарадзенскага педінстытута. А калі скончыў педінстытут, то ўладкаваўся настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў Райцаўскую сярэднюю школу Карэліцкага раёна, а з 1959 года працаваў у Валеўскай сярэдняй школе Наваградскага раёна.



*Уладзімір Урбановіч*

Няпроста жылося і працавалася Ўладзіміру Урбановічу ў вёсцы Валеўка Наваградскага раёна. За вочы яго называліся нацыяналістам. Такое кляймо яму прычапілі ці то ад зайздрасці, ці то ад таго, што гэты чалавек быў значна адукаванейшы за іншых, ад Бога таленавіты і шчыры. Ён, ці не адзін з першых у тыя пасляваенныя гады, напісаў і выдаў у Беларусі краязнаўчую кнігу "Па дарагіх мясцінах" (Мн., 1964), дзе дзяліўся досведам краязнаўчай работы па беларускай літаратуры ў сваёй Валеўскай сярэдняй школе.

Настаўнік Уладзімір Урбановіч у той час паказаў і апісаў, як трэба выкарыстоўваць краязнаўчы матэрыял на ўроках. Вывучаючы жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў, а таксама пісьменнікаў-землякоў, ён з вучнямі на раварах і пяшком абышоў, аб'ехаў і зноў жа апісаў тыя мясціны, дзе нарадзіліся пісьменнікі, творчасць якіх вывучалі ў школе. Настаўнік-краязнавец са школьнікамі наведаў мясціны Адама Міцкевіча, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Цішкі Гартнага, літаратурныя Баранавіччыну, Дзятлаўшчыну, Наваградчыну, Стаўбцоўшчыну, Слонімшчыну, Лідчыну і Узденшчыну, збіраючы новыя звесткі пра творчасць беларускіх літаратараў, запісваючы не толькі ўспаміны сваякоў, але і займаўся зборам вуснай народнай творчасці.



*Уладзімір Урбановіч і Міхась Петрыкевіч, 1960 г.*

У Валеўскай сярэдняй школе краязнаўчы музей быў створаны яшчэ ў 1955 годзе. У ім былі гістарычна-этнаграфічны аддзел і аддзел прыроды. Калі ў школу прыехаў на працу Уладзімір Урбановіч, то ён дапоўніў музей літаратурным аддзелам. Уладзімір Аляксандравіч па ўсім свеце збіраў для музея розныя экспанаты. Ужо ў 1980 годзе ў Валеўскім народным краязнаўчым музеі налічвалася 1895 экспанатаў, з іх 978 - арыгінальных. Тады ў музеі былі каштоўныя рэчы, звязаныя з "Хронікай

Быхаўца", з гісторыяй Любчанскай друкарні, матэрыялы пра Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Цётку, кнігі, паштоўкі, выдадзеныя суполкай "Загляне сонца і ў наша аконца", друкарнямі Марціна Кухты і "Нашай нівы". Шырока была прадстаўлена заходнебеларуская літаратура, а таксама газеты і часопісы таго часу, фотаздымкі беларускіх літаратараў, каштоўныя дакументы.



***У паходзе са школьнікамі, 1970-я гады***

У 1970 годзе Ўладзімір Урбановіч выдаў сваю чарговую кнігу "Шляхамі паэтаў і герояў". Гэта было дапоўненае выданне, дзе аўтар цікава расказваў пра школьны літаратурны гурток, пра музей, апісваў паходы вучняў па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю пісьменнікаў і герояў беларускага народа, аўтар дзяліўся шматгадовым досведам выкарыстання краязнаўчага матэрыялу на ўроках беларускай літаратуры. Калі ў першай кнігі наклад быў 2700 асобнікаў, то ў "Шляхамі паэтаў і герояў" - ажно 10 тысяч. І першая, і другая кнігі Урбановіча былі даволі папулярнымі, найперш сярод настаўнікаў. Іх раскуплялі імгненна. У беларускім друку на кнігі з'явіўся шэраг станоўчых рэцэнзій Аляксея Пяткевіча, Рыгора Шкрабы, Янкі Саламевіча, Уладзіміра Калесніка, Веры Ляшук, Сцяпана Александровіча. Напрыклад, Сцяпан Александровіч у часопісе "Полымя" ў ліпені 1971 года паведамляў: *"Самае цікавае і патрэбнае ў кнізе "Шляхамі паэтаў і герояў" - гэта той багаты фактычны матэрыял, які могуць шырока выкарыстоўваць настаўнікі Беларусі, і ў першую чаргу Гродзеншчыны".*

Але гэтыя кнігі прынеслі Ўладзіміру Урбановічу і шмат клопатаў. У пісьме да свайго лепшага сябра Міхася Петрыкевіча (1913-1999), які апошнія гады жыцця жыў у Вільні, пісаў, што яго абвінавачваюць у нацыяналізме і не раз выклікалі ў КДБ. Міхась Петрыкевіч 27 красавіка 1987 адказаў: *"Чытаў твае кніжкі, маю іх з сабою цяпер і магу смела сказаць, што ніякага нацыяналізму там няма. Ёсць пачуццё любові да роднага краю, да роднай культуры, традыцый, прыроды, пашаны да людзей нашага краю. Дык хіба ж гэта дрэнна? Добра ведаю, што краязнаўства цяпер развіваецца, падтрымліваецца Міністэрствам асветы, культуры і другімі органамі ўлады. Гэта ярка відаць у Літоўскай рэспубліцы. Любоў да роднага краю дапамагае вырашыць важную дзяржаўную праблему - замацаванне кадраў, рабочых рук у сельскай гаспадарцы. Не менш важныя і другія аспекты краязнаўчай работы... Не ведаю, праз якія акуляры тыя твае субяседнікі разглядалі твае кнігі. А можа яны і не чыталі, а хто-небудзь з зайздрасці даў ім адмоўную рэцэнзію. І гэта можа быць. Разумеецца, з гэтай закваскі, як кажуць, піва не зварыш, але нервы папсаваць можна. Спачуваю табе, ведаю, як цяжка ўсё гэта перажыць. Тут можна сказаць словамі Янкі Купалы: "Чаго вам хочацца, панове, які вас выклікаў прымус?.."*



***Уладзімір Урбановіч (на першым плане злева) з настаўнікамі Валеўскай школы, 1970-я гады***

Сапраўды, пасля выхаду другой кнігі Ўладзіміру Урбановічу выдаць больш кніг да самай смерці так і не ўдалося. Хаця ён напісаў сотні артыкулаў, нарысаў, даследаванняў, рэцэнзій і апублікаваў у газетах і часопісах, навуковых і папулярных выданнях. Пісаў пра мясціны і лёсы пісьменнікаў, выкладанне беларускай літаратуры ў школе, арганізацыю ў ёй навучальнага працэсу, пра друк Беларусі, беларускі фальклор, людзей культуры.

З 1958 года Ўладзімір Урбановіч чытаў лекцыі па методыцы літаратурнага краязнаўства на абласных і рэспубліканскіх курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Ён быў сябрам рэспубліканскага журы па ацэнцы школьных падручнікаў, рэцэнзаваў падручнікі па беларускай літаратуры, з'яўляўся дэлегатам Устаноўчага з'езду Таварыства беларускай мовы.

У мяне, а таксама ў роднай пляменніцы Ўладзіміра Урбановіча, бо сваіх дзя-



***Уладзімір Урбановіч з пісьменнікамі Максімам Танкам, Янкам Брылём, Барысам Сачанкам, Анатолем Вялюгіным, Петрусём Макалём, Анатолем Кудраўцом і іншымі на ганку Валеўскай школы***

цей ён не меў, захоўваецца шмат публікацый, артыкулаў, рукапісаў педагога і краязнаўцы з Навахградчыны. Гэта грунтоўныя даследаванні пра Адама Міцкевіча і Беларусь, у тым ліку і Наваградчыну, пра старажытнае пісьменства і кнігадрукаванне на Наваградчыне, пра Ігната Дамейку і сувязь Якуба Коласа і Янкі Купалы з Наваградчынай і Лідчынай, пра Янку Нёманскага і Марылю Верашчаку, пра паўстанне 1863 года на Лідчыне і г.д. Назбіраюцца дзясяткі артыкулаў-даследаванняў, якія сёння склалі б не адну дыхтоўную гістарычна-краязнаўчую і літаратуразнаўчую кнігу Ўладзіміра Урбановіча, а таксама асобнае выданне пра Адама Міцкевіча, пра якога ён ведаў шмат.

У "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" ёсць невялікая згадка пра Ўладзіміра Урбановіча, дзе напісана, што ён з'яўляецца і аўтарам шэрагу артыкулаў па методыцы выкладання беларускай літаратуры, арганізацыі навучальнага працэсу, спалучэння школьных і пазашкольных заняткаў. Пра краязнаўства ў выкладанні беларускай літаратуры ў старэйшых класах, ролю краязнаўчага матэрыялу ў патрыятычным выхаванні вучняў, краязнаўства на службе ў настаўнікаў рускай і беларускай моваў, эстэтычнае выхаванне ў паходах па роднаму краю. А таксама пра дзясяткі іншых распрацаваных настаўнікам-краязнаўцам Урбановічам тэмаў, якія не састарэлі і сёння, іх смела можна прымяняць у школах, гімназіях і ліцэях.

У 1965 годзе Міністэрства адукацыі БССР зацвердзіла праграму настаўніка з Валеўкі, якая называлася "Праграма літаратурна-краязнаўчых гурткоў для васьмігадовых і сярэдніх школ і пазашкольных дзіцячых устаноў".

Да Урбановіча звярталіся па дапамогу і параду навукоўцы, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, педагогі, архівісты і літаратуразнаўцы з усёй Беларусі, а таксама з Літвы, Польшчы, Украіны. Ён вёў багатую перапіску, тысячы пісем ад вялікіх людзей, на жаль, згубіліся, але і шмат захавалася ў беларускіх архівах і музеях, у прыватных сховішчах. Уладзімір Урбановіч сябраваў амаль з усімі дзеячамі беларускай культуры і пісьменнікамі. У яго доме і ў школе ў Валеўцы шмат разоў пабывалі Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Генадзь Каханоўскі, Уладзімір Калеснік, Ігар Лучанок, Аляксей Карпюк, Барыс Сачанка, Анатоль Вярцінскі, Пятрусь Макаль, Фёдар Янкоўскі, Ян Скрыган, сваякі Якуба Коласа і Адама Міцкевіча і сотні іншых вядомых нам асобаў. Ён заўсёды знаёміў гасцей з Валеўкай, школьным музеем і, вядома ж, адвозіў іх на Свіцязь, дзе вяліся шчырыя гутаркі пра Беларусь, родную мову і культуру…

За сваю педагагічную і краязнаўчую дзейнасць Уладзімір Урбановіч быў узнагароджаны рознымі граматамі і дыпломамі, а таксама значком "Выдатнік народнай асветы". Ужо пасля смерці, 2 лютага 1999 года, яго пасмяротна занеслі ў Кнігу Славы Наваградскага раёна.

***Сяргей Чыгрын.***

*Леанід Лаўрэш*

# Прыход ў Жыжме

Самая ранняя выяўленая намі згадка пра царкву датуецца 1667 г. Царква адносілася да маёнтка Жыжма, але заўжды стаяла ў Вялікіх Князюкоўцах.

Газета "Литовские епархиальные ведомости" пісала што, князь Жыжамскі быў фундатарам царквы "з даўніх часоў" [1].

Вядома, што князь Дзмітры Глебавіч, сын родапачынальніка вялікага князя смаленскага Глеба Святаслававіча, у 1433 г. атрымаў ад Ягайлы ў вотчыну маёнтак на рацэ Жыжма ў Лідскім павеце. Князь Дзмітры Глебавіч меў двух сыноў - Івана Дзмітрыевіча з мянушкаю "Манько" альбо "Манч" і Івана Дзмітрыевіча з мянушкаю "Шах". Ад першага з іх паходзіць род князёў Жыжамскіх. Князі Жыжамскія валодалі маёнткам Жыжма да 1630-х гадоў[2]. Таму, верагодна, і царква была пабудавана тут у першай палове XV ст.

Міхал Шымялевіч пісаў *"двор Жыжма ўжо ў XV ст. складае родавую ўласнасць князёў Жыжамскіх, пасля ўцёкаў якіх у Маскву, у 1551 г. ён перайшоў ва ўласнасць п. Войцаха Ясінскага"* [3].

У тастаманце, складзеным 4 лютага 1667 г., мясцовы шляхціц Сільвестр Войнa Аранскі наказвае сваім дзецям пахаваць яго ў *"Жижемской"* царкве Лідскага павета, здаўна збудаванай і *"ўфундаванай"* яго продкамі, у склепе, дзе ўжо *"покоится"* прах яго жонкі.

А каб у гэтай царкве заўсёды ўзносілася хвала Богу, абшарнік С. В. Аранскі запісаў на святара і царкву *"данину"* са свайго маёнтка Князюкоўцы: 2 валокі зямлі, якія ляжаць над ракой Жыжмай, званыя Татаршчына і Зарубоўшчына; *"двух подданных, сидящих на двух четвертях грунта"*, а таксама штогадовую хлебную ссыпку з маёнтка Жыжма, а менавіта - бочку жыта віленскай меры і гарнец віна.

За гэта ў царкве, як запавядае С.В. Аранскі, павінны *"на сваём коште"* ўтрымліваць "*дьяка для пения*" і штотыдзень служыць дзве абедні за спачын душы фундатара і яго продкаў. Ён патрабуе ад сваіх дзяцей і нашчадкаў строга выконваць тастамант, уласнымі сродкамі падтрымліваць царкву, рамантаваць, а калі дрэва згніе, то пабудаваць новую. Сваю маёмасць землеўладальнік размеркаваў пароўну паміж сынам і дачкою. Ён выказаў жаданне, каб непаўнагадовы сын Іван быў аддадзены на вучобу ў езуіцкую школу[4].

З "Падымнага рэестру Віленскага ваяводства 1690 г." маёнткам Жыжма, які меў 15 дымоў, валодала Барбара Аранская Гадэбская, дачка Сільвестра Войны Аранскага і Гальшкі з Гейштараў, з 1688 г. яна сталася ўдавой па Андрэю Канстанціну Гадэбскаму, пінскаму стольніку[5]. Праз яе Жыжма і перайшла да Гадэбскіх, у той час *"празбітар царквы жыжамскай"* меў 1 дым[6].

Жыжмянская царква пералічваецца ў спісе ўніяцкіх храмаў Лідчыны 1753 г., які захаваўся ў Архіве ўніяцкіх мітрапалітаў[7].

З дакументаў гэтага ж Архіва даведваемся пра *"неблагоповедение" "жизмянскаго"* адміністратара Якуба Жухавецкага, у якім яго 7 жніўня 1780 г. абвінавачваў *"новогородицки"* адміністратар Станіслаў Пятроў[8].

Некалькі актаў візітацый: 1784 г., якую рабіў Васіль-Нупрэй Марцінеўскі, цырынскі дэкан[9] і 1792 г. - Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі[10], даюць нам уяўленне пра гэтую царкву пры канцы XVIII ст.

У 1784 г. драўляная царква мела падвойны тытул: Апекі Панны Марыі і Ператварэння Божага, фундатарам царквы і яе калятарам быў Лідскі падстараста Гадэбскі[11]. У 1792 г. царква мае тытул Апекі Найсвяцейшай Панны, калятарам яе ўжо з'яўляецца Язэп Пац, староста вілейскі, генерал-маёр войскаў ВКЛ[12].

У 1792 г. пра царкву *"драўляная, з брусоў, на руіны падобна, на падмурку, старой гонтай крытая, на ёй вялікі купал над фацыятай*[13]*, пафарбаваны, з жалезным крыжам ... па баках два малыя купалы з бляхі з крыжыкамі жалезнымі, другі купал вялікі, у якім сігнатурка*[14] *да 15 фунтаў вагі, над вялікім алтаром, пафарбаваны, з крыжам жалезным. Усё патрабуе значанага рамонту. Могілкі маюць 25 локцяў*[15]*,*

[1] Литовские Епархиальные Ведомости № 6-1873. С. 67.
[2] Пазднякоў Валерый. Жыжэмскія // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мінск, 2005. Т. 1. С. 630.
[3] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 44.
[4] Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Акты Главного Литовского трибунала. Т. 12. Вильна, 1883. С. 593.
[5] Metryka Litewska. Rejestry Wielkiego Ksestwa litewskiego. Wojewodztwo Wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 213.
[6] Там жа.
[7] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 153.
[8] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 388.
[9] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53.
[10] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244.
[11] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. А. 87.
[12] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 37.
[13] Паддашкам, мансардай.
[14] Сігнатурка - невялікая вежачка, верагодна тут яна літая.
[15] Локаць - мера даўжні, якая раўнялася 54,96 см.

*акапаныя, на могілках званіца крытая гонтай, з крыжам жалезным, званоў 3. Адзін 8 камянёў важыць, другі - 6 камянёў, іншы - да 30 фунтаў ... на ўваходзе ў царкву хор з балюстрадай пафарбаваны, столь з дошак, падлога новая з цэглы, значна сапсаваная, лаўкі сталярнай работы, амбон пафарбаваны, канфесіянал сталярнай работы, адна сакрысція з двумя дзвярыма, ... другая сакрысція з другога боку царквы, дзе знаходзяцца царкоўныя рэчы і вопратка, у ёй прастол з шуфлядамі ... вокны з жалезнымі кратамі, вокнаў з драўлянымі рамамі 10, некаторыя патрабуюць рамонту"* [16].

Пры Жыжмянскай царкве была капліца ў в. Бердаўка. У фундушы Кацярыны Масевіч, ваяводзіны Мсціслаўскай ад 25 красавіка 1698 г., капліца згадваецца як Бердаўская царква, у іншым месцы як *"ранейшая парафіяльная царква"* [17]. У 1784 г. калятар капліцы - шамбялян Яго Каралеўскай Мосці Жаба. Спрэчку з ім за правы калятарства вёў Мысліцкі, стараста барташэўскі[18].

У 1784 у капліцы служылі набажэнствы каталіцкія ксяндзы, якія жылі ў Жыжмянскім двары. Верагодна, з тых часоў у Бердаўцы з'явіліся рыма-католікі. У акце візітацыі 1784 г. пра капліцу напісана: *"На зямлі паноў Жабаў, шамбелянаў Яго Каралеўскай Мосці, якая называецца Бердаўка і афіляваная да Жыжмянскай прыходскай царквы. Драўляная, старая, да рэпарацыі няздатная, царкоўнага начыння не мае ..."*[19].

У апісанні царкоўных зямель пры канцы XVIII ст. упамінаюцца землеўладальнікі, з надзеламі якіх межавалі царкоўныя землі: Ян і Мікалай Яўхімцы, Ян Якаш, Мікалай Паплаўскі, Станіслаў Грушук, Мацей Варугель, Ян Руцкі, Стэфан Кухар, Ежы Астрэйка, Ян Краўчук, Казімір Новік. Таксама ўзгадваюцца і цікавыя тапонімы: урочышчы Вялікае Поле, Боркі, Зарубаўшчына, Падашкаў, Вязішчы і зараслі Ройстры[20].

Цікава, што гэтыя Ройстры (твані) каля ракі Жыжмы ўжо ў 1520 г. былі аб'ектам судовага разбіральніцтва[21].

Жыжмянскі парах у візітацыі 1792 г. Янаш Віторскі быў Генеральным экзаменатарам Лідскага дэканата. Кар'ера святара не абмяжоўвалася пасадай параха. Існавала яшчэ некалькі пасад, на якія маглі быць прызначаны добра падрыхтаваныя святары. Першай такой пасадай быў спавядальнік. Паколькі парахі, як і звычайныя людзі, павінны былі некалькі разоў на год спавядацца, у кожным дэканаце існаваў штат спавядальнікаў. У Лідскім дэканаце налічваліся тры спавядальніцкія акругі.

Другой прыступкай з'яўлялася пасада інструктара, альбо экзаменатара. На яе прызначаліся святары з найлепшай тэарэтычнай падрыхтоўкай. У іх абавязкі ўваходзіў кантроль за ўзроўнем прафесійных якасцей падначаленых парахаў. Тэрыторыя дэканата разбівалася на 4 інструктарскія акругі. Інструктар-экзаменатар кантраляваў узровень тэарэтычнай і практычнай падрыхтоўкі сваіх падначаленых. На тых, хто не дбаў пра свае пастырскія абавязкі, існавалі тры меры ўздзеяння. Першая - вусная вымова і настаўленні, другая - пакаранне трыццацю публічнымі паклонамі (у царкве), трэцяя - рапарт дэкану. Старэйшы (Генеральны) інструктар - экзаменатар займаў пасаду кіраўніка парафіяльнай школы, дзе вучыліся святарскія дзеці[22]. Вядома, што такая школа ў Жыжме існавала з 1753 г.[23]

Па маёмасным стане Жыжмянскую плябань у параўнанні з іншымі можна класіфікаваць як бедную[24].

Як і ў іншых парафіях, на пачатку XIX ст. вернікі бачылі дзяржаўную палітыку, накіраваную на ліквідацыю іхняй царквы, і таму стараліся перайсці ў рыма-каталіцкі абрад. Пра гэта ж сведчыць дакумент Жыжмянскай парафіі 1836 г.[25] (гл. дадаткі).

У 1860 г. на месцы старой, прыйшоўшай у нягоднасць Пакроўскай царквы, пабудаванай яшчэ Гадэбскімі, кіраўнік Віленскай палаты дзяржаўнай маёмасці, сапраўдны стацкі дарадца Антон Андрэевіч Глушаноўскі на ўласныя сродкі пабудаваў новы храм з бутавага каменю ў выглядзе крыжа. У траўні 1864 г. Лідскім дабрачынным Самсонам Брэнам *"асвечана ў сяле Жыжма, збудаваная ад казны царква ў імя Пакрова Прасвятой Багародзіцы"* [26].

Пры канцы XIX ст. царква мела 85 дзесяцін зямлі, псаломшчык атрымліваў 23,5 рублі дадатковага жалавання, пры царкве меліся 1 філіяльная царква і 1 капліца на могілках. Прыход складаўся з 200 двароў, прыхаджан мужчынскага полу было 801, жаночага таксама 801 [27].

У 1925 г. жыхары вёсак Жыжма, Малыя і Вялікія Князюкоўцы падпісалі петыцыю польскім ула-

[16] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 37.

[17] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 39.

[18] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 39.

[19] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. А. 127.

[20] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 38-39.

[21] Археографическая комиссия. Русская историческая библиотека Том 20. Литовская метрика. Т. 1. Петербург, 1903. С. 1485-1486.

[22] Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839. Мінск, 2011. С. 59-60.

[23] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. С.-Петербург, 1907. С. 153.

[24] Гл: Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839. Мінск, 2011. С. 66.

[25] Архив Лидского благочиния. Ф.1, Воп.1, Спр.7. А. 97.

[26] Литовские Епархиальные Ведомости № 17-1864. С. 628.

[27] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 25.



***Святар Еўграф Буко з жыхарамі вёскі Вялікія Князюкоўцы***

дам з патрабаваннем адкрыць беларускую школу[28].

Да 1933 г. у Пакроўскай царкве служыў а. Іосіф Шчарбіцкі. З 1933 г. ў Жыжмянскую царкву перавялі выпускніка Віленскай духоўнай семінарыі святара Яўграфа Якаўлевіча Буко (1910-1939)[29]. Для маладога святара гэта было першае месца працы. Акрамя службы ў царкве ён выкладаў Закон Божы ў агульнаадукацыйнай школе Вялікіх Князюкоўцаў. У школе святар стварыў хор, шмат працаваў з вернікамі, з моладдзю[30].

У 1937 г. царкве быў падараваны звон з надпісам: *"Пожертвован Антонием Левицким при священнике Евграфе Буко в 1937 году"*.

Праз некаторы час а. Яўграф быў пераведзены ў храм мястэчка Іўе. У верасні 1939 г. пасля прыходу ў Іўе Чырвонай Арміі Яўграф Буко выйшаў з дому і не вярнуўся. Жонка святара Яўгенія Іванаўна (з Яцкевічаў; у другой палове 1940-х г. выехала ў Польшчу) упэўнена, што муж быў схоплены супрацоўнікамі НКУС і, верагодна, забіты, бо неўзабаве на Іўеўскіх могілках прыхаджане знайшлі яго капялюш[31].

Не вядома, якім чынам забілі святара. Мясцовыя людзі потым расказвалі, што калі яго вялі па дарозе на Ліпнішкі, дык моцна збівалі. Цела так і не знайшлі, у пошуках нават раскопвалі новыя магілы на могілках у Ліпнішках, але дарэмна. Па словах жыхароў Ліпнішак святара кінулі ў балотную твань пры ўездзе ў гета.

Сам храм таксама зведаў людскую жорсткасць - у 1980 г. быў часткова спалены маладымі людзьмі, якія ўбіралі ўраджай на вясковых палетках.

Адноўленая ў 1992 г. царква дзейнічае і сёння.



***Царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы ў Князюкоўцах***

---

[28] Kuwalek Robert. Zycie spoleczno-polityczne ziemi lidzkiej w okresie miedzywojennym // Ziemia Lidzka №25-1997.

[29] Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794-1991. Том ІІІ. Кніга. Гл: http://www.marakou.by/by/davedniki/represavanyya-litaratary/tom-iii-kniga-i?id=21606

[30] Ігліцкі А. Князікоўцы // Іўеўскі край №17, 7 сакавіка 2013.

[31] Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794-1991. Том ІІІ. Кніга. Гл: http://www.marakou.by/by/davedniki/represavanyya-litaratary/tom-iii-kniga-i?id=21606.

**Вёска Жыжма**[32]

*З акту візітацыі 1792 г., якую рабіў Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі.*

**А. 37.**

Царква пад тытулам Апекі Найсвяцешай Панны, знаходзіцца ў павеце і дэканаце Лідскім, раней у фундацыі і каляцыі васпанаў даўней Гадэбскіх, падстарастаў Лідскіх, зараз у каляцыі васпана Юзафа Паца, старасты вілейскага, генерал-маёра войскаў ВКЛ. Драўляная, з брусоў, на руіны падобна, на падмурку, старой гонтай крытая, на ёй вялікі купал над фацыятай, пафарбаваны, з крыжам жалезным а часткова з бляхі, па баках два малыя купалы з бляхі з крыжыкамі жалезнымі, другі купал вялікі, у якім сігнатурка на 15 фунтаў вагі над Вялікім Алтаром, пафарбаваная, з крыжам жалезным. Усё патрабуе значанага рамонту. Могілкі маюць 25 локцяў, акапаны, на могілках званіца, крытая гонтай, з крыжам жалезным, званоў - 3. Адзін важыць 8 камянёў[33], другі - 6 камянёў, трэці - да 30 фунтаў. Падыходзячы да бабінца[34] - драўляныя прыступкі, далей падвойныя філёнчатыя дзверы на падвойных жалезных завесах з жалезнымі заставамі, другія філёнчатыя дзверы звонку на завесах патройных жалезных, з засаўкай, падвойныя дзверы на жалезных завесах. На ўваходзе ў хор з балюстрадай пафарбаваныя, столь з дошак, падлога новая з цэглы, але значна сапсаваная, лаўкі сталярнай работы, амбон пафарбаваны, канфесіянал сталярнай работы, адна сакрысція з двумя дзвярыма: адны падвойныя на значных завесах з унутраным замком, праз другія ўваход у царкву, яны на жалезных завесах з зашчапкай і прабоямі. Акно адно з кратамі жалезнымі, другая сакрысція з другога боку царквы, дзе знаходзяцца царкоўныя рэчы і вопратка, у ёй прастол з шуфлядамі, дзверы на жалезных завесах з унутраным замком, вокны з жалезнымі кратамі, вокнаў з драўлянымі рамамі - 10, некаторыя патрабуюць рамонту.

**Вялікі алтар** з абразом Найсвяцейшай Панны, на якім шкляная карона, упрыгожаная дванаццацю пазалочанымі срэбнымі зоркамі, з крыжыкам срэбным пазалочаным азначаным сферкай ..., якая важыць 1 лот[35]. Шаты з матэрыі, яблычак срэбных

**А. 37 адв.**

добрых - 2, вагой у 1 лот. Абразоў зашклёных - 13. Рэліквіярыяў[36] - 7. Завушнічак з галантарэяй - пара 1. Фіранак газавых - пара 1. Угары абраз Св. Тройцы. Павільён сталярнай работы на двух слупах, фарбаваны, на Прастоле цыборыюм[37], які замыкаецца, пафарбаваны, дзе Святыя Дары ў срэбнай пушцы[38], усярэдзіне пазалочанай, з чатырохграннай Каронай і крыжам вагой - грыўны[39] 3 і лоты 2. Крыж з корпусам з волава, добры. Падсвечнікаў з волава - пар 3. Настольных - пара 1. Ручнікоў - 2. Антымінс[40] яснавялебнага Фларыяна Грабніцкага[41], Мітрапаліта. Абрус-пакрывала палатнянае, падушка пад службоўнік, заслона алтара драўляная, пафарбаваныя. Разьбяная статуя Уваскрэсення Божага знаходзіцца ў сакрысціі, прыступкі і парэнчы перад Вялікім Алтаром з балясінамі.

**Алтар другі**, бакавы, сталярнай работы, ... фарбаваны з абразом Св. Іосіфа, на якім фіранка з кітайкі[42] ў паскі, абразкоў за шклом на Прастоле - сем, алтарных падсвечнікаў з волава - пар 2, настольных - адна пара, укрыжаванне алавянае з корпусам, добрае, ручнікоў - 2. Portatel[43] лацінскі. Абрус-пакрывала палатнянае, заслона алтара драўляная, пафарбаваныя. Падушка пад службоўнік. Перад алтаром прыступка.

**Алтар трэці**, бакавы з абразом Св. Антонія, сталярнай работы, ... пафарбаваны, на якім фіранка з кітайкі ў паскі, абразкоў на Прастоле за шклом - 3. Алавяны крыж з корпусам, добры. Алавяных алтарных падсвечнікаў - пар 2. Настольных - пара 1, ручнікоў - 2. Абрус-пакрывала палатнянае. Заслона алтара і прыступка пафарбаваныя.

**Царкоўнае начынне**. Срэбны келіх, знутры пазалочаны з дыскасам[44] і лыжачкай, важаць 2 грыўны. 2-гі добры келіх срэбны, усярэдзіне пазалочаны разам з срэбрам. Манстрацыя[45] ў промнях, месцам пазалоча-

[32] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 37-40.

[33] Старая адзінка вагі. Назва паходзіць ад каменнага жорна, 12,96 кг.

[34] Бабінец - пярэдняя частка культавага збудавання, прызначаная для жанчын, з'яўляўся часткаю асноўнага аб'ёму пад хорамі. Часам бабінцам называлі прыбудову да храма з боку галоўнага фасаду.

[35] Лот - адзінка вымярэння ў сістэме мер ВКЛ, роўная 1/32 фунта, 11, 71 грама.

[36] Рэліквіяр - ёмістасць для захавання рэліквій.

[37] Даразахавальніца.

[38] Даразахавальніца.

[39] Грыўна - адзінка вагі каштоўных металаў, прыблізна 196 г.

[40] Антымінс - ва усходнім абрадзе плат са ўшытай ў яго часціцай мошчаў якога-небудзь святога і надпісам біскупа. Неабходная прыналежнасць для здзяйснення поўнай Літургіі. Асвячаецца па адмысловым чыне толькі епіскапам. Чатырохвугольны, з ільняной або шаўковай матэрыі плат, на якім паказваецца палажэнне Хрыста ў магілу; па кутах змяшчаецца выява чатырох евангелістаў, а на верхнім боку ўшываецца часціцы мошчаў.

[41] Фларыян Грабніцкі (1664?, - 18 ліпеня 1762) - Скончыў Львоўскі папскі калегіюм (паводле іншых звестак - Віленскую акадэмію), доктар тэалогіі. Член ордэна базыльянаў (1709), епіскап віцебскі (1716-19), архіепіскап полацкі (1719-62), мітрапаліт кіеўскі (1748-62). Удзельнік Замойскага сабора грэка-каталіцкай царквы (1720). Ахвяраваў сродкі на адбудову Полацкага Сафійскага сабора.

[42] Тонкая шаўковая альбо баваўняная тканіна.

[43] У традыцыях Заходняй царквы - невялікі ахвярнік з абразам. Выкарыстоўваецца падчас працэсій

[44] Дыскас, посуд у форме талеркі (на падстаўцы ў выглядзе кнігі) для еўхарыстыйнага хлеба. На ім падчас літургіі адбываецца ператварэнне хлеба ў Цела Хрыста

[45] Манстрацыя (Monstracya, Puszka, Bursa) - дараносіцы, спецыяльны посуд для Святых Дароў, якую выкарыстоўваюць для перанясення запасных Святых Дароў, каб здзейсніць Сакрамант сабаравання цяжкахворым.

ных, вагой 6 грыўнаў і 2 лоты. Увага: Паколькі манстрацыя прышрубаваная ..., і ёсць асобны добры келіх, дык яе неабходна перарабіць на келіх, дыскас і іншыя неабходныя рэчы, бо ёсць дастатковая дараносіца для хворых, срэбная, не пазалочаная, нядаўна зробленая з алтарных таблічак, вагой 5 лотаў і даўнейшая срэбная лыжачка.

**Посуд.** Алавяная трайная мерніца, алавяных ампулак - пар 4. Харугваў гарусавых, вялікіх - 2, адна чырвоная, другая зялёная. Тазоў - 2. Дараносіца для хворых і келіх - 2. Падсвечнікі, вышэй апісаныя, і крыжы, вагой 1 фунт. Званочкаў - 7. Кадзіла болей за 5 фунтаў і $^{1}/_{2}$. Званочак вісячы пры сакрыстыі 4 фунты. Працэсіяльных крыжоў з корпусам - 2. Трымальнік для паходні, жалезны - адзін. Зламаны крыж - адзін.

**Літургічнае ўбранне:** Арнат[46] з тканіны з блакітным каўняром ламовым[47], з срэбнымі галунамі, сіні ў добрым стане. Арнат з тканіны з галуном бантаеравым адпавядае ўсім патрабаванням. Арнат каламейкавы[48] адпавядае ўсім патрабаванням.

Арнаты лацінскія. Арнат зялёны з тканіны, адпавядае ўсім патрабаванням.

**А. 38.**

Арнат у паскі з кітайкі адпавядае ўсім патрабаванням. Арнат morowy[49] ў сярэдзіне белы з срэбнымі галунамі адпавядае ўсім патрабаванням. Арнат жалобны - 1, morowy адпавядае ўсім патрабаванням і 3 швабскія з гумераламі[50]. Комжаў капланскіх, швабскіх, старых - 2. Комжа тканая, новая - 1. Карпаралаў[51] - 4. Пурыфікатараў - 4. Бурса для хворых з матэрыі, добрая. Балдахін[52] з кітайкі, зялёны з срэбнымі галунамі на палову ядвабнымі.

**Кнігі.** Службоўнік віленскага друку, адрамантаваны, службоўнік малы, службоўнікаў - 2, з якіх адзін жалобны, евангелічка польская, малая, трэбнік стары, не ўжываны, прамовы па нядзелях і святах кс. Нароцкага, метрыкі хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў, таксама і спіс парафіян.

**А. 38 адв.**

.....

**А. 39.**

**Сенажаці.** Сенажаць ва ўрочышчы Зарубоўшчына ... на 12 вазоў ... . Другая сенажаць ва ўрочышчы Падашкаў ... на 16 вазоў ... . 3-я сенажаць ва ўрочышчы Вязішчах ... на 5 вазоў. 4-тая сенажаць ... каля ракі Жыжма паміж сенажацямі Двара і Дуброўні.

**Забудова плябані.** Праз ганак уваходзіш у сені. Дзверы сяней старыя, на бегунках. Дзверы з сеняў у белую хату на жалезных завесах з жалезнай зашчапкай. Печ новая, саксонскай работы. Вокнаў - 3, яны патрабуюць рамонту.

Пры старой хаце камора з двумя дзвярамі. Адны дзверы на жалезных завесах з зашчапкамі. Другія на бегунках. Вакно адно, старое.

На двары пякарня з каморай і двумя дзвярамі

**Табель люднасці разам з рэестрам Жыжмянскай парафіі абодвух палоў, якія здольныя і не здольныя да споведзі**

| | Хаты | Мужчыны | | Жанчыны | | Колькасць дамоў | Колькасць люднасці |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | здольны | не здольны | здольны | не здольны | | |
| Вёска Вялікія Князюкоўцы | 24 | 64 | 11 | 60 | 20 | | |
| Вёска Малыя Князюкоўцы | 16 | 45 | 16 | 49 | 15 | | |
| Вёска Філіпкі | 6 | 13 | 6 | 15 | 2 | | |
| Вёска Сліжы | 6 | 17 | 4 | 10 | 4 | | |
| Вёска Меляшы | 8 | 23 | 10 | 19 | 6 | | |
| Вёска Харужаўцы | 5 | 11 | 5 | 12 | 11 | | |
| Вёска Воўкаўцы | 17 | 45 | 15 | 34 | 33 | | |
| Вёска Кір'янаўцы | 3 | 7 | 3 | 8 | 2 | | |
| Вёска Бакуны | 3 | 7 | 4 | 6 | 3 | | |
| Вёска Бялундзі | 15 | 33 | 13 | 14 | 12 | | |
| Разам | 103 | 268 | 87 | 227 | 108 | 103 | 690 |

Землі. Валок 2 і чвэрці 2 на тры змены. ....

46 Верхняя вопратка святара без рукавоў, якая апранаецца паверх стыхара

47 Тканіна з тонкага залатога альбо срэбнага дроту на шаўковай аснове.

48 Мяккая тканіна з вярблюджай воўны.

49 Верагодна, апранаўся пад час эпідэмій.

50 У традыцыі Заходняй царквы белая ільняная доўгая тканіна, падчас з капюшонам, якая апраналася пад стыхар і прыкрывала шыю і плечы святара.

51 Абрусы на прастоле сімвалізуюць вопратку Хрыста. Верхні абрус у форме белай хусткі мае грэцкую назву "ілітон" (у традыцыях Заходняй царквы korporal) і сімвалізуе тканіну, якой была абвіта галава Хрыста ў момант, калі яго клалі ў труну.

52 Шчытападобнай навес, здымны або стацыянарны.

на бегунках, вокнаў - 4 малыя.

Усе пабудовы старыя, крытыя саломай, да рамонту няздатныя. Свіран стары, дзверы на бегунках з вонкавым замком, крыты саломай. Хлеў з дзвюмя брамамі, стары. Гумно старое, на двое варот, крытае саломай, часткова праз дапамогу Двара, а часткова парахам тут пастаўлена, для чаго, коштам святара адміністратара і васпанства калятараў, перанесена з недалёкай ад царквы вёскі.

**Дакументы.** Фундушу гэтай царквы няма і невядома, дзе яго можна было б адшукаць. Ёсць наступныя дакументы:

Копія фундушу Бердаўскай царквы ад 1698 г.

Візіта вялебнага святара Пятровіча, дэкана лідскага ад 1768 г.

Паданне вялебнага святара Яна Рыквіча ад 1783 г.

Генеральная візіта вялебнага святара Марцінеўскага ад 1784 г.

Варта адзначыць. З вечнай легацыі васпанства калятараў Жыжмянскай плябані, ..., назаўжды ад кожнага параха ці адміністратара наступнае: бочка жыта камерцыйнай меры і жыта ў снапах - 13 коп. Ячменю - 3 капы, аўсу - 2 капы, грэчкі - 15 коп.

Гэтай царкве належыць Бердаўская капліца, ранейшая парафіяльная царква, пра што сведчыць копія фундушу, напісанага 25 красавіка 1698 г. яснавяльможнай пані Кацярынай Масевіч, ваяводзінай Мсціслаўскай, які знаходзіцца ў архіве, прадстаўленнага ў каляцыях яснавяльможнага пана Жабы, шамбеляна Яго Каралеўскай Мосці, і яснавяльможнага пана Мысліцкага, старасты барташэўскага, якія зараз спрачаюцца паміж сабою аб гэтай каляцыі. Бо гэтая царква афілявана да царквы парафіяльнай Жыжмянскай без ніякіх дадатковых унёскаў, згодна копіі фундушу без ніякага царкоўнага начыння і рэчаў, і

**А. 39 адв.**

трэба нарэшце яе зачыніць.

Адміністратарам гэтай царквы з'яўляецца вялебны святар Янаш Віторскі, Генеральны экзаменатар Лідскага дэканата, які мае адміністрацыю ад Віленскай Кансісторыі на 6 месяцаў да ліпеня 1791 г. Высвечаны ў святары яснавялебным Гедэонам Гарбацкім, біскупам Пінскім у Пінску 14 студзеня 1781 г. p.d.k.[53] Прэзентаваны ў Жыжмянскую царкву ад яснавяльможных паноў Рафала і Дамінікі Гадэбскіх, ротмістра павета Лідскага 9 студзеня 1786 г. p.d.k., неінсталяваны.

Паколькі Жыжмянская царква знутры і звонку падобна на руіну, дык патрэбна было б яе зачыніць. Мы, аднак, зважаючы на слушныя прычыны, асабліва на руплівасць у справе рамонту і аднаўлення царквы яснавяльможнага пана калятара і парафіян, яшчэ год устрымаемся да зачынення царквы.

Афіляваная да Жыжмянскай парафіяльнай царквы Бердаўская капліца старая, парушаная, не мае ніякага начыння ... ксяндзы той часовай капліцы жывуць пры Двары ... без дазволу мясцовага параха хрысцяць, хаваюць і іншыя сакраманты робяць, ... ані ў якія метрыкі не ўпісваюць, ... трэба каб яны не рабілі такога беззаконня і крыўдаў парафіяльнай Жыжмянскай царкве ажно да часу падання дадатковых унёскаў ... .

Асобы, без выразнага дазволу з Рыма прынятыя ці перацягнутыя ў лацінскі абрад, павінны быць вернуты ва ўласны абрад. Наказваем ..., каб пра гэта было дакладзена ў Кансісторыю ... .

Пераробку вялікага келіха, у якім была Манстрацыя ў дыскас і іншыя пераробкі ... дазваляю.

Трэбнік, каб быў мясцовы ... . Посуд стары папсаваны, каб у крыж і ампулкі быў перароблены, што дазваляю.

**А. 40.**

…

Пункты альбо Епіскапскія Распараджэнні і (кнігу) "Прыпадкі" [54], каб чыталі і экзаменавалі (на веды), каб сам ўзмоцнена стараўся і іншых як Генеральны экзаменатар да чытання і экзаменавання заахвочваў

Як і было да таго часу, трэба, каб адміністратар захоўваў рэгулярнасць набажэнстваў, пільнасць і прытомнасць у парафіі, чуласць да душ, яму даручаных, а таксама і ўзорнасць звычайную для духоўнага стану захоўваў ... Аб гэтым рэфармацыйным дэкрэтам замацоўваем і даём распараджэнне.

**Дакумент 1826 г.**[55]

Атрымана 15 жніўня 1826 г.

Указ Яго Імператарскай вялікасці ..., з Берасцейскай Кансісторыі берасцейскаму каноніку, дэкану лідскаму, вялебнаму святару Яну Канеўскаму. У Кансісторыі, 31 дня мінулага месяца, слухалі рапарт берасцейскага каноніка, лідскага дэкана, вялебнага святара Яна Канеўскага пра рапарт вялебнага святара Яна Залескага, параха Жыжмянскай царквы аб тым, што ў вёсцы Бакуны Петранела Кузьма з дочкамі Марыянай і Ружай Свідэрскай пакінулі ўніяцкі абрад і з дазволу капелана Кір'янаўскага касцёла, вялебнага ксяндза Сангайлы прынялі лацінскі абрад у Ліпнішскім касцёле.

Вырашылі: абмяркаваўшы пытанне, звярнуцца ў Віленскую рыма-каталіцкую кансісторыю і прасіць яе пастанавіць, каб названыя асобы вярнуліся ва ўласны ўніяцкі абрад.

**А. 97 аб.**

Аб чым даслалі паведамленне рапартуючаму.

У Жыровіцах, месяца жніўня 13 дня 1826 г.

/Подпіс/

[53] Паводле старога календара

[54] Маецца на ўвазе уніяцкі катэхізіс які меў назву: Собраніе припадковъ краткое, и духовнымъ особомъ потребное. Супрасль, 1722. Гл: Лісейчыкаў Д. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839. Мінск, 2011. С. 7, 88.

[55] Архив Лидского благочиния. Ф.1, Воп.1, Спр.7. А. 97-97 адв.

***Леанід Лаўрэш***

# Парафіяне Лідскай, Дзікушскай, Маламажэйкаўскай і Жыжмянскай грэка-каталіцкіх цэркваў у 1829 г.

Летам гэтага года мне патрапілі копіі дакументаў Віленскага гістарычнага архіва з фонду № 634, дзе захоўваюцца спісы парафіян грэка-каталіцкіх парафій Беларусі пачатку XIX ст. Гэты матэрыял мае вялікую гістарычную каштоўнасць, і я планую паступова надрукаваць спісы ўсіх лідскіх парафій.

Пачынаю з спісаў тых парафій, гісторыя якіх ужо раней надрукавана ў "Лідскім летапісцы".

Лідская ўніяцкая парафія была моцна перамяшаная, амаль што ў кожнай вёсцы грэка-католікі жылі разам з рыма-католікамі. Аналізуючы ніжэйпрыведзеныя спісы, бачна, што ў Лідскай парафіі дакладна вытрымліваўся старажытны звычай - калі муж і жонка былі розных абрадаў, дык сыны хрысціліся ў веру бацькі, а дочкі - у веру маці (але ж трэба нагадаць, што ў той час усе: рыма- і грэка-католікі, былі каталікамі і розніліся ў асноўным у абрадзе - усходнім ці заходнім.

Пра факт, што спадкаванне веры ў змешаных сем'ях у залежнасці ад полу дзяцей ёсць старадаўні звычай нашай зямлі, можа сведчыць тое, што калі нашчадак Гедзіміна, праваслаўны князь Юры Сямёнавіч Алелькавіч-Слуцкі (1492-1542) жаніўся з дачкой віленскага ваяводы Мікалая Мікалаевіча Радзівіла, каталічкай Аленай Радзівіл, дык, каб застацца ў праваслаўі, браў дазвол у папы рымскага Клімента VII. Пры гэтым князь прасіў рымскага першасвятара дазволіць хрысціць сваіх будучых дзяцей мужчынскага полу ў веру бацькі, а жаночага - у веру маці. Аднак Юры Слуцкі абяцаў скарэктаваць дамову, калі будуць нараджацца дзеці толькі аднаго полу. Папа зацвердзіў гэты шлюб[1].

Але з спісаў парафіян бачна, што ў іншых парафіях Лідчыны гэты звычай мог і не працаваць - ва ўніяцкіх вёсках Дзікушскай парафіі грэка-каталіцкая царква дамінавала, і ў бацькі-католіка рымскага абраду і маці - ўніяткі сыны былі ўсё ж уніятамі, аднак і ў маці-каталічкі рымскага абраду і бацькі-ўніята дачка хрысціліся ў грэка-каталіцкай царкве. Такім чынам колькасць рыма-католікаў у гэтай мясцовасці павінна была змяншацца.

Гэты прынцып быў парушаны пасля скасавання царскім урадам нашай уніяцкай царквы ў 1839 г. Пасля 1839 г., калі нехта з двух ахвотных узяць шлюб маладых людзей быў праваслаўны, дык атрымаць дазвол можна толькі ў тым выпадку, калі шлюб браўся ў царкве, даўшы пры гэтым распіску, што дзеці будуць праваслаўнымі - адыход ад пануючай рэлігіі з'яўляўся крымінальным учынкам і жорстка караўся. Народ падзялілі, і ўжо пры канцы XIX ст. пачала адчувацца розніца а часам нават і варожасць паміж "палякамі" і "рускімі", якія жылі ў адной вёсцы і мелі супольных продкаў. Але пасля рэвалюцыі 1905-06 гг., калі былі адкінуты забароны, адвечны беларускі прынцып верацярпімасці адрадзіўся зноў, у змешаных шлюбах сыны мелі веру (ужо не абрад, а менавіта веру) бацькі, а дочкі - маці.

Адзінкай, ад якой перапісвалася сям'я быў "дым" - універсальная мера таго часу для вызначэння падаткаў (сярод пабудоў сялянскай гаспадаркі часцей за ўсё абаграваўся толькі жылы дом). Таму лічба, з якой пачынаюцца спісы парафіян, гэта нумар дыму ў вёсцы. Самі спісы - табліцы, у якіх насельнікі "дыму" падзелены на мужчын і жанчын, якія ў сваю чаргу дзеляцца на тых, хто ўжо можа быць у споведзі (дарослых), і тых, хто яшчэ замалы для гэтага. Для прастаты друку, я не рабіў табліц, а падаў спісы "ў радок".

Я адмыслова не падлічваў, але, здаецца, самым папулярным жаночым іменем таго часу было Мар'яна, мужчынскім - Сымон, Мацей, Сцяпан, Гжэгаш. Імёны маглі пісацца па-рознаму: Базыль ці Васіль, Юльяна ці Ульяна, Даніла ці Данель і Даніэль, Піліп ці Філіп, Яна ці Іагана. Але, канешне ж, у вусных размовах гучалі яны аднолькава.

Нармальнай з'явай было, калі два дзіцяці ў сям'і (сын ці дачка) мелі аднолькавыя імёны. Справа ў тым, што імёны надаваліся згодна з літургічнай традыцыяй. У набажэнскай кнізе - "Трэбніку" ёсць чын, які мае абавязковы характар: *"Молитва, во еже назнаменати отроча, пріемлющее имя во осмый день рожденія своего"*. Гэта вельмі старажытная традыцыя, якая ўзыходзіць да старазапаветнага закону абразання на восьмы дзень і надання імя. З Евангелля вядома, што Хрысту таксама далі імя Ісус у восьмы дзень "згодна з законам". Таму імя дзіцяці залежала ад таго, дзень якога святога быў на восьмы дзень пасля яго нараджэння.

Цікава, што з спісаў бачна, што ўжо ў часы прыгону ў некаторых сялянскіх хатах меліся служкі - верагодна, гэта людзі, якія працавалі на чужой гаспадарцы.

Таксама ў некаторых хатах запісаны сяляне, якія здымаюць кут у чужой для іх хаце. У асноўным гэта немаладыя ці адзінокія людзі. У той час такіх людзей звалі "пакутнікі" - тыя якія здымаюць кут.

Кідаецца ў вочы, што людзей ва ўзросце большым за 50 - 55 гадоў няшмат. Старыя ў той час доўга не жылі. Самым старым чалавекам сярод пералічаных

[1] Воронин В.А. К проблеме взаимоотношений православных и католиков в Великом княжестве Литовском в конце XIV - середине XVI в.// Исторический вестник. 2014. Т. 7 . С. 149.

у ніжэйпрыведзеных спісах быў парафіянін Маламажэйкаўскай царквы Юзаф Рышкевіч, ён меў 88 гадоў і жыў разам з сынамі Гжэгашам (31 г.) і Антонам (26 г.). Стары Юзаф павінен быў апошні раз стаць бацькам у 62 г. (яму - 88, сыну Антону - 26 гг.), што занадта нават для нашага часу. Гісторыкі, у тым ліку і даследчык гісторыі ўніяцкай царквы Дзяніс Лісейчыкаў, лічаць, што гэтыя спісы парафіян складаліся са словаў чальцоў сям'і. А тыя часта накідалі сваім дзядам гады, бо ведалі, што яны старыя, а, наколькі старыя, ужо і не памяталі.

У Дзікушскай парафіі разам з пляменнікам жыў адстаўны "салдат" (менавіта так, а не "жаўнер") Юзаф Пазняк, ён меў 50 гадоў узросту. Пасля службы ў войску Пазняк жаніўся - меў жонку Кацярыну 42 гадоў. Улічваючы, што ў той час тэрмін службы быў 25 г., дык у рэкруты грэка-католік Пазняк пайшоў на самым пачатку XIX ст. і выжыў у ваенных завірухах, у якіх удзельнічала імперыя ў першай трэці XIX ст.

Самая вялікая каштоўнасць спісаў парафіян - генеалагічная. Я, перапісваючы гэтыя спісы з рукапіснай лацінкі ў кірыліцу, сустракаў шмат знаёмых прозвішчаў маіх сучаснікаў. Прыклад пошуку продкаў прасцей паказаць па пошуку сваіх родных, які я ўжо часткова правёў. Чытач зможа правесці аналагічную працу па спісах, якія друкуе і будзе друкаваць наш часопіс.

У паперах Віленскага архіва, у тым жа фондзе № 634 я знайшоў і сваіх дзядоў - грэка-католікаў Ваўкавыскага дэканату як з боку маці, так і з боку бацькі. З матчынымі крэўнымі яшчэ трэба добра разбірацца, таму, для прыкладу, прывяду толькі інфармацыю пра сваіх дзядоў з боку бацькі.

У архіве маецца не адзін спіс ваўкавыскіх уніятаў за адзін год, а тры спісы за тры розныя гады.

У 1824 г. святар Кірыл Турцэвіч склаў спіс сваёй Зельзінскай парафіі. У вёсцы Галоўчыцы, пад нумарам 64 значыліся: Рыгор Лаўрыш (Grzegosz Lawrysz), 45 г.; Язэп, сын Рыгора Лаўрыша (Jozef, syn Grzegosza Lawrysza), 25 г.; Лукаш, сын Рыгора Лаўрыша (Lukasz, syn Grzegosza Lawrysza), 17 г.; Юры, сын Рыгора Лаўрыша (Jerzy, syn Grzegosza Lawrysza), 15 г.; Мар'яна, жонка Рыгора Лаўрыша (Maryana, zona Grzegosza Lawrysza), 40 г. і ўдава ... жонка сп. Філіпа Мыўкава (?), 48 г.[2]

У 1826 г. пры Галоўчыцкім двары жылі Рыгор Лаўрыш (Grzegosz Lawrysz), 55 г.; Язэп, сын Рыгора Лаўрыша (Jozef, syn Grzegosza Lawrysza), 28 г.; Лукаш, сын Рыгора Лаўрыша (Lukasz, syn Grzegosza Lawrysza), 21 г.; Юры, сын Рыгора Лаўрыша (Jerzy, syn Grzegosza Lawrysza), 16 г.; Мар'яна, жонка Рыгора Лаўрыша (Maryana, zona Grzegosza Lawrysza), 54 г.[3].

У 1828 г. усё той жа святар Кірыл Турцэвіч склаў трэці спіс вернікаў парафіяльнай Зельзінскай царквы. Пры двары Галоўчыцы ЯВ Пятра Біс-пінга, былога маршалка Ваўкавыскага павета значыліся: Рыгор Лаўрэш (Grzegosz Lawresz), 62 г.; Язэп, брат Рыгора (Jozef, brat Grzegosza Lawresza), 29 г.; Дзяніс, сын Язэпа Лаўрэша (Dyonizy, syn Jozefa Lawresza), 3/12 (узрост - 3 месяцы)[4].

Адсюль раблю наступныя вынікі:

1. Адзін і той за святар пісаў прозвішчы па-рознаму: Lawrysz і Lawresz, потым гэта ў маёй сям'і неаднаразова паўтаралася.

2. Святар памыляецца пры вызначэнні ўзростаў вернікаў, узросты не стасуюцца паміж запісамі розных гадоў.

3. У 1823 г. сям'я Лаўрэшаў - гаспадарчая адзінка, "дым", яны маюць свой дом. У 1826 г. ужо жывуць пры двары. Нешта здарылася, можа пажар?

Лаўрэшы ідуць апошнімі сярод спіска тых, хто жыве пры двары, і не вядома, чым яны займаюцца. Насупраць іншых дваравых напісана: лёкай, ці кухар, ці агароднік і г.д.

4. У 1828 г. застаюцца толькі два дарослыя. Эпідэмія? Зноў пажар?

Зразумела, што 29-ці гадовы Язэп Лаўрэш у 1828 г. удавец. І калі ён жаніўся яшчэ раз і меў сына, дык каля 1850 г. яго сын меў сына Гаўрыіла (у сям'і звалі Габрыэль). Калі не, дык тады Гаўрыіл - сын Дзяніса. У любым выпадку Гаўрыіл - мой прадзед, бацька майго дзеда Васіля Гаўрыілавіча і дзед майго бацькі Лявонція Васільевіча.

Каб замкнуць ланцуг трэба працягваць пошукі.

Расчытваючы, а месцамі нават расшыфроўваючы рукапісную лацінку ўніяцкіх святароў я не мог не рабіць памылак. Але магу адказна заявіць, што колькасць памылак будзе не большая за 1 % ад усёй інфармацыі.

На заканчэнне трэба сказаць, што ўсе продкі сучасных праваслаўных людзей на Лідчыне былі да 1839 г. грэка-католікамі.

**Лідская грэка-каталіцкая парафія[5]**

**Дзедзічная вёска Ольжаў яснавяльможнага пана Андрэйкавіча:**

1. Мацей Нічыпар, 26 г.; брат Тадэвуш, 17 г.; другі брат Адам, 14 г.; Ева, дачка Мацея, 8 г.

2. Вінцэнт Нічыпар, 46 г.; брат Антон, 26 г.; Кшыштаф, 23 г.; трэці Ян, 21 г.; Юзаф, сын Вінцэнта, 11 г.; маці Агата, жонка Вінцэнта і жонка Антона - лацінскага абраду.

3. Юзаф Ганевіч, 49 г.; брат Ян, 26 г.; жонка

[2] LVIA. Ф.634. Воп. 1. Спр. 23. Інвентар вернікаў парафіяльных цэркваў Ваўкавыскага дэканату, 1823 г. Зельзінская царква, 16 студзеня 1824 г. А. 101 адв.

[3] LVIA. Ф.634. Воп. 1. Спр. 25. Інвентар вернікаў парафіяльных цэркваў Ваўкавыскага дэканату, 1826 г. Зельзінская царква. А. 16 адв.

[4] LVIA. Ф.634. Воп. 1. Спр. 12. Інвентар вернікаў парафіяльных цэркваў Ваўкавыскага дэканату, 1828 г. Зельзінская царква. А. 30.

[5] LVIA. Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскага дэканату 1829 г. Лідская царква А. 189 - 193 адв.

| Вёскі | Дымоў | Разам, вернікаў | Мужчыны | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Да камуніі | Не да камуніі | Да камуніі | Не да камуніі |
| Вёска Скрыбаўцы | 16 | 117 | 43 | 20 | 38 | 16 |
| Вёска Бешанкі | 18 | 119 | 51 | 15 | 45 | 8 |
| Вёска Шпількі | 15 | 96 | 46 | 8 | 33 | 9 |
| Вёска Зенавічы | 5 | 32 | 8 | 5 | 14 | 5 |
| Вёска Царкоўцы | 4 | 22 | 7 | 2 | 7 | 6 |
| Вёска Гардзееўцы | 9 | 67 | 21 | 14 | 21 | 11 |
| Вёска Аленкаўцы | 14 | 86 | 34 | 15 | 27 | 10 |
| Вёска Русанаўцы | 7 | 49 | 18 | 9 | 18 | 4 |
| Вёска Гасцілаўцы | 15 | 91 | 39 | 11 | 39 | 11 |
| Вёска Кіралі | 11 | 67 | 20 | 12 | 17 | 18 |
| Вёска Аўтушкі | 3 | 24 | 7 | 8 | 7 | 2 |
| Вёска Агароднікі | 5 | 14 | 3 | 3 | 4 | 4 |
| Разам | 122 | 784 | 297 | 122 | 261 | 104 |

**Дзедзічная вёска яснавяльможнага пана Хадкевіча Аўтушкі:**

1. Тадэвуш Пінчук, 25 г.; яго брат Юзаф, 18 г.; яго жонка Агата, 28 г.; яе дачка Канстанцыя, 28 г.

2. Ян Коўчык, 34 г.; яго сын Юзаф, 3 г.; брат Яна Павел, 20 г.; жанчыны рымскага абраду.

3. Антон Коўчык, 34 г.; яго сыны: Мацей, 12 г. і Данель, 10 г.; брат Антона Юзаф, 32 г.; яго сыны: Сымон, 11 г., Юзаф, 8 г., Тадэвуш, 7 г., Казімір, 3 г. і Якуб 1 г.; дочкі Антона Мар'яна, 17 г. і Кацярына, 14 г.; жонка Юзафа Антаніна, 28 г.; яе дочкі: Настасся, 14 г. і Францішка, 16 г.; дачка Антона Караліна, 1 г.; маці Антона Апалонія, 60 г.

**Дзедзічная вёска яснавяльможнага пана Хадкевіча Агароднікі:**

1. Мужчыны рымскага абраду; Клара Драбняк, 27 г.; яе дачка Юзафата, 7 г.

2. Мужчыны рымскага абраду; жонка Мар'яна, 31 г.; яе дачка Магдалена, 10 г.

3. Мужчыны рымскага абраду; жонка Анна, 36 г.; яе дачка Агата, 7 г.

4. Францішак Зінкевіч, 48 г.; яго сыны: Юзаф, 12 г. і Якуб, 1 г.; жонка Францішка Ева, 34 г.; яе дачка Канстанцыя, 7 г.

5. Антон Саміла, 60 г.; яго сыны: Антон, 16 г. і Станіслаў, 8 г.; жанчыны рымскага абраду.

*Гэты інвентар парафіян склаў ... святар Плаўскі, адміністратар Маламажэйкаўскай царквы.*

**Жыжмянская парафія**[8]

**Дзедзічная вёска яснавяльможнага пана графа, генерала Людвіка Паца Вялікія Князюкоўцы:**

1. Юзаф Хвалько, 66 г.; сыны Юзафа: Міхал, 26 г. і Адам 23 г.; дачка Юзафа Антаніна, 15 г.

2. Бенядзікт Ткач, 41 г.; сыны: Леон, 4 г. і Юзаф, 2 г.; брат Бенядзікта Тадэвуш, 39 г.; сыны Тадэвуша: Ян, 4 г. і Мацей, 1 г.; здымае кут Міхал Сайкоўскі, 61 г.; жанчыны лацінскага абраду; дачка Міхала Ядвіга, 24 г.

3. Мужчына лацінскага абраду; Мар'яна Садоўская, 46 г.; яе дочкі: Мар'яна, 19 г. і Мар'яна, 9 г.

4. Адам Малец, 18 г.; маці Адама Хэлена, удава, 52 г.; дочкі: Тэадора Ванагель, 11 г. і Мар'яна.

5. Адам Рачынскі, 14 г.; яго браты: Мікалай, 10 г., Юзаф, 6 г. і Тэадор, 3 г.; швагер Якуб Астрэйка, 27 г.; маці Адама Таццяна, 47 г.; яе дачка Ева, 16 г.; жонка Якуба Барбара, 19 г.

6. Мужчына лацінскага абраду; Ева Лабан, 36 г.; яе дочкі: Барбара, 9 г. і Міхаліна, 5 г.

7. Гжэгаш Барташэвіч, 39 г.; яго сын Ежы, 4 г.; жонка Гжэгаша Ева, 32 г.; яе дочкі: Францішка, 7 г. і Анна, 2 г.; жонка брата Пятранела, 25 г.; яе дачка Таццяна, 2 г.

8. Гжэгаш Астрэйка, 39 г.; яго дочкі: Пракседа, 14 г., Люцыя, 12 г., Паўліна, 6 г., Кацярына, 4 г. і Барбара, 2 г.

9. Мужчыны лацінскага абраду; Настасся Аляксандровіч, 39 г.; дочкі: Дарота ... 21 г. і Кацярына, 5 г.; служка Марыя ... 19 г.;

10. Пётр Астрэйка, 78 г.; яго сыны: Юзаф, 39 г. і Якуб 22 г.; сыны Юзафа: Юзаф, 15 г., Андрэй, 10 г. і Сцяпан, 4 г.; жонка Пятра, 66 г.; жонка Юзафа Марцэля, 32 г.; яе дачка Паўліна, 7 г.; жонка Якуба Пракседа, 19 г.

11. Сцяпан Астрэйка, 61 г.; яго сын Ян, 20 г.; зяць Базыль Барыс, 39 г.; яго сын Ян, 1 г.; жонка Сцяпана Агата, 46 г.; яе дачка Язафата, 13 г.; жонка Базыля Зоф'я, 29 г.; яе дачка Язафата, 2 г.

12. Пракоп Тарасевіч, 56 г.; яго сыны: Ян, 29 г., Макар, 18 г., Данель, 15 г. і Сцяпан, 2 г.; сын Пракопа Ян, 2 г.; жонка Яна Настасся, 26 г.; яе дачка Агата, 7 г.

13. Мужчыны лацінскага абраду; Таццяна Шадурская, 46 г.; яе дочкі: Мар'яна, 6 г. і Канстанцыя, 3 г.

14. Леон Новік, 56 г.; яго сыны: Сымон, 31 г., Леон, 4 г. і Валянцін, 1 г.; служка Гжэгаш Яўхімец, 25 г.; дачка Лявона Мар'яна, 19 г.; жонка Сымона Еўдакія, 31 г.; яе тры дачкі: Анна, 8 г., Ева, 6 г. і Кацярына, 2 г.

15. Максім Ваўчок, 54 г.; яго сыны: Павел, 26 г., Казімір, 21 г. і Антон, 10 г.; сын Паўла Ян, 5 г.; жонка Максіма Таццяна, 46 г.; яе дачка Агата, 15 г.

16. Якуб Булей, 28 г.; яго сыны: Адам, 4 г. і Міхал, 2 г.; брат Якуба Ісідор, 24 г.; кабеты лацінскага абраду.

[8] LVIA. Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскай парафіяльнай царквы 1829 г. Жыжмянская царква А. 175 - 187 адв.

17. Гжэгаш Валошык, 49 г.; яго сын Максім, 2 г.; жонка Гжэгаша Хэлена, 39 г.; яе дочкі: Цацылія, 16 г., Пракседа, 10 г. і Пракседа, 8 г.

18. Мацей Новік, 41 г.; яго сыны: Гжэгаш, 14 г., Аляксандр, 11 г. і Сымон, 2 г.; кабеты лацінскага абраду.

19. Міхал Астрэйка, 43 г.; яго сыны Адам, 12 г. і Мікалай, 9 г.; яго падчарыцы: Марыя Новік, 22 г. і ..., 16 г.

20. Ануфрый Каспяровіч, 17 г.; яго маці Мар'яна, 46 г.; яе дочкі: Анна, 22 г. і Язафата, 13 г.; дачка Анны Паўліна, 3 г.

21. Ісідор Ляўковіч, швагры: Ежы, 13 г., Адам, 9 г., Якуб, 5 г. і Ян, 3 г.; жонка Ісідора Барбара, 24 г.

22. Андрэй Войцік, 71 г.; яго сын Сымон, 44 г.; сын Сымона Ян, 19 г.; жонка Яна Анна, 22 г.

23. Ян Яўхімец, 56 г.; яго сын Адам, 18 г.; брат Яна Ян, 51 г.; яго сыны: Пётр,18 г. і Сцяпан, 7 г.; жонка Яна Антаніна, 49 г.; яе дачка Анна, 5 г.; брата жонка Агата, 44 г.; яе дачка Францішка, 16 г.; здымае кут Кацярына Астрэйка, 56 г.

24. Сцяпан Яўхімец, 51 г.; яго брат Мацей, 30 г.; жонка Сцяпана Дамініка, 44 г.; яе дачка Ева, 13 г.; жонка Мацея Анна, 26 г.; яе дачка Крысціна, 2 г.; сястра Анны Мар'яна, 12 г.

25. Адам Яўхімец, 27 г.; яго сыны: Якуб, 8 г. і Мікалай, 5 г.; жонка Адама Язафата, 26 г.; яе дачка Мар'яна, 2 г.; пляменніцы: Тэадора, 14 г. і Мар'яна, 10 г.

26. Ян Ванагель, 14 г.; яго маці Настасся, 44 г.; яе дочкі: Тэрэза, 16 г., Тэадора, 7 г. і Антаніна, 4 г.

27. Мужчыны лацінскага абраду; Настасся Ванагель, 51 г.; яе дочкі: Агата, 23 г., Анна, 21 г. і Еўфрасіння, 16 г.

28. Гжэгаш Грышук, 39 г.; яго сыны: Сільвестр, 4 г. і Міхал, 1 г.; яго жонка Кацярына, 30 г.; яе дочкі: Пракседа, 9 г., Мар'яна, 6 г. і Зоф'я, 4 г.; пляменніцы: Язафата, 16 г. і Канстанцыя, 12 г.; здымае палову хаты: Барбара Барташэвіч, 40 г.

29. Ігнацій Жук, 25 г.; яго сыны: Юзаф, 5 г. і Казімір, 3 г.;

30. Казімір Каспяровіч, 15 г.; яго брат Ян, 12 г.; яго маці Барбара, 41 г.; яе дачка Мар'яна, 5 г.

31. Мужчыны лацінскага абраду; Яна Каспяровіч, 15 г.; жонка яе брата Агата, 26 г.

32. Кшыштаф Ткач, 41 г.; яго сын Адам, 3 г.; яго жонка Дамініка, 43 г.; яе дочкі: Язафата, 23 г., Пятранела, 10 г. і Кацярына, 6 г.

33. Мужчыны лацінскага абраду; Таццяна Ванагель, 35 г.; яе дачка Язафата, 7 г.

**Дзедзічная вёска яснавяльможнага пана графа, генерала Людвіка Паца Малыя Князюкоўцы:**

1. Юзаф Ванагель, 26 г.; швагер Мікалай Хведарук, 32 г.; жонка Юзафа Марыя, 30 г.; яе дочкі: Альжбета, 6 г. і Пятранела, 1 г.; маці Міхала Мар'яна, 61 г.

2. Міхал Заруба, 80 г.; яго сын Базыль, 45 г.; сыны Базыля: Міхал, 20 г., Сымон, 17 г. і Канстантын, 3 г.; жонка Базыля Таццяна, 41 г.; яе дочкі: Альжбета, 11 г. і Францішка, 7 г.

3. Мужчыны лацінскага абраду; Мар'яна Лабан, 51 г.; яе дочкі: Мар'яна, 25 г. і Таццяна, 21 г.; пляменніца Язафата, 26 г.; яе маці Марцэля Тарасевіч, 46 г.

4. Лявон Каспяровіч, 22 г.; яго маці Настасся, 60 г.; яе дачка Таццяна, 17 г.

5. Пётр Булей, 13 г.; яго брат Ануфрый, 10 г.; маці Мар'яна, 36 г.; яе дочкі: Дамініка, 17 г., Паўліна, 12 г. і Язафата, 2 г.; пляменніцы: Ева, 18 г. і Альжбета, 13 г.

6. Ян Вальчар, 56 г.; здымае палову дома Тэадор Малец, 26 г.; служка Ян Заруба, брат Адам, 14 г.; пляменніца Яна Францішка, 26 г.; дачка Яна Зоф'я, 13 г.; жонка Тэадора Кацярына, 26 г.; яе дочкі: Ева, 4 г. і Пракседа, 1 г.; ... Яна, 1 г.

7. Мужчыны лацінскага абраду; Мар'яна Тарасевіч, 64 г.

8. Ян Юшкевіч, 35 г.; яго сын Ян, 11 г.; жонка Яна Мар'яна, 41 г.; яе дочкі: Мар'яна, 14 г., Агата, 7 г., Міхаліна, 5 г. і Апалонія, 2 г.; пляменніца Пятранела, 14 г.; Ева Дубовіч, 12 г.; служка Крысціна Заруба, 12 г.

9. Базыль Малец, 67 г.; яго сын Ян, 31 г.; сыны Яна: Ануфрый, 3 г. і Клеменс, 1 г.; унук Базыля Сільвестр, 10 г.; нявестка Базыля Агата, 30 г.; яе дачка Барбара, 15 г.

10. Тамаш Гурскі, 56 г.; яго сыны: Ежы, 13 г. і Сільвестр, 8 г.; муж сястры Мацей Батула, 37 г.; яго сыны: Ян, 8 г. і Сымон, 5 г.; жонка Тамаша Кацярына, 46 г.; яе дачка Люцыя, 11 г.; маці Мацея Крысціна, 67 г.

11. Пётр Астрэйка, 34 г.; яго сын Тэадор, 6 г.; брат Міхал, 26 г.; жонка Пятра Анна, 26 г.; яе дачка Агата, 2 г.; дачка Міхала Вера, 31 г.

12. Максім Набэчка, 56 г.; яго пляменнікі: Ян, 29 г. і Сымон, 26 г.; жонка Яна - Яна, 36 г.; яе дочкі: Марта, 5 г., Язафата, 3 г. і Мар'яна, 2 г.; жонка Сымона Тэрэза, 22 г.; яе дачка Мар'яна, 2г.

13. Сцяпан Жамойдзін, 56 г.; яго сын Сцяпан, 19 г.; жонка Сцяпана Рэйна, 56 г.

14. Ян Хвядзюк, 36 г.; яго брат Ігнацій, 26 г.; жонка Яна Магдалена, 36 г.; яе дочкі: Мар'яна, 4 г. і Марта, 1 г.; сястра Барбара Касцюк, 40 г.

15. Мацей Жук, 61 г.; яго сыны: Сцяпан, 37 г. і Юзаф, 31 г.; сыны Сцяпана: Адам, 12 г. і Юзаф, 8 г.; жонка Сцяпана Мар'яна, 46 г.; яе дачка Мар'яна, 6 г.

16. Ян Гурскі, 30 г.; яго пляменнікі: Ігнацій, 20 г. і Язафат, 15 г.; сыны Яна: Мікалай, 1 г. і Язафат, 2 г.; жонка Яна Анна, 29 г.; яе дачка Пракседа, 1 г.

17. Антон Валошык, 73 г.; брат Павел, 56 г.; жонка Паўла Мар'яна, 51 г.; яе дочкі: Мар'яна 21 г.,і Апалонія, 14 г.

18. Міхал Малец, 49 г.; яго брат Андрэй, 41 г.; сыны Мікалая: Адам, 12 г., Ян, 8 г. і Мікалай, 2 г.; жонка Мікалая Еўдакія, 34 г.; яго дачка Мар'яна, 6 г.; жонка Андрэя Альжбета, 31 г., яе дочкі: Мар'яна, 6 г., Ева, 4 г. і Мажэна, 1 г.

19. Максім Ваўчок, 47 г.; яго сыны: Юзаф, 16 г. і Казімір, 7 г.; маці Максіма Агата, 86 г.

20. Сымон Тарашкевіч, 26 г.; брат Сымона Адам, 16 г.; Сымона жонка Зоф'я, 26 г.; яе сястра Таццяна, 22 г.

21. Аляксандр Ваўчок, 66 г.; яго зяць Філіп Колас, 28 г.; Філіпа сын Пракоп, 6 г.; брат Філіпа Лаўрын, 22 г.; кабеты лацінскага абраду.

22. Міхал Ткач, 44 г.; пляменнік Ян, 23 г.; пляменнік Леон Яўхімовіч, 16 г.; жонка Міхала Хэлена, 37 г.; сястра Леона Мар'яна, 30 г.; другая яго сястра Мар'яна, 14 г.; дачка Алены Пятранела, 8 г.

23. Карп Новік, 25 г.; браты: Панфіл, 21 г. і Базыль, 17 г.; жонка Карпа Анна, 21 г.; яго сястра Магдалена, 12 г.; маці Мар'яна, 51 г.

24. Андрэй Яўхімец, 34 г.; яго сыны: Андрэй 10 г. і Дзмітры, 7 г.; служка Адам ... 18 г.; жонка Андрэя Настасся, 30 г.; яе дочкі: Ядвіга, 3 г. і Юстына, 1 г.; маці Андрэя Мар'яна, 86 г.

**Людзі дворныя:**

Сцяпан Карніла, 35 г.; яго сын Ян, 2 г.; пастух Гжэгаш Батюла, 39 г.; кабеты лацінскага абраду.

**Дзедзічная вёска яснавяльможнага пана харунжага Лідскага павету Эдварда Захватовіча Сліжы:**

1. Яўхім Шавель, 31 г.; кабеты лацінскага абраду.

2. Міхал Шавель, 25 г.; жонка Міхала Крысціна, 46 г.; яго сёстры: Настасся, 15 г., Анна, 13 г. і Агата, 13 г.; маці Настасся.

3. Сымон Багдан, 71 г.; яго сыны: Дзмітры, 38 г. і Данель, 13 г.; жонка Сымона Мар'яна, 41 г.; жонка Дзмітрыя Яна, 26 г.; яе дочкі: Казіміра, 5 г.; Караліна, 3 г. і Тэрэса, 2 г.; дачка Сымона Тэадора, 21 г.

4. Мужчыны лацінскага абраду; Наталля Багдан, 51 г.; яе дачка Кацярына, 13 г.

5. Андрэй Горбач, 46 г.; швагер Ісідор Паляшук, 27 г.; дзядзька Пётр Васілючак, 28 г.; сын Ісідора Марцін, 2 г.; жонка Андрэя Анна, 25 г.; яе дачка Кацярына, 2 г.; жонка Ісідора Францішка, 36 г.

6. Мацей Горбач, 32 г.; сын Ян, 3 г.; кабеты лацінскага абраду.

7. Мужчыны лацінскага абраду; Крысціна Пікулік, 51 г.; яе дочкі Анна, 12 г. і Агата, 4 г.

8. Міхал Шавель, 34 г.; яго сын Ян, 4 г.; зяць Антон Пікулік, 22 г.; жонка Міхала Дамініка, 51 г.; яе дочкі: Кунегунда, 12 г. і Агата, 9 г.; жонка Антона Зоф'я, 21 г.

9. Мужчыны лацінскага абраду; Тэадора Войдак, 29 г.; яе дочкі Анна, 6 г. і Язафата, 1 г.

**Вёска таго ж яснавяльможнага пана харунжага Лідскага павету Эдварда Захватовіча Меляшы:**

1. Леон Багдан, 34 г.; яго сын Юзаф, 6 г.; здымае палову дома Ян Шавель, 26 г.; яго сыны: Мацей, 8 г. і Юстын, 4 г.; жонка Леона Пятранела, 30 г.; яе дачка Еўдакія, 3 г.

2. Казімір Сарока, 56 г.; яго сыны: Якуб, 20 г., Вінцэнт, 12 г., Габрыэль, 8 г. і Марцін, 4 г.; дочкі Казіміра: Агата, 16 г. і Крысціна, 8 г.; жонка Дамініка Анна, 28 г.; яе дочкі: Агата, 17 г. і Мар'яна, 2 г.

3. Паўлалеон Гецэвіч, 61 г.; сын Тамаш, 20 г.; пасынак Ян Шавель, 31 г.; яго сын Міхал, 4 г.; жонка Паўлалеона Мар'яна, 51 г.; жонка Яна Мар'яна, 26 г.; яе дачка Дамініка, 1 г.

4. Дамінік Адасюк, 61 г.; яго сыны Міхал, 24 н. і Аляксандр, 38 г.; сын Аляксандра Антон, 1 г.; дочкі: Дамініка Агата, 33 г. і Яна, 22 г.

5. Пётр Адасюк, 35 г.; сын Эдвард, 3 г.; жонка Пятра Тэадора, 32 г.; яе дочкі Антаніна, 12 г., Барбара, 9 г., Мар'яна, 6 г. і Кацярына, 1 г.

6. Міхал Сарока, 36 г.; яго сыны: Ян, 4 г. і Сымон, 2 г.; брат Міхала Урбан, 31 г.; дзядзька Юзаф, 65 г.; жонка Міхала Настасся, 35 г.; яе дачка Агата, 8 г.; маці Міхала Пятранела, 56 г.

7. Мацей Паляшук, 35 г.; яго сын: Антон, 7 г. і Юзаф, 1 г.; брат Мацея Ян, 33 г.; яго сын Пётр, 2 г.; пляменнік Юзаф Шавель, 15 г.; жонка Мацея Настасся, 19 г.

8. Якуб Васілючак, 27 г.; сыны: Юзаф, 9 г. і Мікалай, 1 г.; браты Якуба: Лукаш, 22 г. і Андрэй, 20 г.; сёстры: Ева, 18 г. і Анна, 15 г.; маці Пракседа, 46 г.

**Вёска таго ж яснавяльможнага пана харунжага Лідскага павета Эдварда Захватовіча Воўкаўцы:**

1. Казімір Бубен, 28 г.; сын Юзаф, 2 г.; брат Лукаш, 37 г.; яго сыны Францішак, 14 г. і Юзаф, 10 г. жонка Казіміра Настасся, 29 г.; жонка Лукаша Анна, 33 г.

2. Лаўрэнцій Бубен, 21 г.; яго пляменнік Яўхім, 6 г.; жонка брата Лаўрэнція Тэадора, 32 г.; яе дочкі: Анна, 10 г. і Анна, 4 г.; здымае кут Барбара Казлоўская, 30 г.

3. Базыль Пілюта, 31 г.; сыны: Ян, 10 г. і Караль, 8 г.; брат Базыля Пётр, 32 г.; жонка Базыля Магдалена, 30 г.; яе дачка Антаніна, 15 г.

4. Бенядзікт Бубен, 27 г.; сын Лукаш, 1 г.; брат Тамаш, 21 г.; швагер Юзаф Пілюта, 30 г.; яго сыны: Юзаф, 4 г. і Язафат, 1 г.; жонка Бенядзікта Юльяна, 26 г.; жонка Юзафа Міхаліна, 25 г.; служка Тэкля Бубен, 11 г.

5. Лукаш Пілюта, 29 г.; здымае кут Мацей Бубен, 61 г.; жонка Лукаша Агата, 30 г.

6. Аляксандра Бубен, 46 г.; сыны: Эльяш, 12 г. і Гжэгаш, 1 г.; дачка Аляксандра Юльяна, 4 г.; сястра Аляксандра Марыя Гудзель, 30 г.; яе дочкі: Юстына, 13 г. і Кацярына, 4 г.

7. Мацей Пілюта, 66 г.; сыны: Якуб, 29 г. і Юзаф, 26 г.; унук Якуб, 6 г.; пасынак Якуба Пётр, 2 г.; жонка Якуба Крысціна, 40 г.; яе дочкі: Казіміра, 9 г. і Агата, 5 г.

8. Францішак Шавель, 66 г.; зяць Вінцэнт Бубен, 29 г.; жонка Вінцэнта Крысціна, 33 г.; яе дочкі: Агата, 13 г., Мар'яна, 6 г., Ядвіга 4 г. і Клара, 1 г.; сястра Францішка Кацярына, 96 г.

9. Петр Пілюта, 36 г.; сыны Вінцэнт, 13 г., Адам, 10 г. і Ануфрый, 4 г.; брат Ян, 24 г.; жонка Пятра Мар'яна, 37 г.; дачка Еўпраксіння, 5 г.

10. Якуб Шавель, 26 г.; яго пляменнікі: Ігнацій, 20 г.; Лука, 18 г. і Пётр, 15 г.; жонка Якуба Тэадора, 36 г.; яе дачка Мар'яна, 5 г.; сястра Крысціна, 41 г.; яе дачка Анна, 8 г.

11. Ян Пілюта, 34 г.; сыны Антон, 10 г. і Сцяпан, 8 г.; брат Юзаф, 29 г.; дачка Яна ..., 1 г.

12. Мацей Бубен, 52 г.; сыны Ігнацій, 16 г. і Ян, 11 г.; швагер Максім Пілюта, 34 г.; яго сын Мацей, 9 г.; жонка Максіма Кацярына, 36 г.; дочкі: Люцыя, 12 г. і Мар'яна, 1 г.

13. Якуб Бубен, 37 г.; сын Міхал, 4 г.; брат Сымон, 34 г.; яго сыны: Юзаф, 8 г. і Алексы, 1 г.; жонка Якуба Мар'яна, 37 г.; жонка Сымона Ева, 36 г.; яе дачка Яна, 5 г.

14. Яўхім Шавель, 35 г.; сын Пракоп, 1 г.; кабеты лацінскага абраду.

15. Мужчыны лацінскага абраду; Люцыя Шульга, 41 г.; здымае кут Пракседа Шавель, 26 г.

16. Гжэгаш Бубен, 49 г.; сын Ежы, 25 г.; здымае кут Сцяпан Пілюта, 36 г.; яго сын Леон, 9 г.; жонка Гжэгаша Хэлена, 46 г.; дачка Настасся, 21 г.; служка Агата Шавель, 10 г.; жонка Ежы Дарота, 26 г.

**Вёска таго ж яснавяльможнага пана харунжага Лідскага павета Эдварда Захватовіча Харужаўцы**

1. Тадэвуш Лабашынскі, 51 г.; сын Андрэй, 19 г.; зяць Якуб Шавель, 26 г.; яго сын Нікадзім, 3 г.; жонка Тадэвуша Мар'яна 46 г.; жонка Якуба Юльяна, 22 г.

2. Мацей Тулай, 19 г.; Клеменс, 15 г.; Якуб, 10 г.; Сымон, 8 г.; сястра Міхаліна, 21 г.

3. Мужчыны лацінскага абраду; Мар'яна Чайкоўская, 35 г.; пляменніца Агата Казлоўская, 24 г.

4. Міхал Тулай, пляменнікі: Аўгусцін, 21 г. і Яўхім, 19 г.; сястра Анна, 26 г.; яе дачка Францішка, 2 г.; жонка Міхала Настасся, 19 г.;

5. Мужчын няма; Агата Тулай, 33 г.; яе дочкі: Агата, 33 г., Ружа, 10 г., Анна, 8 г., Язафата, 5 г. і Пракседа, 1 г.

6. Тулай Мікіта, 51 г.; сыны: Лаўрэн, 26 г., Ян, 23 г., Мацей, 18 г. і Ян ? г.; жонка Лаўрэна Кацярына, 17 г.; яе сястра Ева, 17 г.; яе маці Мар'яна, 46 г.

7. Базыль Лабашынскі, 41 г.; яго сыны: Цыпрыян, 18 г., Базыль, 11 г. і Ян, 1 г.; жонка Базыля Настасся, 36 г.; дочкі: Антаніна, 7 г. і Тэадора, 3 г.;

8. Ян Пілюта, 44 г.; сыны: Лукаш, 18 г., Ежы, 15 г. і Аляксандр, 7 г.; дачка Анна, 11 г.; сястра Яна, 26 г.

**Дзедзічная вёска Філіпкі вяльможных паноў Вільбікаў, падстоліяў Лідскага павета:**

1. Лукаш Лабан, 20 г.; сын Ян, 1 г.; браты Юзаф, 24 г. і Яўхім, 10, г. жонка Лукаша Анна, 22 г.; яго сястра Кацярына, 15 г.

2. Павел Куча, 37 г.; сыны: Мікалай, 11 г. і Эльяш, 3 г.; браты Мацей, 32 г. і Юзаф, 25 г.; жонка Юзафа Караліна, 23 г.

3. Станіслаў Абрамоўскі, 23 г.; пляменнік Мікалай, 3 г.; служка Ян Ляўковіч, 22 г.; цётка Кацярына Кузьма, 61 г.; яе дачка Марыя ..., 38 г.; маці Настасся, 49 г.

4. Тамаш Пілецкі, 40 г.; сыны: Сцяпан, 10 г, Міхал, 5 г. і Мацей, 3 г.; брат Ян, 49 г.; служка Блажэй Куча, 18 г.; дачка Яна Агата, 26 г.

**Дзедзічная вёска Бакуны Вяльможнага пана прэзідэнта Лідскага суда Юзафа Лашкевіча:**

1. Мужчыны лацінскага абраду; Пятранела Куча, 39 г.; яе дочкі: Мар'яна, 16 г. і Марыя, 5 г.

2. Мужчыны лацінскага абраду; Магдалена Куча, 46 г.; дочкі Еўпраксіння, 8 г. і Антаніна, 3 г.

3. Мужчыны лацінскага абраду; Кацярына Куча, 34 г.; дочкі: Юльяна, 16 г. і Хэлена, 11 г.

4. Філіп Кіслы, 25 г.; брат Павел, 22 г.; жонка Філіпа Анна, 26 г.; яе сястра Ружа Свідэрская, 34 г.

5. Ян Арцімовіч, 40 г.; брат Ян, 31, г.; сын Яна Мікалай, 5 г.; сястра Анна, 30 г.

6. Ян Кіслы, сыны: Сымон, 33 г. і Ануфрый, 26 г.; сыны Сымона: Ян, 8 г. і Пётр, 3 г.; пляменнікі: Адам, 11 г., Ян, 8 г., Мацей, 6 г.; жонка сына Анна, 36 г.

7. Мужчыны лацінскага абраду; Еўдакія Куча, 35 г.; дочкі: Ева, 9 г. і Тэкля, 6 г.

8. Мужчыны лацінскага абраду; Крысціна ..., 43 г.; ... Тэрэса, 29 г.

9. Мужчыны лацінскага абраду; Агата Свідэрская, 34 г.

**Дзедзічная вёска Кір'янаўцы вяльможнага пана прэзідэнта Лідскага суда Юзафа Лашкевіча:**

1. Захар Юнец, 36 г.; сын Ян, 2 г.; дзядзька Ігнацій, 44 г.; яго сын Юстын, 9 г.; пляменнік Марцін Зыбур, 18 г.; жонка Ігнацыя Марыя Зыбур, 30 г.

2. Мацей Юнец, 37 г.; сыны: Ян, 6 г. і Тамаш, 4 г.; брат Юзаф, 34 г.; сыны: Сцяпан, 6 г. і Казімір, 4 г.; жонка Юзафа Анна, 30 г.; яе дачка Альжбета, 1 г.; цётка Таццяна Куча, 54 г.; здымае кут Кацярына Квач, 30 г.

3. У двары Антон Юнец, 30 г.; Кацярына Яцэвіч, 40 г.; яе дачка Вікторыя, 9 г.; маці Хэлена Куча, 46 г.; дочкі: Язафата, 8 г. і Юльяна, 5 г.; Ружа Дропа, 46 г.

**Вёска Бялундзі і Андрушкі вяльможнай панны маяроўны[9] Якінай:**

1. Станіслаў Ляўдаровіч, 66 г.; яго сын Францішак, 24 г.; кабеты вёскі Андрушкі: Мар'яна Зданчык, 36 г.; яе дачка Паўліна, 2 г.; Ядвіга Галавач, 28 г.; яе дачка Юзэфа, 2 г.

*Гэты спіс склаў ... святар Ян Залескі.*

| Вёскі і ўладальнікі | Дымоў | Разам, вернікаў | | Мужчыны | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | мужч. | жанч. | Да кам. | Не да кам. | Да кам. | Не да кам. |
| Вёска Вялікія Князюкоўцы ЯПп Паца | 33 | 88 | 102 | 59 | 29 | 71 | 31 |
| Вёска Малыя Князюкоўцы ЯПп Паца | 24 | 74 | 81 | 58 | 16 | 55 | 26 |
| Вёска Сліжы ЯВп Захватовіча | 9 | 14 | 25 | 11 | 3 | 17 | 8 |
| Вёска Меляшы ЯВп Захватовіча | 8 | 38 | 24 | 24 | 14 | 16 | 8 |
| Вёска Воўкавічы ЯВп Захватовіча | 16 | 58 | 45 | 43 | 15 | 32 | 13 |
| Вёска Харужаўцы ЯВп Захватовіча | 8 | 24 | 22 | 29 | 5 | 16 | 6 |
| Вёска Філіпкі васпанства Вільбікаў | 4 | 18 | 7 | 13 | 5 | 7 | - |
| Вёска Бакуны васпана Лашкевіча | 8 | 13 | 19 | 8 | 5 | 14 | 5 |
| Вёска Кір'янаўцы васпана Лашкевіча | 3 | 12 | 11 | 6 | 6 | 7 | 4 |
| Вёска Бялундзі і Андрушкі Якіных | 3 | 2 | 4 | 2 | - | 2 | 2 |
| Разам | 116 | 341 | 340 | 243 | 98 | 237 | 103 |

[9] Дачка маёра.

# Засценак Станкевічы

На могілках колішняга засценка Станкевічы, недалёка ад Голдава Лідскага раёна, стаіць крыж, на якім выразаны словы падзякі Богу за тое, што засценак паспяхова перажыў Першую Сусветную вайну 1914 - 1920 гадоў. Тады Станкевічы налічвалі звыш 30 дамоў, і жыхары лічыліся багатымі і спраўнымі гаспадарамі.

А вось з Другой Сусветнай Станкевічы не выйшлі, хаця і "першыя саветы" прайшлі, і немец, і фронт прайшоў, і вайна ва ўсім свеце скончылася. А на Беларусі вайна працягвалася.

Савецкая ўлада не мела вока на Станкевічы. У час вайны тут часта бывалі партызаны аддзела АК Чэслава Заянчкоўскага "Рагнера". У 1949 годзе Станкевічы адмовіліся ўтвараць на сваіх землях калгас, а ўжо 24 красавіка савецкія агенты данеслі, што ў засценак завітаў апошні камендант польскага падполля на Гарадзеншчыне падпаручнік Анатоль Радзівонік "Олех". Бываў ён тут часта. Засценак, як мог, падтрымліваў партызанаў.

Станкевічы былі акружаныя аддзеламі савецкага МУС. Пасля цяжкага бою "Олех" і яго людзі вырваліся з катла. Савецкая ўлада ўсклала тады адказнасць за няўдачу на жыхароў Станкевічаў і вырашыла ўзорна іх пакараць. Арыштаваны былі ўсе пагалоўна. Дарослыя трапілі ў лагеры, дзеці - у дзіцячыя дамы.



***Падзячны крыж Богу ад жыхароў Станкевічаў за тое, што абярог засценак у Першую Сусветную вайну 1914 - 1920 гадоў***

Калі ў Гародні МУС праводзіла следства супраць жыхароў Станкевічаў, іх маёмасць раскрадалі савецкія актывісты і добрыя навакольныя людзі. Зямлю "ворагаў народа" забралі ў калгас, а засценак выкраслілі з рэестру. Станкевічы памерлі.

Да спісу вёсак і маёнткаў, знесеных з твару Лідскага павета за паўстанне 1863 года:

- вёска Зубрава, за падтрымку паўстанцаў зішчаны ўсе пабудовы, усё насельніцтва саслана ў Сібір.
- вёска Кракшлі, за падтрымку паўстанцаў зішчаны ўсе пабудовы, усё насельніцтва саслана ў Сібір.
- вёска Лініца, за падтрымку паўстанцаў зішчаны ўсе пабудовы, усё насельніцтва саслана ў Сібір.
- вёска Паддуб'е, за падтрымку паўстанцаў зішчаны ўсе пабудовы, усё насельніцтва саслана ў Сібір.
- засценак Шчукі, за падтрымку паўстанцаў зішчаны ўсе пабудовы, усё насельніцтва саслана ў Сібір.
- фальварак Шаўры бацькі паўстанцаў Тодара Нарбута спалены, месца, дзе ён стаяў, заарана плугам
- дадаліся Станкевічы, знесеныя той жа расейска-чужынскай уладай.

Адным з дадатковых грахоў Станкевічаў перад саветамі была яшчэ і капліца, якая стаяла на іхніх могілках недалёка ад падзячнага крыжа. Гэтую капліцу паводле легенды за адну ноч збудавалі паўстанцы 1863 года, магчыма тыя самыя, якія біліся з расейцамі пад Мохавічамі і Малым Ольжавам, бо ў той час ад Ольжава (нават ад Мінойтаў) і да тых самых Голдава і Станкевічаў распрасціралася адна вялізная Ольжаўская пушча. У гэтай капліцы маліліся і жаўнеры "Рагнера" ды "Олеха".

Станкевічы вядомыя як найменей з 1567 года. У 1955 годзе да здзіўлення навакольных калгаснікаў сюды вярнулася сям'я - Мацяевічаў. Station? Станіслаў і Марыя Мацяевічы атрымалі па 15 гадоў лагераў, але пасля смеці Сталіна іх прыгаворы былі скасаваныя. Лёс распарадзіўся так, што іхні дом, хоць дашчэнту спюндраваны, не быў разабраны на дровы. Ён стаіць і да гэтага часу, захоўваючы ўсе рысы шляхецкага засцянковага дома.

Мацяевічы вярнуліся толькі адны. Астатнія жыхары, хто выжыў, пасля адсідкі выракаў або выехалі ў Польшчу, або аселі ў іншых месцах. Мясцовыя ўлады, як маглі, ускладнялі жыццё "польскім панам", як называлі Мацяевічаў. Электрычнасць ім правялі толькі ў 1997 годзе.

У 1960 годзе нарадзіўся Стэфан Мацяевіч, які пасля смерці ў 1997 годзе яго маці застаўся апошнім і адзіным жыхаром былых Станкевічаў.

У 2014 годзе Саюз палякаў на Беларусі вырашыў вярнуць да жыцця капліцу паўстанцаў 1863 года ў Станкевічах. 13 верасня на могілках сабралася каля 30 сяброў СПБ з аддзелаў у Гародні, Лідзе, Шчучыне і Васілішках. Дэсант арганізаваў старшыня саюза



***Капліца ў 2007 г.***

Мечыслаў Яськевіч, які ўклаў немалыя ўласныя сродкі ў замену страхі і падлогі ў капліцы.

Пасля заканчэння асноўных работ па навядзенні парадку ўнутры капліцы і вакол сябры лідскага аддзела паабяцалі, што правядуць рэстаўрацыйныя работы ўнутры, а Мечыслаў Яськевіч у сваю чаргу паабяцаў, што неўзабаве над капліцай будзе пастаўлены крыж і павешаны звон.

У ходзе святкавання 152-х угодкаў паўстання 1863 года, у суботу 24 студзеня 2015 года ў капліцы пасля многіх дзесяцігоддзяў забыцця адбылася першая святая імша. Імшу цэлебраваў пробашч парафіі Найсвяцейшай Марыі Панны Чанстахоўскай, ксёндз Рышард Уманьскі з Чанстахова. Каплан прасіў аб асабліва гарачай малітве за душы палеглых у паўстанні 1863 года і іншых войнах і канфліктах.

У набажэнстве бралі ўдзел генеральны консул Польшчы ў Гародні Анджэй Хадкевіч, супрацоўнікі консульства, дэлегацыя з Чанстахова, дэлегацыя таварыства "Одра-Нёман" на чале з старшынёй Ілонай Гасеўскай і сакратаром Яўгенам Гасеўскім.



***Слова мае генеральны консул Польшчы ў Гародні Анджэй Хадкевіч***



***Ксёндз Рышард Уманьскі***



***Капліца са сцягам паўстання, 2016 г.***

Эстафету ўшанавання памяці паўстанцаў 1863 года ў Станкевічах падхапілі беларускія арганізацыі. 27 ліпеня 2016 года да капліцы паўстанцаў у Станкевічах быў дастаўлены сцяг паўстання.

***Станіслаў Суднік.***

Паводле:

1. Andrzej Poczobut. Smierc i zmartwychwstanie Stankiewicz.

2. Znadniemna.pl.

***Мікола Дзікевіч***

# Сялец ва ўспамінах К.У. Геца

Канстанцін Уладзіміравіч Гец, мой стрыечны брат, прачытаўшы маю кнігу "Сялец. Прынёманская рэчаіснасць", адклікнуўся ўласнымі ўспамінамі. Ён нарадзіўся тут, пражыў гады станаўлення, адсюль пайшоў дарогаю сталасці. Ва ўспамінах Канстанціна Уладзіміравіча чытач даведаецца шмат цікавага, невядомага пра сялецкую рэчаіснасць.

Аўтар удзячны Канстанціну Ўладзіміравіч за пашырэнне звестак аб вёсцы Сялец.

### 1. Прозвішча *Гец*

Слова ***Гец*** паходзіць ад слова ***Гёз***. У час вызвольнай барацьбы Нідэрландаў (Нідэрланды, г.зн. нізінныя землі) ад іспанскага панавання дынастыі Габсбургаў дзейнічалі лясныя і марскія гёзы (па нашаму - партызаны). У выніку гэтай барацьбы ўтварылася Галандская рэспубліка.

Ад слова ***Гёз*** утварылася слова ***Гёц***. Паколькі ў той час у рускім алфавіце не было літары ***ё***, то пісалі праз літару ***е***, і пачалі чытаць ***Гец***, а не ***Гёц***.

У нямецкай мове ***Гец*** пішацца праз ***ё*** - ***Gotz*** і чытаецца ***Гёц***: *Гёц фон Берліхінген* - Gotz fon Berlichingen (1480-1562) нямецкі рыцар, удзельнік сялянскай вайны 1524-1526 гг. Камандаваў сялянскім аддзелам у Франконіі, выдзяляўся сваёй лютасцю, перад вырашальнай бітвай у траўні 1525 г. прадаў сялян.

Наш род Гяцоў з’явіўся ў вёсцы з Палесся. У кнізе пра Сялец пералічаны вясковыя мянушкі людзей. Гец там не фігуруе. У Сяльцы вясковая мянушка Геца - "Паляшук".

У сярэднія вякі дзесьці за Баранавічамі ў кірунку па чыгунцы на Янаў Палескі (зараз завецца Іванава) жыла калонія немцаў. Калі яны там пасяліліся, чаму - не вядома. У час лютавання хвароб халеры і чорнай чумы за два-тры дні людзі вымíралі цэлымі вёскамі. Не абмінулі эпідэміі і нямецкіх каланістаў. У адной сям'і па прозвішчы Гёц (ёсць падставы меркаваць, што там не адна сям’я была з прозвішчам Гёц) вымерлі ўсе чальцы сям'і, за выключэннем аднаго зусім малога хлопчыка - будучага нашага прадзеда Станіслава Геца.

Немцы-каланісты ўладкоўваліся на работу, дзе хто мог. Адзін з гэтых немцаў узяў у арэнду маёнтак у в. Сялец. Прозвішча гэтага немца (так яно, ці не, я апіраюся на расказ свайго бацькі) Рэхель. Як доўга ён быў арандатарам - не вядома. Гэты арандатар вызначыўся тым, што першым пачаў сеяць лубін. Жыхар вёскі Урбан, па мянушцы "Баранчык", паслаў сваіх дзяцей нарваць струкоў лубіну, і сам пачаў сеяць, а за ім услед і іншыя.



***Канстанцін Уладзіміравіч Гец***

Рэхель забраў хлопчыка ў сваю сям'ю. Так з’явіўся ў вёсцы першы Гец, якому далі мянушку "Паляшук". Хлопчык рос у сям'і, у меру свайго ўзросту і сілаў памагаў па гаспадарцы, малым пасвіў гусей, а далей - болей. Як стаў дарослым - ажаніўся з дзяўчынай па імені Алена з сям'і Кудаш. Гец быў католікам, а Алена праваслаўнай. На гэтым крыху спынюся і засяроджу ўвагу на вёсцы Сялец.

### 2. Вёска

Вёска Сялец займала тэрыторыю, што і зараз - пачыналася яна ад Гяцоў і заканчвалася Мулінскім. З вёскі дарога праз паром вяла на Руду па вуліцы, што ідзе каля амбулаторыі, а па другой вуліцы (дзе Бялайцаў дом), што адгаліноўваецца ад названай вышэй - на чыгуначны вакзал і далей на Ганцавічы праз сасновы лес (урочышча, якое называлі "Ваўкаўнёй"). Было гэта так да пабудовы чыгункі.

Зямля (ад нашай мяжы), што размешчана ў бок Нёмана ад вуліцы (Ганцаўскай дарогі), што вядзе да чыгуначнага вакзала, належала маёнтку. Пазней гэтую зямлю памешчыкі распрадалі на пляцы. Зямля ад нашага пляца і да чыгункі, і ад вуліцы (Ганцаўскай дарогі) на поўнач да лініі, якую можна правесці ўздоўж Белянкевічавага плоту ў бок чыгункі да рага плоту Эдзіка Урбановіча, была ў агульным карыстанні ўсёй вёскі. Уся гэтая тэрыторыя была зарослая лесам, які цягнуўся ўздоўж Нёмана ўверх да самых Ганцавічаў. Злева ад гэтага лесу (на поўнач), дзе дзялкі асаднікаў Змітровіча і Зубарэвіча пад гасцінцам, быў непралазны лазняк, а на дзялцы Змітровіча было нават балота.

Па дарозе з вёскі на Руду, злева ў лесе, дзе зараз жыве Вася Шафарэвіч, а за ім Саламонаў сад і дом (былая аптэка), былі Сялецкія могілкі. Паміж домамаптэкай і хлявом з аднасхільным дахам з боку пляца Гуйды ёсць склеп. Яшчэ за "польскім часам", калі Саламонаў капаў яму пад яго, знаходзілі сляды пахаванняў і манеты. Нікому не вядомы год выпуску і якой

### *Схема - карта*
### *ваколіцаў вёскі Сялец да пабудовы чыгункі ў 1884 г.*




*1 Дарога да вёскі Жамойдзі.*
*2. Гасцінец праз вёску Ганчары да Ліды.*
*3. Дарога да вёскі Ганцавічы (“Ганцаўская”).*
*4. Гасцінец праз вёску Руда да Навагрудка.*
*5. Дарога да Занёманскіх сенажацяў.*
*6. Дарога да ракі Нёман (супраць вёскі Бандары).*
*7. Дарога да вёскі Істакі.*
*8. Зямельныя вясковыя палеткі.*
*9. Абшарніцкія землі.*
*10. Кацярынінскі паром.*
*11. Вясковы паром.*
*12. Агульная вясковая зямля.*
*13. Абшарніцкая зямля.*
*14. Лес “Ваўкаўня”.*
*15. Дарога “Рудзенская”.*
*16. Абшарніцкія пабудовы.*
*17. Бровар.*
*18. Падлужжа.*

дзяржаве належалі.

Пасля лютавання чумы і халеры і масавых пахаванняу людзей ал хвароб могілкі былі пакінуты. Хаваць нябожчыкаў у далейшым было забаронена. Новыя могілкі былі заснаваны ў другім канцы вёскі, дзе яны і зараз.

Плошча зямлі, зарослая лесам, аб якой я сказаў вышэй (край лесу праходзіў каля Белянкевічавага плоту ад дарогі і па лініі: Касяк - Мурын - Уласевіч). існавала пры Польшчы, калі я пайшоў у школу.

Першым, хто пасяліўся на гэтай тэрыторыі, была Яленіха. Пляц яе быў па шырыні ад Бялайцавага плоту і да дарогі, што перад поштай, у даўжыню - ад вуліцы да таго завулка, што паміж домам Гаеля і домам каменданта паліцыі (адным з дамоў школы). За "польскім часам" пляц быў абнесены плотам у два метры вышынёй.

Яленіха купляла зямлю ад усёй вёскі Сялец, паколькі зямля была яшчэ агульнай уласнасцю. Па расказе асабіста мне Вольгі Казіміраўны Манькоўскай, Яленіха заплаціла грашамі, а потым яшчэ даплачвала на працягу 16 гадоў па пуду вальцаванай пшанічнай мукі да свята Вялікдзень на кожную гаспадарку. Калі ідзе гутарка пра гаспадарку - тады, г. зн. поўны надзел зямлі. Па полі ў кожным палетку цягнулася паласа зямлі ад мяжы да мяжы шырынёй 48 баразён. Паколькі ў майго дзеда "Міхалюка" і стрыечнага брата Сцяпана Кудаша была гаспадарка папалам (палавіна), то ім прыпадала па 8 кг мукі. У дзядзькі Мішы і бацькі палавіна дзялілася яшчэ папалам (чацвяртак) - загон шырынёй 12 баразён. Так было і ў Кудашоў. Утварыліся на гаспадарцы чатыры чацвертакі.

Наступнай пабудовай на агульнай тэрыторыі была школа (1910 г.). Пазней паміж школай і нашым домам была пабудавана кузня, у якой працаваў Шлёма, сын Іршыхі (дом, дзе жыла Софія "Дзедава", маці былога нашага вучня Валодзі Лянцэвіча. Нарадзіла яго ад свайго свёкра).

Вышэй названую агульную тэрыторыю падзялілі паміж сялянамі ў пачатку трыццатых галоў. Сама вёска пачыналася з нашага пляца, дзе бацькаў і Кудашоў дамы (зараз Грышкевічаў). Надзелы таксама пачыналіся першымі дзедавым і Кудашамі. Тут стаяць дамы Бялайца і Аляксандра Кудаша. Наш пляц дзед падарыў унучцы Нюры, калі яна выходзіла замуж за Бялайца.

Засяляць тэрыторыю ў хвойніку пачалі за "польскім часам". Магу назваць гаспадароў па-парадку, толькі не называючы года: Яська Казак, жонка Уршуля (дом Касяка), Гаель, Мурын, Янак Кунцэвіч (Дзірвук), Качаноўскі, Аляксандр Кудаш, Брунак Марцынкевіч (школа), Ражноўскі (школа), Канстанцін Некрашэвіч

("Сроль"), дом каменданта паліцыі (школа), Насовічыха (каля Эдзіка Урбановіча), Іцка Місюлевіч (немцы дом перавезлі ў Ганчары), Венскі (дом, дзе жыве Найдзёнчыха, а перад ім ад чыгункі быў зруб Мулінскага пад цэментавай чарапіцай ужо ў палявым масіве, на сваім полі).

За Белянкевічавым плотам, дзе сасоннік, пачынаўся палявы масіў з Мулінскага і Венскага і канчаўся нашай нівай насупраць пераезду, які быў за царом і за "польскім часам", пакуль юнакі не пабудавалі дарогу на Беліцу і на Агароднікі. Пазней пераезд скасавалі і перанеслі далей. Дамы ад прывакзальнай плошчы Эдзіка Урбановіча, Радзецкага, Лянцэвіча, Гаркача гэта пабудовы пасляваеннага часу. Ганевіч будаваў свой дом у сасонніку пры "першых саветах" на пляцы Уладыся "Раманава" Клейды (свайго цесця).

**3. Вясковыя гурты і групы**

Зноў вернемся ў вёску Сялец.

Чорная чума і халера пазбавіла жыцця шмат людзей. Тых, каго мінула хвароба, не навучыла дабрыні. У вёсцы людзі з аднолькавымі прозвішчамі не лічаць сябе родзічамі па сваёй, як можна сказаць, палітычнай арыентацыі. Называю прозвішчы людзей, якія выжылі пасля чумы і халеры.

Некрашэвічы:

Адзін гурт - Паўлічак Тадароў ("Васпанечка") і Костусь ("Сроль") - былы польскі солтыс.

Другі гурт - Некрашэвіч Сашка - бацька Раісы Праскурэнкі, да вайны старшыня сельсавета, працаваў затым у райвыканкаме; Некрашэвіч Мікалай ("Азрэль") - Сашкаў брат, старшыня калгаса да вайны.

Вось два гурты - варожыя паміж сабой.

Скажу тое, што я чуў ад людзей, тайна перадаваўшых адзін аднаму па свежых слядах пасля расстрэлу немцамі аднавяскоўцаў і яўрэяў. Спісак расстраляных склалі: Паўлічак ("Васпанечка"), Костусь ("Сроль"), Гавейна (правільна Гавін), Чылек Людвіг "Каспараў" (яго сын Франак быў у белапольскай бандзе, нейкая радня Толю Куляшу са Зблянаў, пра гэта я даведаўся з кнігі "Сялец. Прынёманская рэчаіснасць"). Аб тым, што ў Лайкаўшчыне ў Франка была радня, я гэта тады знаў, ён там і хаваўся, пакуль не ўцёк у Польшчу.

Спісак немцам на Руду насіў "Васпанечка" - Паўлічак Некрашэвіч. Затым Гавіна судзілі, Людвічка забралі, і больш не вярнуўся. "Васпанечка" аказаўся апраўданым, бо ён быў самы хітрэйшы за ўсіх, а "Сроль" застаўся не кранутым.

Карабач быў зусім ні ў чым не вінаватым. Узялі яго за тое, што ён пры немцах быў солтысам. Не ведалі таго, што солтысамі пабывалі ўсе пасля Гавіна, пачынаючы ад Геца і канчаючы Карабачом, які быў крайнім да прыходу немцаў. Ад пачатку вёскі і да Карабача ўсе пабывалі па месяцы солтысамі. Гэты парадак па месяцы ўвёў мой бацька. Не хачу лезці ў кнігу паглядзець, хто інфармаваў аўтара, што першым солтысам быў Карабач. Усё наадварот - ён быў апошнім солтысам пры немцах.

Першым солтысам быў Гавін, мусіць з год. Штосьці быў не да спадобы бургамістру гміны, немцам і начальніку гарнізона каля моста фельдфебелю Фоку. Гэты невялікі ростам фельдфебель умешваўся ва ўсе справы. Калі сабралі сход у мураванай школе, каб выбраць новага солтыса, там быў і Фок. Нехта прапанаваў выбраць майго бацьку. Бацька запярэчыў. Тут фельдфебель Фок ускочыў і заявіў, што ў нас не выбіраюць, а прызначаюць. Па сутнасці Фок дамогся, каб бацька быў солтысам. Бацька некалькі месяцаў быў солтысам. А было гэта тады, як партызаны ў Беліцы спалілі гміну. Гміна пераехала ў Сялец, а з ёй разам паліцэйскі гарнізон, які размясціўся ў Яленішаным доме каля Бялайца. Фок не любіў іх, называў шуцманамі (бандытамі) і дамогся таго, каб іх прыбралі з Сяльца.

Новака Янека немцы забралі ў Ліду да разгону паліцаяў. Там пры жандармерыі працаваў перакладчыкам. Не ведаю, як бацьку ўдалося вызваліцца ад пасады солтыса і ўвесці парадак быць солтысам па чарзе ўсім мужчынам тэрмінам у адзін месяц.

Зараз вернемся да карэнных сялецкіх прозвішчаў. Вышэй я назваў дзве групы Некрашэвічаў - варожых паміж сабой.

Трэцяя група Некрашэвічаў - Міхась (мянушка "Булынка"), яго браты Юзюк ("Гарлач" - мянушка), Юлюк ці Ільля - бацька Андрэя (па мянушцы "Піпа"), што жыве на Падлужжы ў доме Івана Кудаша, вязня Картуз-Бярозы. Андрэй жанаты з дачкой Валодзі Шарана з Малых Канюшанаў. Гэтая група Некрашэвічаў - не радня дзвюм папярэднім, якіх я вышэй назваў.

Чацвёртая група - Сцёпа "Бляхар" і Костусь "Маляўка".

Пятая група - "Смутачкавы" - Саня, якога расстралялі палякі ў Голдаве, і яго два браты (не памятаю, як іх звалі, але ў твар іх помню ўсіх). Саня быў бацькам Валі Гарачавай, якая жыве зараз у Заводскай хаце, у той у якой і я жыў.

Наступныя Некрашэвічы - гэта "Надочыя" - Костусь Сымонаў. Яшчэ адзін Некрашэвіч - Віктар "Хатык", які жыў на адной гаспадарцы і на адным падворку з Юльянам Урбанам - "Крывым".

Можа даўным-даўно яны выйшлі з аднаго кораня, але з цягам часу далёка разышліся і ўжо не толькі родзічы, але заклятыя ворагі.

Другі старынны род вёскі, які выжыў у інфекцыю чумы і халеры - Урбаны ў тым канцы вёскі. Нумарую іх па групах, якія не родзічы паміж сабой (называю так, як іх звалі калісьці ў вёсцы):

Валодзя "Зосін".

"Марушка" Аляксандр.

Пётра "Магдзін".

"Мадулі".

"Кавалёвы" Паўлік ("Кот") і Аляксандра ("Бэрка").

"Васілец" Юзюк і Костусь.

Урбаны ў нашым канцы вёскі:

"Сынулькі" - Костусь і Валодзя.

Пятрук "Гальяшоў", без нагі, хадзіў на пратэзе.

Урбан Юльян ("Крывы").

Урбан Аляксандр ("Баранчык") - былы польскі канфідэнт, як і Вершалоўскі (канфідэнт -"стукач").

Браты Аляксандра - Валодзя і Костусь - у прымах у Федзюкевіча "Грабіны" - другі дом уздоўж вуліцы пасля дома Іршыхі, дзе жыве Зоня "Дзедава".

Да карэнных прозвішчаў у Сяльцы патрэбна аднесці Клейдаў (па нумарах групы не родныя паміж сабой):

Уладысь "Раманаў" - цесць Ганевіча.

Кандрат "Раманаў" - цесць дзядзькі Міхаіла Геца.

Косцік "Марысін" - дом, дзе жыў Карнопаль, цясляр.

Аляксей Васільевіч. Звалі "Базылішын" па мацеры, гарбаты.

"Мікалайчыкавы" сыны: Мікалай - сябра нашага дзядзькі Колі, што ў Латвіі; Андрэй - сябра дзядзькі Мішы (дамы іх пасля пажару пабудаваны разам). У гэтым двары Юзюк Кляйда (звалі "Юзенкавы" - швагер Юльяна Урбана "Крывога".

Сымон Кляйда (муж "Куртачкі" жыў на адным падворку з Алесяй Кляйдовай (Цітко) - бабуляй Раісы Праскурэнкі (Некрашэвіч).

Наступныя прозвішчы:

1 - я група Федзюкевічаў - Міхась "Капяратыўшчык", тут- жа на падворку - Міхась "Павэлкаў", побач Тодар - бацька Колі "Мірона" (сакратар сельсавета да вайны - немцы расстралялі).

2 - я група Федзюкевічаў - Сцёпа "Дамянісін" (брыгадзір калгаса да вайны, старшыня калгаса пасля вайны), Мікалай - дом пусты пасля Зоні "Дзедавай".

3 - я група Федзюкевічаў - "Быстрык" стары: сыны Юлік і Мішка (у прымах у Марыі "Кляйдзюковай", а ў канцы хаты ад вуліцы, дзе калісьці была школа, у прымах у сястры Надзі "Кляйдзюковай" быў Шацюк (бацька Лёні Шацюка).

4-я група Федзюкевічаў - стары Ануфрык з бабкай Кацярынай: сыны Аляксандра і Юзюк, які пайшоў у прымы да Сенькі Чылекавага. Жаніўся з яго адзінай дачкой Шурай. Бацька Лёні Федзюкевіча, які жыве з Тоняй Мурынавай, што працавала медсястрой у амбулаторыі. Да гэтай групы адносіцца таксама "Грабіна", куды прыйшоў у прымы Костусь Урбан ("Баранчык") і Зоня "Язэбава", яе браты Ян і Коля "Дусь-дусь". На гэтым месцы дом Сяргей Буйніцкага.

Наступныя групы прозвішчаў - Чылекі:

1 - я група:

а) Нашы суседзі Пятрусь (яшчэ звалі "Дароціны" па імені яго жонкі Дароты).

б) Фэлька і яго сын Стась, з дзіцячых год сябра майго бацькі, разам паехалі ў бежанцы ў Першую сусветную вайну ў Таганрог да дзядзькі Іосіфа Геца. Затым быў легіянерам Пілсудскага. Яго жонка Ефрасіння, родная сястра Рыгора Буйніцкага з вёскі Дзітрыкі, мая хрышчоная маці.

в) Фляр'ян, звалі проста Флёрык.

2 - я група (зусім не родная першай):

Людвіг "Каспараў",

"Саверык" (сын Лёня "Кульгавы"),

Вінцук "Адамаў",

Сенька (цесць Юзюка "Ануфрыка"). У яго доме за Польшчай быў кааператыў, а пасля вайны - сяльпоўскі магазін, пазней у доме Здановіча, дзе працавала Вера Дудка.

Аб тым, што дзве групы Чылекаў былі далёкімі родзічамі, гаворыць той факт, што Людвіг Чылекаў ("Каспараў") быў жанаты з Маняй Чылекавай, дачкой нашых суседзяў Пятруся і Дароты.

Вось гэтыя групы прозвішчаў, якія выжылі ад памору халеры і чорнай чумы. Сялец - такая вёска, куды сялілася шмат розных людзей. Затым іншыя пакідалі яе (прахадныя). Але, напрыклад, засталіся жыць назаўсёды: Караценка - запарожскі казак, Гуйда - выхадзец з Украіны, Райчыха, Кунцэвічыха, Юшчук, Маньчук і іншыя.

**4. Улада пры Польшчы**

Пры Польшчы засылалі да нас палякаў на розныя работы для падтрымання свае ўлады сумесна з аснднікамі. Былі такія палякі, як Бялінскі - чыгуначнік. Жыў у доме па суседстве, дзе зараз жыве Лёня Шацюк. Пасля тут жыў камендант польскай паліцыі Гурскі.

Пазней жыла сям'я палякаў Унчураў. На пераездзе ля чыгуначнага моста жыў паляк Масюк (у доме, дзе жыў Лапанік, калі Майсееў быў начальнікам гарнізона). Дачка Марыся хадзіла ў школу са мною ў адзін клас. Вайнер жыў у доміку на пераездзе, што супраць Ройста. Немцы адступаючы, спалілі гэты домік. Паляк Каліноўскі - начальнік пошты. Левандоўскі (не памятаю, дзе працаваў) - ён быў суддзёй у Голдаве для тых, каго расстралялі. Жыў яшчэ нейкі Пацуня - паляк (не знаю, дзе ён працаваў за Польшчай), але калі я быў у іх у хаце (дачка таксама хадзіла ў школу), тады бачыў, што там была друкарская машынка з польскім шрыфтам. Акрамя начальніка пошты Каліноўскага паштальёнам працаваў паляк (прозвішча не памятаю). Хадзіў у нейкай форме і круглай шапцы.

Пасля паліцая Гурскага камендантам быў Карл Рунге. Жыў на кватэры ў нашым доме. Жонка называла яго па-польску Кароль. Было двое дзяцей: хлопчык Вальдэк (Вальдэмар, мой аднагодак) і малодшая сястрычка Алінка. Чалавек быў добры, памяркоўны. Затым яго перавялі ў Воранава. Ад'язджалі яны цягніком усёй сям'ёй. Мы з бацькам іх праводзілі. Памятаю, што доўга вечарам чакалі цягнік.

Каменданта Рунге змяніў такі высокі мужчына (прозвішча яго не ведаю), які пабудаваў свой дом насупраць Гаеля, дзе была школа. Жыло яшчэ шмат палякаў. Я памятаю, як яны выглядалі, але прозвішчаў іх не ведаў. У верасні 1939 г., як наступілі бальшавікі, усе гэтыя палякі ўцяклі ў Польшчу.

**5. Улада пры "тых саветах"**

На змену палякам бальшавікі прысылалі камуністаў для ўмацавання савецкай улады: дарожнага майстра на чыгунку (адхіліўшы ад гэтай пасады Саламонава), дырэктара лесапільнага завода Сажнікава (падумаеш, такі завод - дзве стаялі пілярамы!), дырэктара фанернай фабрыкі Шэймана і іншых. Не буду пералічваць. Шэйман быў яўрэй. У яго рос сын, малы яшчэ хлопчык.

Як толькі пачалася вайна, тады ўсе бальша-

віцкія стаўленнікі падаліся наўцёкі на ўсход. Сажнікаў раздаваў свае рэчы суседзям. Карову пакінуў Уласевічу, кравецкую машыну - нам. Больш не знаю, што яшчэ каму раздаў. Пасля вайны, калі з'явіўся, усю гэтую маёмасць яму вярнулі.

Не дзіўна, што яўрэі ўцякалі, а вось цэлымі калонамі беглі бальшавіцкія чыноўнічкі цёмнымі ляснымі дарогамі цераз Глушыцу, гасцінцам па лесе на Грачышную, а далей курс - на Наваградак у бок Менска.

Што гаварыць пра ніжэйшых чыноўнікаў, калі вышэйшае кіраўніцтва БССР замест таго, каб арганізаваць народ на барацьбу з ворагам, у першы дзень вайны кінула Беларусь і ўцякала на Маскву, ратуючы сваю ўласную шкуру (Панамарэнка, Уралава - міністр асветы БССР і іншыя, у тым ліку кіраўнікі сілавых структур).

Пасля адступлення немцаў, пачалася бальшавізацыя нашай мясцовасці па новым коле. Каб зламаць супраціўленне палякаў, пачалася палітыка расколу іх адзінства і згуртаванасці: шляхам прыцягнення моладзі ў камсамол, выбары каталіцкай моладзі ў кіраўнічыя органы камсамолу, у мясцовыя Саветы і г.д.

**6. Род Гяцоў**

Я адышоў у бок. Вернемся да свайго роду. На нашай гаспадарцы да мору халеры і чорнай чумы жылі людзі, прозвішча якіх мы не ведаем. Яны ўсе вымерлі ад гэтых хвароб. На апусцеўшую гаспадарку памешчык прывёз з Жомайдзі Кудаша. У Кудаша было двое дзяцей - сын і дачка. З дачкой Кудаша жаніўся наш прадзед, немец Станіслаў Гец. Дачку Кудаша звалі Алена. Па канфесіі яна была праваслаўнай. Станіслаў Гец быў католікам. Пасля раздзелу Рэчы Паспалітай ішло наступленне на каталіцызм. Пры ўступленні ў шлюб па тых законах Расійскай імперыі католік (ён ці яна) павінны быў перайсці на праваслаўную веру, іначай іх не вянчалі. У выніку Станіслаў Гец перайшоў на праваслаўную веру. Кудаш падзяліў зямлю папалам: палова - сыну, палова - зяцю Станіславу Гецу.

Адсюль пачынаецца наш род паляшукоў-Гяцоў. Прадзед наш ростам быў высокі, як дзядзька Міша, строгі, яго дужа баяліся дзеці. Так мне характарызавалі людзі, якія яго помнілі. Гэта Кандрат "Раманаў" (цесць дзядзькі Мішы), а таксама Адам Станкевіч (які пражыў за 100 год). Адам Станкевіч увесь час працаваў у пана фурманам (жакеем, як у нас гавораць зараз). Пан яму падарыў участак зямлі за чыгункай пад забудовы. Побач з ім пабудаваў сабе дом, былы парабак асадніка Насовіча, Юзік Вадэйка са сваёй жонкай Тэкляй.

У нашага прадзеда Станіслава было двое дзяцей. Сын Міхаіл, якога звычайна ў вёсцы ўсе звалі Міхалюк. Калі называлі Міхалюк, тады ўсе разумелі, што гэта Гец па мянушцы "Паляшук". Дачка нашага прадзеда (не ведаю, як яе звалі) выйшла замуж у Дроздава за Міцюкевіча. Там яна нарадзіла сына Юзіка. Пасля яна памерла. Міцюкевіч жаніўся другі раз. Нарадзіліся дзеці. Адзін яго сын, брат Юзіка па бацьку, аднойчы быў у нас. Калі гэты было, не памятаю, ці за польскім часам, ці за "першымі саветамі", але яшчэ да прыходу немцаў. Мы жылі яшчэ ў тым доміку за вуліцай. Перабраліся мы ў новы дом пры немцах пасля смерці бабкі Агаты. Яна памерла 1 траўня 1942 года. Па-гэтаму Юзік Міцюкевіч пасля таго, як яго бацька жаніўся другі раз, у маладосці жыў у бацькавых сясцёр: у Гандзі ў Дзітрыках, у Людвісі ў Сяльцы, у нас, або ў дзеда Міхалюка, свайго роднага дзядзькі. Дзе ён вучыўся за краўца - не ведаю. Шыў людзям адзенне: буркі (бурносы), суконныя марынаркі, кажухі.

Як звалі дзедаву сястру, маці Юзіка Міцюкевіча, ад чаго яна памерла, колькі год было ёй тады - не ведаю. Ніколі не цікавіўся, і ніхто аб гэтым не гаварыў.

**7. Сям'я дзеда**

А зараз аб дзедавай сям'і. Першая жонка ў дзеда Міхалюка была з Сіманоў, з сям'і Мілюцёў. Ад яе быў сын Іосіф. Па расказе бацькі Іосіфу было каля сямі год, як памерла яго маці. Што пра Іосіфа магу сказаць? У тым доміку за вуліцай у той час жылі кватаранты, яўрэі. Ад іх дзядзька Іосіф засвоіў яўрэйскую мову. Паехаў ён у Расію ў гады першай рускай рэвалюцыі ў горад Таганрог на ўзбярэжжы Азоўскага мора Растоўскай-на-Доне вобласці. Працаваў увесь час садоўнікам на чыгунцы. У яго была брыгада людзей, і яна даглядала сады на станцыях уздоўж чыгункі ад Таганрога да Растова: пасадка, падрэзка, стрыжка, уборка. Сады ў большасці дэкаратыўныя, пераважна акацыя. Акрамя гэтага яшчэ да вайны і пасля яе працаваў тэхнікам-лесаводам. Саджалі полеахоўныя лясныя палосы. Памёр Іосіф дзесьці ў 1947 годзе. У 1946 годзе на Украіне была засуха, быў голад. Адтуль людзі ехалі цэлымі цягнікамі ў таварных вагонах, на адкрытых пляцоўках з торбамі ў Беларусь па хлеб. У гэты перыяд і памёр дзядзька Іосіф. У яго была адна дачка Валя ад першай жонкі. У дзядзькі Мішы ў рамцы на сцяне вісела фатаграфія: дзядзька Іосіф, яго жонка і дачка



*Дзядзька Міша падрыхтаваўся араць. Дзядуля Міхась сядзіць, бабуля Агата стаіць з лейкай, нявестка Маня з сынам Андрэем, цётка Людвіся. Вясна 1939 г.*

Валя, яшчэ дашкольніца. У яго было многа цікавых фатаграфій, але ён звёз з сабой у Гародні, калі яго забрала да сябе дачка Ларыса. Іосіф быў высокі, стройны, прыгожы. Першая жонка памерла. Жаніўся другі раз, і другая - памерла. Дзяцей з ёю не было. Пасля вайны Валя пісала (я з ёю перапісваўся), што бацька думае жаніцца, але не жаніўся. Гэтых трох жанчын бацька ведаў. Іосіф жаніўся першы раз пасля таго, як бацька з сёстрамі пакінулі Расію і вярнуліся дамоў. У мяне ёсць фатаграфія Валі, яе мужа і сына.

Другой жонкай дзеда Міхалюка была Агата (Агафія). Яна была быццам бы з Гезгалаў, дакладна не ведаю. Факт той, што я ніколі не бачыў і не ведаў бабіну радню. Ад Агаты было сямёра дзяцей - тры хлопцы і чатыры дзяўчыны - Валодзя, Коля, Міша і Юлька, Людвіся, Ганця, Стэфка. Хто з іх за кім па ўзросце - не ведаю. Знаю, што самым меншым быў Міша, а перад ім - Коля.

**8. Бежанцы**

У самым пачатку Першай сусветнай вайны бацька са сваім суседам і сябрам з дзяцінства Стасем Чылекам, сынам Фэлькі, затым мужам Еўфрасінні, сястры Рыгора Буйніцкага і маёй хрышчонай мацеры, пайшлі ў бежанцы. Да Менска дабраліся пешшу, а там падселі на цягнік.

Рускія тады, хоць месцамі адступалі, але не беглі ў разброд, як бальшавікі ў 1941 г. Нейкі быў парадак і клопаты аб людзях. На чыгуначных станцыях на шляху язды бежанцаў працавалі каманды з мясцовых жыхароў, якія забяспечвалі бежанцаў ежай. Так мне расказваў Раманоўскі з Менска, дзе мая Света была на кватэры. Ён працаваў у такой камандзе. Ёй выдавалі муку, крупы, агародніну, бульбу, тлушч і іншую спажыву. У іх была вайсковая палявая кухня, дзе рыхтавалі ежу. Калі на станцыі спыняўся цягнік з бежанцамі, аб чым паведамлялі раней, каманда выдавала бежанцам бясплатныя абеды.

На адной са станцый Стась узяў вядро і схадзіў па абед. Яму налілі баршчу і далі хлеба. Боршч варылі паўкраінску. У нас на Беларусі тады не варылі такіх баршчоў. Варылі паасобку капусту, буракі, бручку і інш. А тут у баршчы было ўсё: капуста, буракі, морква, фасоля, тамат. Ядуць хлопцы і гавораць: "Вось як бежанцам, дык і наварылі, як свінням".



***Валянціна Іосіфаўна Гец. Таганрог, студзень 1951 г.***

У Таганрозе дзядзька Іосіф уладкаваў усіх на работу. Пасля прыехалі сёстры - Юлька, Людвіся, Стэфка, прыехалі Барысы: Аляксандра - муж Людвісі, Сцёпа, Сяргей. Сяргей быў яшчэ хлопцам. Поркаўся з капсулем, і яму адарвала поўнасцю ўсю руку.

**9. Мой бацька Валодзя**

У Таганрозе бацьку прызвалі ў войска. Палкавую школу праходзіў у Нова-Чаркаску - сталіцы данскіх казакоў. З палкавой школы паслалі непасрэдна на фронт у складзе казацкіх войск 2000 чалавек - 8 маршавых рот па 250 чалавек.

Ваяваў на Паўднёва-заходнім фронце, якім камандаваў вядомы, таленавіты генерал Брусілаў. У арміі бацька быў унтар-афіцэрам, удзельнікам Брусілаўскага прарыву. За праяўленую храбрасць у час прарыву ўзнагароджаны крыжам Георгія і імянной шабляй з рук самога Брусілава. Пасля бацьку пусцілі з фронту на пабыўку дамоў. Прыехаў з фронту ў Таганрог. Пасля ўжо на фронт у сваю вайсковую частку не паехаў. Развіваліся рэвалюцыйныя падзеі. Армія пачала развальвацца, пачаліся братанні на фронце рускіх і нямецкіх салдат.



***Уладзімір Міхайлавіч Гец (22.04.1896 - 1985)***

Бацька ўладкаваўся на работу на Руска-Балтыйскім зброевым заводзе. Завод існаваў з траўня 1915 г. па 1921 г. Што выраблялі на гэтым заводзе - не ведаю, а вось пра адзін выпадак з аповеду бацькі цікава ўспомніць. Рабочыя завода вельмі ненавідзелі гаспадара, або дырэктара. Яны рашылі яго забіць. Сабралі пэўную суму грошай, знайшлі рабочага, які пагадзіўся гэта здзейсніць. Калі начальнік праходзіў па цэху, рабочы стукнуў яго молатам па галаве і забіў. Рабочага арыштавалі. За сабраныя грошы рабочыя падкупілі дактароў, і яны выдалі заключэнне, што арыштаваны псіхічна хворы, і яго не судзілі.

Рэвалюцыйныя падзеі развіваліся і ў Таганрозе. Кіраваў рэвалюцыйнай дзейнасцю нехта Гардзіенка. Хацелі туды ўцягнуць і дзядзьку Іосіфа, але бацька яго не пусціў. Пазней, калі на Доне сабралася вялікая колькасць белагвардзейцаў, рэвалюцыйную арганізацыю разбурылі, а Гардзіенку павесілі.

Калі пачалася рэвалюцыя ў Расіі, а пазней - у Германіі, бежанцы пачалі вяртацца дамоў. Дзядзька Іосіф угаворваў бацьку не ехаць, заставацца ў Расіі. Бацька паехаў праводзіць сясцёр. Ехаў, забалбатаўся і так даехаў да Баранавіч. Як не заехаць дамоў, калі тут рукой падаць! Прыехаў, і застаўся дома назаўсёды.

**10. 30-я гады XX стагоддзя**

Падчас вайны згарэў дзедаў дом. Дзед з бабуляй Агатай і двума хлопцамі-падлеткамі перайшлі жыць у стары домік, што на другі бок вуліцы. Хто і калі будаваў гэты домік - не ведаю.

Бацька, пенсіянер-чыгуначнік, карыстаўся раз у год бясплатным білетам па ўсім СССР. Не памятаю ў якім годзе, ва ўсякім разе ўжо дзядзькі Іосіфа не было ў жывых, з'ездзіў адведаць Таганрог. З ім ездзілі цётка Людвіся (Борыс) і мой брат Мікалай. У мяне ёсць фатаграфія ўсіх іх у Таганрозе: бацька, Людвіся, Коля, Валя з мужам і сынам. Некалькі фатаграфій Валя мне прыслала.

Вярнуўшыся з Расіі, бацька пачаў будаваць новы дом. Карыстаючыся поўным безуладдзем, пачаў наразаць і вазіць бярвенні з казённага лесу. Нязначную дапамогу яму мог аказаць толькі малагадовы брат Мікалай (што ў Латвіі). Пазней палавіну бярвенняў немцы забралі на мост. З застаўшыхся бярвенняў зрубілі дом памерам 9х14 метраў. Дом рубіў майстар з вёскі Збляны па прозвішчы Габрусь Бурдун.

Безуладдзе праяўлялася ў тым, што ўлада пераходзіла з рук у рукі. Уладарылі рускія, пачалася вайна - прыйшлі немцы, пасля немцаў - бальшавікі, на бальшавікоў наступалі палякі і ў 20 годзе захапілі Менск. Палякаў Тухачэўскі пагнаў назад, і бальшавікі падышлі да Варшавы, але там іх сустрэлі французскія і англійскія танкі. Бальшавікі пакаціліся назад. Каб утрымаць уладу, бальшавікі пайшлі на падпісанне Рыжскага мірнага дагавору, распарадзіўшыся лёсам Беларусі і Украіны, як разменнай манетай. Мы апынуліся пад уладай палякаў да 17 верасня 1939 года.

У 1928 г. дом пакрылі кулявой саломай. Кулі эканомілі, і дах атрымаўся не тоўстым. У 1948 г. дом перакрылі, хаця дах быў яшчэ добрым. У Сяльцы арганізавалі калгас, і мы палічылі, што трэба перакрыць, бо ў будучым ужо кулёў не наробіш. Бацька з дзядзькам Мішам рашылі пакрыць дом разам. За час нямецкай акупацыі кулёў назапасілі і Міша, і мы. Тут я сам вытрасаў кулі з жытніх снапоў (з акалоту). Крыў майстар з вёскі Бандары. На даху працаваў крытнік і я з братам Мікалаем. Мы ўвязвалі салому повязнікам (тонка абчасаныя жэрдкі), лазовымі дубцамі, папярэдне пакручанымі (памятымі). Спачатку салому ўвязвалі злёгку, часова, а калі крытнік выраўноўваў сваёй дошчачкай, мы заціскалі дубцы канчаткова, наглуха. Каб зараз прыйшлося ўвязваць, я ўжо не змог бы, не памятаю. Кулі саломы тоўстыя і цяжкія бацька з Мішам падавалі нам на дах. І так наш новы дах на доме прастаяў да вялікага пажару вясной 1952 года. Вінаватымі ў пажары былі дзеці, у тым ліку Пеця Казак, наш былы вучань Нёманскай школы, цяпер староста вёскі (солтыс).

Спачатку пачалі жыць у другой палавіне дома, задняй. Пры доме ганак, затым вялікія сені. З сяней дзверы - прама ў вялікую кухню, направа камора са склепам пад падлогай. Дзверы налева - у другую палову дома ад вуліцы. Гэтую палову дома моладзь часта скарыстоўвала пад клуб. Дзейнічала мастацкая самадзейнасць, ладзілі канцэрты.

Калі другая палавіна дома была абсталявана, там жылі кватаранты. Як я памятаю, жылі Дашкевічы. Яны мелі буфет у чыгуначным вакзале. Пасля іх жыла сям'я польскага каменданта паліцыі. Звалі яго Карл Рунге (больш падрабязна аб ім пісаў раней).



*Тата Ўладзімір Міхайлавіч Гец, мама Ганна Аляксееўна Гец (Калпінская)*

Да Рунге камендантам паліцыі быў Гурскі. Невысокі, таўсцяк, з тоўстым каркам, сабраўшымся ў складкі. Жыў ён у доме Прэсаля (дзе зараз жыве Лёня Шацюк па суседству з намі цераз плот). У Гурскага была адна дачка, яшчэ дашкольніца і звалі яе Фрыда. Яна сярод нас, ватагі такіх жа дзяцей, была важаком. Такое збліжэнне з палякамі ў дзяцінстве пасадзейнічала, што, калі я пайшоў у польскую школу ў першы клас, з польскай мовай у мяне праблем не было. Я вольна валодаў польскай мовай, не так як іншыя дзеці, якія жылі далей у вёсцы. Пасля Гурскага ў гэтым доме жыў нейкі паляк-чыгуначнік Бялінскі. У іх таксама быў хлопчык, мой аднагодак, звалі яго Чэсем.

**11. Дзяцінства**

У гэты час у маім дзяцінстве быў такі выпадак. Я яго не памятаю. Мне аб ім расказвала мая мама. Неяк гуляючы ў Гурскіх, я праспяваў песеньку:

*Jeszcze Polska nie zginela,*
*Ale zginac musi*
*Jesli niemiec nie zwojuje,*
*To ruski zadusi.*

Калі Гурскія пачулі гэта, тады пачалі мяне дапытваць, хто мяне навучыў. Усякім спосабам падманвалі, давалі цукеркі, шакаладкі, аднак я не адказаў.

Палякі падазравалі, што дзядзька Коля з'яўляўся ўдзельнікам падпольнай камуністычнай арганізацыі, але доказаў не было, таму шукалі любую зачэпку.

У першай палавіне новага дома жылі таксама кватаранты ў час нямецкай акупацыі. Адзін з іх Мікалай Пятровіч Зайко з Ямантаў з жонкай - дзяцей у іх не было. Мікалай Пятровіч - сын настаўніка ў Ямантах і родны брат Аляксандры Пятроўны, настаўніцы Сялецкай школы перад вайной. Палякі яе расстралялі разам з сяльчанамі ў Голдаве.

Бацька жаніўся ў ліпені 1927 года і пачаў жыць у доміку за вуліцай, а ў вялікай кухні новага дома - дзед з бабай і дзядзька Міша. У 1937 годзе Міша жаніўся, яшчэ пры жыцці дзеда. Дзед памёр у 1937 г. У 1942 г. 1 траўня памерла бабуля Агата. Тады мы перайшлі ў новы дом, а ў домік за вуліцай бацька пускаў кватарантаў. Пры немцах жыла сям'я Багдзяля, а пасля

вайны - Галушкі (цесць Віктара Некрашэвіча ("Хатыка") і адначасова цесць Гайдуля). У вялікі пажар там ніхто не жыў.

Бацька, Уладзімір Міхайлавіч Гец, у маладосці свой працоўны стаж пачынаў як чыгуначнік, затым працягваў яго ў Таганрозе. За польскім часам у асноўным працаваў на пагрузцы лесу ў чыгуначныя вагоны. У час вайны - на гаспадарцы. Пасля вайны, пачынаючы з адступлення немцаў - на чыгунцы да выхаду на пенсію па інваліднасці (3-я група). Па працоўным стажы на пенсію выйшаў як чыгуначнік. Карыстаўся ільготамі (удзельнік ВАВ, атрымоўваў пайкі).

За польскім часам бацька зямлю не апрацоўваў. Пражыць на чацвертаку з зямлі было цяжка. Яго долю зямлі апрацоўваў Міша.

У Мішы, як і ў дзеда, была палова гаспадаркі. Бацька карыстаўся толькі сваёй паловай на сенажаці. Гадаваў адну, затым дзве, а пасля перад "саветамі" ўжо і тры каровы. Бульбы сабе хапала той, што садзілі ў агародзе за вуліцай і за гумном. Так было да прыходу немцаў. Маці была хатняй гаспадыняй. Перад польскай вайною гады два працавала на фанернай фабрыцы пры нажніцах.

Пры немцах бацька пачаў апрацоўваць сваю долю зямлі да ўступлення ў 1948 годзе ў калгас. Працаваў звеннявым па тытуні, пакуль не выйшаў на пенсію па ўзросце, як рабочы-чыгуначнік.

У нашай сям'і дзяцей было двое: я і брат Коля. Быў яшчэ адзін хлопчык - Лёня, але ў 1937 годзе памёр ва ўзросце аднаго года.

### 12. Пра сябе

А зараз некалькі слоў пра сябе.

У 1935 годзе пайшоў у першы клас польскай школы. Мне было амаль 7 гадоў. Радзіўся я 23 лістапада 1928 года. Да прыходу бальшавікоў скончыў 4 класы польскай школы. Пры саветах яшчэ прымусілі пачынаць вучобу з 3 класа, таму, што вучэбная праграма польскай школы не сходзілася з савецкай. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны скончыў 4 класы. У чацвёртым класе здавалі 8 экзаменаў: 2 - па беларускай (пісьмовы і вусны), 2 - па рускай мовах, арыфметыцы, гісторыі, геаграфіі і прыродазнаўстве. 12 чэрвеня атрымаў пасведчанне аб адукацыі за чацвёрты клас, а 22 чэрвеня пачалася вайна. У пасведчанні былі ўсяго дзве чацвёркі - па рускай мове і арыфметыцы, астатнія ўсе пяцёркі. У польскім пасведчанні за трэці клас былі ўсе пяцёркі.

У школе я быў начальнікам штаба піянерскай дружыны. Тады - штаб дружыны і начальнік штаба, цяпер - савет дружыны і старшыня дружыны. Важатым працаваў на грамадскіх асновах камсамолец, рабочы фанернай фабрыкі Жора Бурдун, якога расстралялі немцы ў сасонніку.

У маім жыцці працоўны стаж пачынаўся з 6 гадоў, як ва ўсіх сялянскіх дзяцей былой Заходняй Беларусі. Дашкольнікам пасвіў свае дзве кароўкі дзень у дзень, пачынаючы ад Юр'я (6 траўня) і да Ўсіх Святых (1 лістапада). На наступны год будучы першакласнікам, пасвіў адну сваю кароўку з цялушкай (сасунком), пазней - тры свае кароўкі. У далейшым пасвіў кароў сваіх, родзічаў і суседзяў, усяго 17 штук. За лета плацілі за карову 4 пуды жыта. Такім чынам я зарабляў за лета тону жыта. Мая роля пастушка закончылася ў пачатку вайны.



ŚWIADECTWO SZKOŁY POWSZECHNEJ

Publiczna Szkoła Powszechna

Nr 49

***Пасведчанне за 4-ты клас польскай школы***

### 13. Вайна

З прыходам немцаў бацька пачаў займацца сельскай гаспадаркай. Купіў каня (нейкага старога жарабца). Нават не ведаю, за што купіў яго. Запасу зерня ў нас не было, паколькі да гэтага бацька зямлі не араў. Грошы хадзілі як нямецкія маркі, так і савецкія рублі. Прадаваць сяляне за іх нічога нікому не хацелі. Адзінае было: на фанерную фабрыку часам прывозілі лідскае піва, мармелад і іншае. Гэта прадавалі за грошы. Маркі і рублі хадзілі на роўных умовах 1:1.

Зарплату рабочым плацілі як грашыма, так і прадукцыяй (фанерай). Фанеру мянялі на зерне, бульбу, сена. Такое становішча рабочых было на шклозаводзе "Нёман".

Пры немцах я ўключыўся ў сельскую гаспадарку. Трэба было майстраваць калёсы і іншыя сельскагаспадарчыя прылады. Многае рабіў сам. У гэтым нам дапамагаў Юзік Бялаец. Ён займаўся кавальскай справай. Плату за сваю работу ён браў толькі зернем (жытам). Калі немцы пасяляліся ў доме Здановіча, тады заявілі, што з суседніх дамоў усіх высяляць. Бялаец пачаў перавозіць свае рэчы да нас. У новы свіран дзядзькі Мішы ён перавёз 120 мяшкоў жыта. Самы

найбагацейшы гаспадар у Сяльцы не меў столькі, колькі каваль накаваў сваім молатам.

Калі рабілі калёсы, я дапамагаў Бялайцу ў кузні. Бялайцу падабалася мая работа, і ён прывабіў да сябе. Дапамога мая доўжылася ўсю зіму. Некаторыя работы аднаму кавалю выканаць немагчыма.

Напрыклад, акаваць колы (надзець жалезныя шыны на драўляныя абады колаў).

Жалеза ў продажы не было і быць яго не магло ў той нас. Ля чыгункі каля другога пераезду ляжалі чыгуначныя вагоны ўзарванага партызанамі цягніка. Вось іх і абдзіралі. З шырокіх вугольнікаў каркаса вагона высякалі шыны, каваць колы і сані. Бялаец трымаў зубіла на тапарышчы, а я кувалдай з-за вуха біў па зубіле.

Лемяшы і нарогі да плуга кавалі з пласцін вагонных рысор. У 60-тонных, чатырохвосных вагонах (пульманах), рысоры былі спружынныя, кручаныя з тоўстых стальных прутоў, а ў двухвосных вагонах (18 тон) рысоры - з пласцін, як у аўтамабілях. Толькі пласціны тоўстыя і стальныя. З гэтай сталі рабілі зубілы. Адсекшы кусок пласціны, з яго кавалі нарог. Над ім трэба было многа папрацаваць. Бялаец куе невялікім молатам, трымаючы другой рукой у кляшчах кавалак распаленага жалеза, і гэтым паказвае месца, па якім мне біць 10-кілаграмовай кувалдай.

Такім чынам я непрыкметна авалодаў кавальскай справай. Бялаец мне заўсёды гаварыў: "Калі ты з распаленага ў горане жалезнага прутка з аднаго нагрэву зробіш цвік падбіць каню падкову, тады каваль з цябе будзе". Молатам трэба працаваць так, каб нагрэты пруток не астыў, а быў чырвоным ад удараў малатка.

Кавалём я не стаў, аднак на пэўным этапе жыцця ўменні гэтыя спатрэбіліся. Выйшаўшы на пенсію, узяў гектар зямлі, купіў каня, трактар, колы з восямі для калёс на гумовым ходу. Усё астатняе майстраваў сам: калёсы, плуг, акучнік, паўпрычэп да трактара. Сам каваў свайго каня. Усе кавальскія і сталярныя інструменты набыў, яны ў мяне і зараз ёсць. Не было толькі аднаго галоўнага інструмента для кузні - горна.

Яшчэ раней бацька рэкамендаваў пайсці павучыцца за шаўца. Схадзіў адзін дзень да суседа Флёрыка Чылека і больш не пайшоў. Не спадабалася гэтае рамяство! На адзін дзень схадзіў і да краўца - другога суседа - Міхаіла Мурына. Убачыў, што і гэта не па мне, а вось кавальская і слясарная справы і зараз падабаюцца.

### 14. 1944 г. Праца на чыгунцы

З першых дзён пасля выгнання немцаў мы з бацькам пайшлі працаваць на чыгунку. Працаваў там да снежня месяца. Першы дзень нарошчвалі насыпы пад берагавыя апоры часовага драўлянага моста побач з узарваным жалезным, які ляжаў на вадзе. Тэхнікі не было ніякай. Людзей сагналі з усіх вёсак. Працавалі таксама салдаты старэйшага ўзросту з сярэдняй Азіі. Другі дзень рэзаў лес на мост разам з салдатамі каля Руды. Увесь апошні час рамантаваў чыгунку - "перашывалі" яе - рабілі развод рэек шырэй на 8 см, мянялі шпалы, рэйкі. Працавала нас чалавек 30. Брыгадзірам працаваў Філіпчык, дарожным майстрам - Саламонаў. Працавалі яны з "польскіх часоў". Затым Саламонава звольнілі і прыслалі нейкага рускага - невука ў гэтай справе. Важна было тое, што быў камуністам. Жонка была руская, п'яніца, усё выносіла з дому, прадавала за самагонку. Для людзей у той час гэта было дзіка.

Пасля работы брыгада збіралася ля канторы вывучаць сігналізацыю і правілы эксплуатацыі чыгункі. Толькі тады ішлі дамоў, а начаваць прыходзілі ў дом каменданта паліцыі супраць Гаеля (дзе затым была школа). На станцыі ўсю ноч стаяў паравоз "на парах". Нямецкія самалёты яшчэ залятaлі ў тыл фронту бамбіць.

Памятаю такі выпадак. У Вільні пусцілі цягнік на цягнік. Адзін эшалон з палівам у цыстэрнах успыхнуў. Узнік вялікі пажар, ад якога загарэўся горад. Усіх рабочых, якія начавалі ў доме каменданта, тут жа паднялі, пасадзілі ў вагон і спешна павезлі на дапамогу ў Вільню. Я туды не трапіў, бо мы з бацькам хадзілі начаваць па чарзе.

На Баранавіцкай 12-й дыстанцыі каляі Нёманскі акалодак доўжыўся ад Ганчароў да Яцукоў. Большасць часу мы працавалі на станцыі Нёман і на каляі да Яцукоў. Там больш за ўсё партызаны рвалі рэйкі і цягнікі, таму больш працавалі, чым у кірунку да прыпынку Ганчары.

У лістападзе месяцы брыгаду раздзялілі. Частку пакінулі на чыгунцы, другую паслалі выносіць лес да чыгуначнага палатна, той, які выразалі пры немцах абапал чыгункі на 100 метраў. Кіраваў нашай брыгадай Мішка Раманаў (так яго звалі на вёсцы) - сын Уладыся Раманава. Сястра Мішкі Соня была замужам за Ганевічам. Немцы тады гэты лес не бралі. Клопат у іх быў іншы - выразаць яго. Бярвёны выносілі рукамі на калочках па 20 чалавек. Бывала і больш людзей на хлыст лесу.

Грузіць бярвёны на вагоны цяжка. Чыгуначны насып высокі, ды яшчэ вагон не ніжэй. Клалі лагі з доўгіх хлыстоў знізу і на край вагона. Доўгія вяроўкі адным канцом прывязвалі да верху вагона, а другі спускалі ўніз да бервяна, агіналі яго і вялі назад цераз верх вагона на другі бок чыгункі. Там стаялі два кані з ворчыкамі. Вяроўку прывязвалі да ворчыка. Два чалавекі па канцах на версе вагона камандавалі конюхам, якога каня трэба прыпыніць, якога гнаць, таму што бервяно каціласа па лагах уверх у вагон не роўна. Тоўсты камель забягаў уперад у параўнанні з вяршыняй. Два чалавекі знізу суправаджалі бервяно па лагах. Мужчыны зверху ўкладвалі пры дапамозе калоў (рычагоў) бервяно ў вагоне.

Немцы загадалі не толькі спілаваць лес абапал чыгункі, але і скасіць усе пасевы. Так, на хутары Банько, на Падліпах (справа ад чыгункі ў кірунку Ліды, далей ад яго пад гасцінец хутар Букшы) прыйшлося скасіць палавіну свайго жыта.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Прафесар - падпаручнік**

Мітынг скончыўся, мы яшчэ дзень жылі ў саратаўскай "Асторыі".

Былі ўжо вялікія марозы. Адным ранкам мы ішлі ўчацвярых - Грош, Пастарнак, Грэгары, я. Мы ішлі ў нейкіх футравых шапках, пара вырывалася з роту, насы мерзлі.

Тут з-за павароту вынікла дзіўная здань. Чалавек у летнім непрамакальным плашчы, у галёшах, але без ботаў, без шапкі, з доўгімі валасамі, якія сягалі да шыі. Глядзім на яго ў аслупяненні, а ён ужо нас мінае, але паварочваецца і крычыць:

- Леан!

Пастарнак кідаецца да яго. Аказваецца, што гэта ... Норберт, вядомы нелегальны моладзевы дзеяч са Львова, замешаны нават у справе Дамбінскага.

Уцяклі са Львова з жонкай і дзіцем. Дабраліся да Растова. Асенняе гітлераўскае наступленне змусіла іх да паўторных уцёкаў. Дзіця ў дарозе памерла. Жонка ў гэты час ляжыць на падлозе на вакзале, ён сам выйшаў у роспачлівай надзеі...

Канешне Грош адразу растрывожыў Ванду. Абоіх паклалі ў шпіталь - бо абое па чарзе захварэлі на сыпны тыф...

Потым паляцелі назад. У Куйбышаве спыніліся ў гатэлі "Гранд". Быў гэта невялікі старасвецкі гатэлік, якраз ачышчаны, прыведзены ў парадак для замежных гасцей, якіх было шмат, бо менавіта тут размясцілі эвакуяваны з Масквы дыпламатычны корпус.

Сядзелі з Грэгары за вячэрай, калі да нашага століка прымасціўся шчуплы і высокі чалавек у вайсковым мундзіры ангельскага пакрою, але з самотнай зорачкай падпаручніка - тыпова польскай, якая зрэшты дзіўна яму не пасавала, бо па ўзросце выглядаў прынамсі на маёра.



*Саратаў, лістапад 1941 г. Радыё-мітынг. Сядзяць злева направа: Юліян Брун, Карняйчук, украінская артыстка Зоя Гайдай, Васілеўская, Максім Рыльскі. Стаяць: Аляксандр Ёчыс, Віктар Грош, Ендрыхоўскі, Путрамант, Пастарнак.*

---

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Wojna."** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

Належаў да світы Сікорскага. Той ужо быў у Маскве, наш падпаручнік заграз у Куйбышаве. Мы разгаварыліся.

Было гэта 2 ці 3 снежня 1941 года. Наш суразмоўца засведчыў, што ён прафесар Ягелонскага ўніверсітэта. Запыталіся ў яго, што думае пра сітуацыю.

- Сітуацыя мутная, - сказаў, - але дзве рэчы, проша паноў, не падлягаюць сумненню. Па-першае, Масква падзе ў любы дзень. Па-другое, Японія ў любы дзень нападзе на Савецкі Саюз.

Тыя блізкія па словах факты не здавалася, каб асабліва яго прыгняталі. Запыталі, як ён бачыць дальшы ход вайны, пачаў хваліць выбітныя абарончыя якасці Ірана, Афганістана, памежных індыйскіх гор...

Такая оптыка не магла не скончыцца катастрофай. Такое бачанне свету, такая ацэнка дзейных сілаў не маглі не прывесці да поўнага правалу ўсіх яе вызнаўцоў. Падаю гэты прыклад з асаблівым падкрэсліваннем даты той размовы. Бо рэдка гісторыя абвяргае палітыкаў так бліскавічна на працягу нямногіх дзён.

Сустрэў пазней яшчэ раз прозвішча нашага суразмоўцы. Недзе, мабыць, у сакавіку 1942 года было камюніке пра арышты сярод дэлегатаў "лонданскай" амбасады за злоўжыванні, антысавецкую прапаганду і нават шпіёнства. Наш падпаручнік-прафесар фігураваў у тым спісе. Былі яны, здаецца, высланы на Блізкі Ўсход.

У той час пачалося ўжо фармаванне частак арміі Андэрса. У Куйбышаве было поўна палякаў, прыязджаўшых у амбасаду з розных лагераў. Былі пераважна вельмі кепска апранутыя, галодныя і змучаныя. Амбасада не магла ўсім дапамагчы, але яе працаўнікі, згодна з найгоршымі традыцыямі бекаўскага МЗС, страшна задзіралі насы перад бежанцамі. У дадатак у асяроддзі амніставаных галоўнай тэмай размоваў былі антысавецкія пагрозы і звядзенне рахункаў з усімі, хто праявіў свае "чырвоныя" перакананні.

Прыходзілі да нас некаторыя з такіх бежанцаў, распавядалі. Канешне, нікому з нас і ў галаву не прыйшло, каб туды заглянуць. Чужынскасць той аджываючай буржуазнай дзяржавы была для мяне, напрыклад, звыш відавочнай.

**Вяртанне і падарожжа**

У пачатку снежня, адразу пасля той размовы мы вярнуліся ў Казань, у наш Круты завулак. Тут прыйшлі камюніке пра вайну Японіі з Амерыкай і Англіяй, а таксама, што найважней, пра паразу немцаў пад Масквой.

Я ўжо ўспамінаў, на працягу ўсяго лістапада сітуацыя на франтах па ціху праяснялася. Бадай што 30 лістапада прыйшла першая перамога - пад Растовам, вернутым савецкімі войскамі. Мы жылі ў чаканні станоўчых змен. Вяртанне Ціхвіна ўспрынялі з радасцю, але без нечаканасці.

А калі прыйшла вестка пра паразу пад Масквой, настроі нашыя развярнуліся. З нецярпеннем мы кідаемся да радыё, чакаючы на ранішнюю "зводку". Яшчэ на працягу некалькіх тыдняў былі весткі пра нямецкі адход. Пад самай Масквой адступілі немцы на сто - сто дваццаць кіламетраў. Зніклі іхнія высунутыя флангі ў кірунку Тулы і Разані, адступілі з Калініна. Аддалі Ялец.

Гэта было выдатна. Горш, што мы нічога не рабілі. Было вельмі цяжка з харчамі. Хадзілі на "рынак", на "таўкучку". Неяк удалося купіць трохі мёрзлай бульбы. Тлушчу не было. Сцерлі яе і спрабавалі спячы. Але і спечаная тоўстая пляцка яшчэ мела тую гнілую слодыч. Рэзалі яе на пласцінкі і зноў падпякалі...

Новы год у Крутым завулку... Прыйшлі некалькі знаёмых, у т.л. паэт Леў Ашанін, малады чалавек у акулярах, з абвіслымі, доўгімі, светлымі валасамі і яго жонка, унучка Глеба Ўспенскага. Мы мелі бутэльку гарэлкі, селядца, трохі ляндрынак. Дэкламавалі вершы, спявалі. Галоўнае, што займала нас, што з тым годзікам? Калі гітлераўская Германія лопне пад цяжарам сваіх злачынстваў?

Праз пару дзён дабралася да нас "тэлеграма-маланка", пасланая два тыдні таму назад. Выклікалі нас некалькіх у Саратаў для працы ў тамтэйшай радыёстудыі, дзе якраз адкрывалі спецыяльную польскую рэдакцыю.

Ехала нас некалькі: Грэгары, Пастарнак з жонкай, Галан, здаецца, Генрык Вернер, які недзе тут да нас далучыўся. Дасталі мы трохі спажывы - хлеб і сушаная вобла. Таксама білеты. Аднак, калі прыйшлі па вакзал і ўлезлі ў цягнік - аказалася, што месцаў, пазначаных на білетах, чамусьці няма. Было вольнае аддзяленне, але замкнёнае.

- Для чальцоў урада! - паведаміў кандуктар.

Доўга перамаўляліся. Сярод нас, на спрэчку, аднаго "чальца ўрада" ўдалося б знайсці, бо быў дэлегатам Вярхоўнага Савета адной з рэспублік. Пастарнак прымяніў моцны прыём, пагражаючы паскардзіцца...

- ... Лазару Маісеевічу..., - які тады быў яшчэ Народным камісарам шляхоў зносін.

Гэты скамбінаваны ўдар зламаў супраціў кандуктара, і першую частку падарожжа мы праехалі зносна, у асобным аддзяленні.

Але потым былі перасадкі. Памятаю Ружаеўку, вялікую вузлавую станцыю, забітую велізарным натоўпам пасажыраў. Тут трэба было чакаць амаль суткі. Нейкая дзяўчына-чыгуначніца запрасіла нас да сябе. Яна жыла каля станцыі ў вялікім пакоі, поўным дзяцей. Сядзелі там размаўлялі, некаторыя дон-жуаны спрабавалі фліртаваць з нашай гаспадыняй. Было звычайна і весела.Уражвала здольнасць гаспадароў - так проста і зычліва прымаць раней цалкам незнаёмых людзей... Развіталіся, як старыя прыяцелі або блізкія сваякі...

Нам паведамілі, што якраз грузіцца вялікі таварны цягнік. Бягом кінуліся на адну з бакавых калеяў. Канешне, доўгі, чырвоны ланцуг вагонаў. Але перад кожным людскі клубок.

Пакуль мы дабеглі, клубкі зніклі, затое ўсе дзверы былі пазачыняны. Нам толькі крычалі - няма месца. Прабіраліся далей.

Толькі пры адным вагоне яшчэ тлуміліся людзі. Дабеглі задыханыя. Але і тут якраз збіраліся зачыніць

дзверы. І тут не было шанцу: увесь вагон быў поўны вайскоўцаў, маладзенькіх малодшых лейтэнантаў.

Раптам нехта з нас адважыўся. Пачаў крычаць:

- Тут польскія пісьменнікі!

Як звычайна, закляцце дапамагло. Начальнікам групы тых малодшых аказаўся старэйшы лейтэнант Пятроў, хлопец гадоў дваццаці з нечым. Паглядзеў на нас, павёў рукой. Малодшыя зараз жа нас усіх уцягнулі. Якая дзіўная ўласцівасць чалавечай душы. Яшчэ хвілю назад мы былі поўныя наступальнага запалу, гатовыя лезці наперад і ламаць прывілеі тых, якія здалелі пралезці перад намі. А цяпер недзе ў глыбіні істоты грукае ў нас кансерватыўная развага. Ужо першае, што прыходзіць у галаву: бараніць, зачыняць дзверы...

**Дэзертыр**

Якраз дзяжурны "малодшы" збіраўся гэта зрабіць, калі недзе ў канцы гэтага натоўпу, які яшчэ стаяў перад вагонам, нехта крыкнуў:

- Леан!

Я выглянуў. Быў марозны ранак, дрэвы ў інеі, малінавае сонца. Тлум змарнаваных людзей з "сундукамі" на плячах. Усе махаюць рукамі, крычаць, клянуць. Зноўку крык:

- Леан!

Пастарнак высоўвае галаву. Раптам крычыць:

- Люсяк!

Цяпер і я разгледзеў дзіўную постаць у апошнім шэрагу чакаўшых. У шэрай вушанцы, высокі. Мае два элементы твару, якія ўзаемна выключаюць адзін аднаго. Чорныя акуляры рабілі з яго абсалютную кніжную моль, калі б не велізарныя, кавалерыйскія вусы ні то ля Пільсудскі, ні то а ля Сталін. Яны зноў зрабілі б з яго зуха, калі б не тыя акуляры.

У тую хвілю зрэшты і адно, і другое не важнае. Акуляры замерзлі, вусы пакрытыя ледзякамі. Як разгледзеў Пастарнака, не вядома. Але Пастарнак ужо балбоча Пятрову, і той ківае рукой. Праз хвілю таямнічы Люсяк размяшчаецца ў вагоне.

Яшчэ праз паўгадзіны цягнік рушыць. У вагоне едуць пяцьдзесят малодшых з групы Пятрова. Яны толькі што закончылі афіцэрскую школу і прызначаны ў дывізію, якая фармуецца недзе перад Саратавам. Нас цяпер васьмёра. І нарэшце пару чалавек выпадковых, у тым ліку адзін у строі псеўдавайсковым. Ён мае адзін незвычайны атрыбут: блакітную шапку так зв. унутраных войскаў НКУС, праўда выразна без зорачкі, "неактуальная", але ўсё ж яшчэ блакітная. Мы даём яму мейсца пры верхнім акенцы. Калі пад'язджаем да станцыі, гэты тып мае заданне выглядваць праз акенца. Нібы нічога, а ўсё ж адпужвае колькіх там аматараў падарожжа ў нашым вагоне.

Гэта класічная "цяплушка", г.зн. нармальны таварны вагон з жалезнай печкай пасярэдзіне. Абедзве паловы вагона акрамя таго запоўнены "нарамі", г. зн. ляжанкамі з дошак, прыкрытых пэўнай колькасцю яловых галінак. Ляжанкі двухпавярховыя, на кожнай памесціцца з дзесяць чалавек.

Укладваемся покатам. Вусатага акулярніка размяшчаем у найцямнейшым закутку, на першым паверсе - г. зн. проста на вагоннай падлозе. Праз пэўны час Рыся Пастарнак адсоўвае дошку ляжанкі, усаджвае руку ў шчыліну і падае вусачу то шклянку "гарбаты" ці кіпятку, то кавалак хлеба. Вусач не вылазіць са сваёй нары, хіба ноччу. Стараецца не трапляць нікому на вочы. Ён злачынец - і вельмі цяжкі злачынец. Гэта дэзертыр.

Ноччу Вернер і Пастарнак паўшэптам распавядаюць мне гісторыю вусатага Люсяка. Львовец - гэта зрэшты чуецца ў першым яго слове. З левай сям'і - яго дзядзька вельмі вядомы дзеяч галіцкай ПСДП, блізкі кампаньён Дашынскага. Але сам Люсяк - ужо камуніст. Першы арышт - бадай што ў веку гадоў шаснаццаці. Пару гадоў працы ў прадстаўніцтве партыі ў Берліне. Бяроза Куртузская, дзе, падобна, трымаўся як герой. Адтуль і знаёмства з Пастарнакам...

Пасля верасня стаў дырэктарам фабрыкі мыла ў Львове...

І дызертыр? Як найсапраўдней. Едзе цяпер на ўдачу, без хоць якога дакумента. Злоўлены, рызыкуе...

Мабілізаваны адразу пасля выбуху вайны. Пару тыдняў баёў і адступлення на Букавіне і паўднёвай Украіне. Потым - як "заходнік" - адкліканы з фронту ў "будбат". Колькі месяцаў у будбаце (працоўным батальёне) ў Марыйскай АССР, за Волгай. Выпадкова трапіла да яго газета з тэкстам нашага звароту пасля саратаўскага мітынгу. Даведаўся, што Ванда недзе тут. Таму дэзертыруе...

Уцякае са свайго "будбата" шукаць Ванду. Лічыць, што пры яе дапамозе зноў трапіць на фронт.

Што за шчаслівчык! У такім стозе сена, якім ёсць Савецкі Саюз, трапіць на тую голку, Леана! Нічога дзіўнага, што больш, чым спартанскія ўмовы падарожжа зусім яго не ўразілі. Ведае, што цяпер да Ванды дабярэцца. Мармыча нешта, калі Рыся ўсоўвае да яго руку з пайкай хлеба. Ёсць у тым нешта ад кармлення мядзведзя.

**Дзіўны пасажыр і штурм у Пензе**

Паволі складваюцца стасункі ў "вагоне старшага лейтэнанта Пятрова". Дзяжуру пры печцы. Бухае ад яе жар, і, хоць сцены бліскаюць крышталікамі лёду, досыць цёпла. На станцыях мы ходзім па ваду, з якой гатуем нешта в. а. гарбаты. Казанскую воблу мы ўжо з'елі. На большых станцыях на наш "выклік" атрымоўваем порцыю хлеба і часам талерку супу. Хлопцы Пятрова выключна мілыя, таварыскія, тактоўныя. Такая іх гурма - а ні слоўка брыдкага, ані зачэпкі на адрас нашай адзінай, вельмі прыгожай Рысі.

На кожнай станцыі вагон становіцца аб'ектам чарговага штурму. Наогул, мы адбіваемся досыць добра. Часам хапае той блакітнай шапкі. Часам адной фразы Пятрова, што вагон заняты вайскоўцамі.

Але часам здараюцца нахабнікі, рызыканты і камбінатары наогул выключныя.

Адным вечарам прыйшла іх цэлая калекцыя. Нехта прасіў. Нехта спрабаваў некага падкупіць.

Потым нехта зазірнуў, кінуў вокам і закрычаў:

- Залазь!

Лейтэнант кінуўся, але было запозна. Увайшлі два тыпы. Адзін глядзеў з пад ілба алавянымі, "прафесійнымі" вачыма. Другі... ў кайданках.

Першы, прыціснуты да сцяны, паведаміў, што канваюе арыштаванага. Гэта, зрэшты мы бачылі на ўласныя вочы. Хапіла б тых кайданкаў для ўсякага, толькі не для нас. Уражвальны кангламерат збройнай сілы Пятрова і нашай брахлівасці зламалі чары той інсцэнізацыі. Нехта спытаў паперы.

- Не бачыце? - выкрыкнуў канвойны, ківаючы галавой на арыштанта.

Мы паўтарылі пытанне. Яны пераглянуліся і саскочылі. Я высунуўся, паглядзеў услед ім.

Канвойны зняў кайданкі. Пайшлі разам далей, раззлаваліся, плююць часта на снег. А потым дзверы зноўку адчыніліся. Як у "Дзядах", працэсія прывідаў яшчэ не скончылася. Гэта быў апошні, найбольш несур'ёзны.

- Хто там? - закрычаў дзяжурны "малодшы".

- Хто? - спытаў прывід. - А вось зараз убачыш. хто...

З'явіўся чалавек абсалютна ніякі. Не за стары, не за малады, не за тоўсты, не за худы, не цывільны, не вайсковы. Стаў, паглядзеў, як бы глыбока медытуючы, ці вагон яму адпавядае.

- Грамадзянін, што хочаш? - спытаў трохі збянтэжаны дзяжурны.

Той на яго не паглядзеў, і дзяжурны цяпер ужо выразна абамлеў ад страху.

Мы вылезлі са сваіх нор, прыцягнутыя раптоўнай цішай. Пяцьдзесят маладых твараў паміж ляжанкамі. Распаленая печка, чырвоныя танцы ценяў. Пасярodку дзіўны пасажыр.

- Так, так , - сказаў, уздыхнуў і сыкнуў з жалем. - Што ж, цяжка...

- Што цяжка, грамадзянін? - спытаў дзяжурны нават з адценнем прыніжанасці.

- Гэты вагон. Не адпавядае нормам прызначэння, - адказаў таямніча дзіўны пасажыр.

Мы пераглянуліся паміж сабой. Была гэта цалкам новая з'ява. Веданне савецкай рэчаіснасці не было ў нас дастаткова глыбокім. Не ведалі, што гэта такое. Можа б прыродны польскі скептыцызм зайграў, але выгляд пяцідзесяці малодшых быў звыш незвычайны. Як скамянелі.

Дзіўны пасажыр паглядзеў яшчэ, паўздыхаў і нарэшце паведаміў рашэнне. Паказаў рукой на "бельэтаж" найбліжэйшай ляжанкі і сказаў Пятрову:

- Тут!

- Што тут? - прамармытаў Пятроў.

- Зрабіць мейсца.

- Як гэта мейсца? Навошта?

- Давядзецца зрабіць, - паўтарыў дзіўны пасажыр і зрабіў крок да Пятрова.

Не памятаю, што сталася крыкам пеўня, які перарваў чары. Тып зрабіў нейкую дробную памылку. Можа з'явілася ў яго нейкая інтанацыя просьбы? Можа нават толькі ўсміхнуўся?

Досыць, што цяпер усе па-просту заварушыліся, нехта засмяяўся. Не трэба было ў яго нават прасіць паперы.

- Эх! - сказаў з жалем і злосцю, пэўна на сябе самога за тую ўсмешку і пайшоў сабе. А мы бухнулі смехам і рагаталі на працягу добрых пяці хвілін, што нас так абвялі вакол пальца...

А потым была Пенза. Цягнік павольна пад'язджаў да перона. Тып у блакітнай шапцы выглянуў - і адразу ж адхіснуўся ўражаны.

- Хлопцы! - закрычаў. - Канец свету!

Столькі было аматараў падарожжаў на пероне. Мы чым найхутчэй забарыкадавалі дзверы, абкруцілі замок некалькімі столкамі дроту. Высунулі наперад дзяжурных. Непатрэбныя пахаваліся па кутах.

Цягнік спыніўся, і гвалт натоўпу. У суседніх вагонах выбухлі адразу скандалы. Дзясяткі рук замалацілі ў нашыя дзверы. Дзяжурныя крычалі:

- Вайскоўцы! Тут вайскоўцы!

- Мы таксама вайскоўцы", - крычалі знадворку.

- Тут афіцэры!

- Мы таксама афіцэры!

- Без камენданта не адчынім.

Была хвіліна адноснай цішыні, а потым тып у шапцы рыкнуў:

- Хлопцы, канец! Камендант! Палкоўнік! Такі вялікі!

Адразу за дзвярыма загрымеў бас:

- Я камендант! Адчыніць!

Дзяжурныя абамлелі! Па знаку Пятрова пачалі нават адкручваць дрот. Але камендант спяшаўся. Тузануў дзверы - і дрот лопнуў! Дзверы загрукаталі і падаліся ўбок.

Дзённае святло. У тым святле некалькі дзясяткаў узбуджаных твараў - і на першым плане велізарнае тулава каменданта.

- Хто тут старшы? - рыкнуў.

Пятроў дзелавіта выйшаў наперад.

- Таварыш палкоўнік, - шапнуў канфіндэнцыяльна. - Тут чальцы ўраду...

Як жа ж быў у вагоне нейкі пасажыр у футравай, вельмі пушыстай шапцы з чырвоным сцяжком дэпутата Вярхоўнага Савета нейкай з рэспублік - на лацкане. Камендант паглядзеў на яго. Урад той яму не заімпанаваў. Рэспубліка была, як на злосць, нейкая ледзь аўтаномная.

Камендант рыкнуў зноў. Тады загаварыў бядовы чалец ураду і таксама вельмі даверліва...

- Ведаеце, палкоўнік, тут польскія пісьменнікі...

Але і гэта не заімпанавала палкоўніку.

- Пісьменнікі? - рыкнуў. - Якія яны пісьменнікі? А калі пісьменнікі, то няхай едуць на фронт!

Гэтыя досыць нелагічныя прапановы вельмі мяне закранулі. Быў гэта першы і апошні выпадак, калі мая прафесія не выклікала належнага ўражання ў масавага савецкага чытача.

Калі і гэтая лінія абароны лопнула, у шэрагах абаронцаў выбухнула паніка. Старшы лейтэнант,

чалец ураду і польскія пісьменнікі дружна адступалі. І тады якраз з верхніх полкаў раздаўся нечаканы гром.

Галан у дарозе злавіў грып. Паклалі яго на верх, бо там было цяплей. Меў высокую тэмпературу, цэлы дзень не еў і нічога не гаварыў.

Цяпер сарваўся на ногі, растрапанымі валасамі датыкаючыся столі. Пальцам нацэліўся ў твар палкоўніку:

- Палкоўнік? - крыкнуў. - Ты не палкоўнік, ты ...

Тут ён вельмі даходчыва акрэсліў genus proximum палкоўніка. І, уявіце сабе, дапамагло. Палкоўнік неяк дзіўна зшарэў, галавой пакруціў.

- Тут нас абражаюць, - сказаў. - Тут нас абражаюць!

Махнуў рукой і пайшоў. Нават мне зрабілася шкада яго. За ім пайшлі ўсе, якія разлічвалі на мейсца ў нашым вагоне.

**Саратаў**

Думаеце, што выдумляю? Не памятаю толькі розных маляўнічых дробязяў. Што, напрыклад, здэмаскавала дзіўнага пасажыра? Таксама іншых розных сцэнак. Але не выдумаў ні паўслоўка. Як на выдумку, было б гэта ўсё надта трывіяльна.

Паехалі далей. У Рцішчаве мы пакінулі гасцінны вагон Пятрова. Тут здарылася гісторыя з чамаданам, вельмі дакладна апісаная мной недзе ў іншым месцы (апавяданне "Валізка" з кнігі "13 з Весялуна"). Потым з'явіліся мы ў Саратаве.

Польскую рэдакцыю радыёстанцыі імя Шаўчэнкі толькі стварылі. Яе ўзначаліў Віктар Грош.

Размясцілі нас у вялікай зале, дзе перад тым адбываліся сходы і прадстаўленні. На сцэне стаяла бюро Гроша. У глядзельнай зале нашыя пяць ці шэсць сталоў.

Грош меў свае велізарныя перавагі. Меў таксама, як гэта гаворыцца, сваю спецыфіку. Працу нашую падзяліў незвычайна арыгінальна.

Што дзень мы мелі пяць або шэсць перадач - па пяць, дзесяць, пятнаццаць хвілін. Заміж тэматычных рэфератаў Грош па-просту папрызначаў нам тыя перадачы, называючы кожнага з нас адказным за ўсё, што ў такую дзесяціхвілінаўку гаварылася. У перакладзе на мову эканомікі быў гэта пераход ад грашовай гаспадаркі да натуральнага абмену. Кожны пан на перадачы рабіў у сябе і палітыку, і літаратуру, і эканоміку. Нонсанс вялікі, абсалютны. Але Грош быў сабой задаволены. Непакоіла яго толькі, што будзе, калі яму павялічаць колькасць перадач і не дабавяць людзей...

Што дзень з раніцы мы ішлі ў вялікую залу. Сваю дзесяціхвілінаўку я рабіў за паўгадзіны - няйначай як пільны, старанны вучань X ці Y. Пацягваўся, уставаў. Грош быў неспакойны, намагаўся мяне пераканаць, што мушу "сваё адсядзець". Без цяжкасці разбіваў яго аргументацыю: паколькі даў нам акорд, калі яго хутчэй зраблю, рэшта дня мая... Гэта было перабольшванне, пасля паўдня трэба было яшчэ ісці на студыю, чытаць свае тэксты. Часам выпадала гэта позьнім вечарам. Сядзіш у халодным пакоі, дундзіш тую сваю дзесяціхвілінаўку, абсалютна пэўны, што цябе ніхто ў краі не слухае. Потым дадому. Тут толькі мароз. Снег скрыпіць, кавалак месяца, за горадам чырвоныя зорачкі ў небе і драўляны стук кулямёта: начныя вучэнні...

Гэтае пачуццё бяссільнасці перараджалася ў безадказнасць, калі так можна сказаць. Неяк рабіў справаздачу з такога чэшскага "радыёмітынгу". Была поўнач, ад нудоты хацелася выць. Пачаў ні з таго, ні з сяго польскі тэкст чытаць па-чэшску, акцэнтуючы першыя галосныя. Ніхто на гэта не звярнуў увагі: мы нават кантралёра не мелі!

Было нас, як ніяк, трое літаратараў: Пастарнак, Важык, я. Спрабавалі часам літаратурныя перадачы. Раз упяклі сатырычную перадачу з Гітлерам у галоўнай ролі. Мне даверылі гэтую ролю! Я ніколі Гітлера не чуў, не ведаю нямецкай. Па-просту сказалі мне, што я павінен раўці як найгучней, з найбольшым запалам.

Перадача зрабіла ў нас фурор: асабліва я! Прыбягалі да мяне знаўцы, пацiскалі рукі - гаварылі, што я прамаўляў лепш, чым сам Гітлер. Асабліва ўражвальна атрымалася сцэна, у якой на Гітлера нападае фурыя. Падобна, я быў фенаменальны. На віншаванні адказваў кіўком галавы. Па-просту слова не мог сказаць. Ахрып ад таго крыку і на працягу двух тыдняў разумеўся з атачэннем на мігі.

Пастарнак пісаў шмат сатырычных вершаў. Вельмі яму ўдаўся жарт на аб'яўленне вайны японскім міністрам замежных спраў Тога:

*То*
*га*
*бу*
*дзе*
*каш*
*та*
*ваць*
*до*
*ра*
*га.*

Таксама і я напісаў пару ваенных вершыкаў. Адзін, пра савецкіх лыжнікаў, быў нават перакладзены на расейскую мову нейкім мясцовым паэтам, у якога веданне мовы Міцкевіча была хутчэй фанетычнае, чым семантычнае. Пішу: *белыя завеі, белыя плашчы*. Жвава перакладае: *белае вые, белае плача...*

Ляпсус, зрэшты, невялікі ў параўнанні з адным драматургам, які на гонар нашаму народу склаў у свой час драму пад назвай "Бітва пад Грунвальдам". Ёсць там дыялог паміж Ягайлам і Ульрыхам фон Юнгінгенам.

*Вялікі магістр буркнуў:*

*- Данцыг...*

*Ягайла іранічна:*

*- Як вы сказалі? Данцыг? Вось не чуў... Гданьск і Гдыня - старажытныя польскія гарады...*

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Менску ў выдавецтве “Харвест” выйшла кніга Мітрафана Доўнар-Запольскага “Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель”, 240 ст., наклад 3000 асобнікаў.**







**У Менску ў выдавецтве “Кнігазбор” выйшла кніга Сяргея Чыгрына “На радзіме Ігната Дварчаніна”, 140 ст., наклад 99 асобнікаў.**







**У Менску ў выдавецтве “Лімарыус” выйшла кніга Мікалая Улашчыка “Даць народу гісторыю. Успаміны, лісты”, 560 ст., наклад 300 асобнікаў.**

**У Менску ў выдавецтве “Кнігазбор” выйшла кніга Пётры П. Мурзёнка “Шляхі да беларускай нацыі”, 326 ст., наклад 150 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшла “Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 42 (1556-1562)”, 192 ст., наклад 300 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў двухтомнік Алеся Марціновіча “Гісторыя праз лёсы”, Т. 1, 336 ст., наклад 700 асобнікаў, Т. 2, 352 ст., наклад 700 асобнікаў.**



**Капліца паўстанцаў 1863 года ў былым засценку Станкевічы Лідскага раёна.**
**Адноўлена ў канцы 2014 - пачатку 2015 гг.** *Здымак С. Судніка, 2016 г.*